АЛЕСЬ МАХНАЧ

# НЕ КАЖЫ: МАЯ ХАТА З КРАЮ...

П'ЕСЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1980

Махнач А.

М 36 Не кажы: мая хата з краю... П'есы.— Мн., Маст. літ., 1980.— 112 с.

30 к.

Творы гэтага зборніка адрасаваны драматычным гурткам і народным тэатрам.

Аўтар выкрывае п'янства, бюракратызм, мяшчанства — тыя заганы, якія, на жаль, яшчэ падчас там-сям сустракаюцца ў нашай рэчаіснасці.

М $\frac{70202-041}{М\ 302(05)-80}$ 81—80 4702120200

ББК 84Бел7
Бел 2

# НА ПАЛЯВАННІ

## ТРАГІКАМЕДЫЯ-ПЛАКАТ
## У ДЗВЮХ ЧАСТКАХ, ПЯЦІ КАРЦІНАХ

**Дзейнічаюць:**

Драматург.
Сідар.
Агата.
Самавук.
Бульба.
1-я Дама.
2-я Дама.
Ірэна.
Андрэй.
Афіцыянтка.
Музыкі.
Чорт.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## Карціна першая

Кабінет у канторы калгаса. За сталом — старшыня праўлення сельскагаспадарчай арцелі Б у л ь б а. Ён вядзе размову па тэлефоннаму селектару.

Б у л ь б а *(у мікрафон)*. Міша! Нагляднаю агітацыю паднаві! Баявыя лісткі і насценгазету таксама... Глядзі, каб у Доме культуры быў парадак! І бібліятэкарцы перадай, няхай літаратурную выстаўку пра нашага земляка-драматурга зробіць. Ён завітаў у калгас на паляванне... Ну, разумееш, на творчае... Камандзіроўка ў яго такая. Кажа: «Хачу тут у родных мясцінах за што-небудзь жыццёвае зачапіцца, камедыю напісаць...» Разумееш, сатырычную! Учора заходзіў у кантору...

Стук у дзверы.

*(Паспешна выключае мікрафон.)* Калі ласка!

Уваходзіць Д р а м а т у р г.

Д р а м а т у р г. Раніцы добрай! *(Радасна.)* Можаце віншаваць! Знайшоў свайго героя! Праўда, не галоўны... А вы казалі...

Б у л ь б а *(устаўшы з-за стала, вітаецца за руку. Здзіўлена)*. Дзе? Каго?

Д р а м а т у р г. Ля крамы! *(Паказвае праз акно)*. Нібы прывязаны да яе. Толькі худы занадта. Усё адно як Кашчэй Смяротны.

Б у л ь б а *(глянуўшы на вуліцу)*. Алкаголік! Яны ўсе такія, ходзяць галодныя — ашчаджаюць на «чарніла».

Драматург. Цікава ведаць, што зрабілі вы як старшыня калгаса, каб гэты чалавек быў Ча-ла-ве-кам?

Бульба. Гаварылі... штрафавалі... на пятнаццаць пасылалі... Пацішэў: вокны ў канторы не калоціць, разбой на вуліцы не ўчыняе.

Драматург. І па-ранейшаму б'е жонку?

Бульба. Сямейны гаршчок заўсёды кіпіць. Тут наша хата з краю! Праўленню сваіх клопатаў хапае. Барацьбу за хлеб трэба весці.

Драматург *(падкрэсліваючы)*. І за Ча-ла-ве-ка!

Уваходзіць калгаснік Сідар. Ён нечым прыгнечаны, моўчкі стаіць ля дзвярэй, затым пачынае плакаць.

Бульба *(паказваючы на Сідара)*. Калі ласка! Палюбуйцеся на яго! Лынды б'е, цянькі ацірае! Усё ўзваліў на жончыны плечы!.. Што ж, Сідар, твая Агата працавітая. Кароўцы сена стараецца зарабіць і цябе, чарніліка, пракарміць, адзець...

Сідар. Паіцель і карміцель наш! Скажы, колькі грошай адпускае праўленне на пахаванне свайго калгасніка?

Бульба. Дакаціўся! Тым светам пачынаеш цікавіцца?! Краем магілы ходзіш! Адумайся!

Сідар. Выдайце маю долю!.. У мяне гора... Цяжкі камень на душы... *(Пачынае галасіць, нібы па нябожчыцы.)* Няма ж ужо мае Агаткі!.. Куды ж ты, бобачка, пакацілася?! Куды ж ты, рыбка, паплыла?! Куды ж ты, пташачка, паляцела?! У якія ж ты прочкі пайшла?! Што ж ты так рана мяне пакінула?!...

Бульба *(насцярожыўся)*. Што з Агатай?

Сідар *(працягвае галасіць)*. Хто ж мяне сустракаць будзе?! Хто ж мне цяпер дзверы адчыніць?!

Бульба *(перапыняе. З трывогай)*. Што здарылася?

Сідар. Няма!.. Няма Агаткі...

Бульба. Чаго пляцеш? Учора была на сенакосе.

Сідар. Была... Ноччу не стала... Сэрца... нервы... не вытрымала...

Б у л ь б а *(цяжка ўздыхнуўшы).* Не жонка, а золата было ў цябе! Не шанаваў, не цаніў. Радасці за табой яна не бачыла... А чалавек мог бы яшчэ жыць ды жыць...

С і д а р *(плача роўма).* Старшыня! Не чужыя рублі прашу, свае, законныя!.. На пахаванне мне паложана?..

Б у л ь б а. Вядома. *(Дастае з кішэні грошы.)* Тут у мяне некалькі рублёў... А прыедзе касір з банка, афармім грашовую дапамогу праз бухгалтэрыю. Вазьмі, Сідар, сябе ў рукі. Праўленне зробіць усё, што трэба. У цяжкім горы цябе не пакіне... Мацуйся!..

С і д а р *(схапіўшы грошы, ледзь не цалуе рукі Бульбе).* Абавязкова! Паіцель і карміцель! Век не забуду! За мною не прападзе... *(Выбягае з канторы.)*

Б у л ь б а *(развёўшы рукамі).* Трагедыя тут, таварыш драматург... *(Некаторы час стаіць у жалобным маўчанні, а затым уключае селектар. У мікрафон.)* Дом культуры! Дырэктара!

Г о л а с з м і к р а ф о н а. Валошка слухае!

Б у л ь б а. Міша!.. Тэрмінова збірай духавы аркестр.

Г о л а с з м і к р а ф о н а *(радасны).* Сустракаем? Каго? Сатырыка?..

Б у л ь б а *(перапыняе).* Міша! Міша! Не дуры!.. Праводзім... У апошнюю дарогу... Памерла Агата Суконка... З першай брыгады... За табой, Міша, аркестр, партрэт у чорнай рамцы, два вянкі — ад прафсаюза і ад калгаснікаў...

Г о л а с з м і к р а ф о н а. Таварыш старшыня! З аркестрам не атрымаецца. Трамбон каровы пасе, труба на сесіі завочнікаў, бубен на курорце...

Б у л ь б а *(зноў перапыняе).* Міша! Трэба з аркестрам! Нябожчыца ў перадавіках хадзіла... З канторы прышлю эканаміста, бібліятэкарка ў бубен паможа... Партрэт Агацін з «Алеі перадавікоў» знімі, аблямуй чорнай стужкай... Праз тры гадзіны прыязджайце на пахаванне!.. *(Пераключае мікрафон.)* Сталярны цэх! Загадчыка!

Г о л а с з м і к р а ф о н а. Слухаю, таварыш старшыня!

Б у л ь б а. Сцяпан Пятровіч! Як у вас там справы?

Г о л а с з м і к р а ф о н а. Пілараму адрамантавалі, рэжам трэцюю брыгаду.

Б у л ь б а. А ў нас тут няшчасце: наша лепшая калгасніца Агата Суконка... памерла...

Г о л а с з м і к р а ф о н а *(трывожны)*. Што вы? Калі?

Б у л ь б а. Гэтай ноччу... Раптоўна... Сэрца... Кідайце, Сцяпан Пятровіч, усю работу, рабіце труну... Раскошную... Абабіце кумачом... Каб усё як след! І двух чалавек пашліце магілу капаць... У дзве гадзіны хаўтуры. Адкладваць на заўтра няма як, сенакос — гарачая пара...

Г о л а с з м і к р а ф о н а. Зробім!

Б у л ь б а *(выключае мікрафон)*. А вы, таварыш драматург, камедыю захацелі...

Д р а м а т у р г. Жыццё! Нікуды не дзенешся. І на паляванні ўсякае здараецца. Ідзеш на зайца, а бывае на мушку сам воўк бяжыць. Так і ў творчай працы... Буду пісаць трагікамедыю!

Б у л ь б а *(устае з-за стала)*. Дапамагчы вам не змагу. Трэба хаваць чалавека...

*З а с л о н а.*

### Карціна другая

Двор і хата Сідара Суконкі. Дзверы ў сенцы прыадчыненыя. Вісіць трывожная цішыня. Яна раптоўна разрываецца жалобнай мелодыяй духавога аркестра. Праз веснічкі ў двор накіроўваецца п а х а в а л ь н а я п р а ц э с і я з вянкамі: «Агаце Нікадзімаўне —ад прафсаюза сельскагаспадарчай арцелі...», «Вечная слава дарагой нашай ударніцы...— ад калгаснікаў...». Услед нясуць труну, века. Яе ставяць на шырокую лаўку, што пасярод двара, а побач — партрэт Агаты, аблямаваны чорнай стужкай, вянкі. Аркестр працягвае надрыўна іграць жалобны марш. Нечакана з касою на плячы і пасцілкай травы ў руках прыбягае А г а т а. Яе ніхто не заўважае. Жанчына на нейкі міг аслупянела, калі ўбачыла ля труны свой партрэт і вянкі, адрасаваныя ёй.

А г а т а *(кідаецца да труны. Трасучы касою ў*

*паветры, да аркестра).* Людцы! Стойце! Што ж вы робіце?!

Музыка абрываецца. Усе застылі ў нямым страху. Затым пачуліся спалоханыя крыкі. А р к е с т р а н т ы ў паніцы, згубіўшы бубен, які пакаціўся па двары, кінуліся ўцякаць, многія цераз плот.

*(Зняможаная апускаецца на ганак.)* Я на тым свеце ці на гэтым? Няўжо сапраўды нябожчыца?.. А можа, сон такі?.. Страшна... *(Ушчыкнула вуха, нос.)* Гм!.. Не сплю... *(Прыпамінае.)* Вось каса... Пасцілка... На абед ішла, парасяці травы захапіла... *(Падыходзіць да труны, прыстаўляе да яе ўзгалоўя касу.)* Каму спатрэбілася жывая душа?.. Тут, напэўна, не абышлося без майго Сідара?! Расказвалі: ён жа на мінулым тыдні, каго ні сустрэне на рынку, галасіў і збіраў па тры рублі на пахаванне цешчы... *(Плача.)* Дадумаўся і на тым свеце трывожыць костачкі мамы. *(Выцірае слёзы.)* Хаця ці добрую дамавіну зрабілі?.. *(Абмацвае труну з з усіх бакоў).* Спраўная!.. Свінням карыта добрае выйдзе... І цяляці пад пойла... *(Заглядае праз весніччкі на вуліцу. Схапіўшыся за галаву.)* Яшчэ аднаго нячыстае гоніць на мае хаўтуры!.. Вунь старшыня калгаса пад'ехаў на «газіку»! Вянок цягне... Гэта яго работа! Ён адпусціў грошы на дамавіну ды на розныя стужкі! У майго п'яніцы, каб дошка завялася, прапіў бы! *(Рашуча.)* Ну, старшынька, трымайся! Я табе адпяю: «Вечная слава...»! Я табе пакажу: «...ад прафсаюза...» і «...ад імя калгаснікаў...»! *(Лезе ў труну, складвае рукі накрыж, заплюшчвае вочы і ляжыць нібыта нежывая.)*

З'яўляецца Б у л ь б а з вянком «... ад праўлення сельскагаспадарчай арцелі... спі спакойна, дарагая і любімая...», які ставіць ля труны.

Б у л ь б а *(зняўшы шапку, агляпуўся. Убачыўшы, што паблізу нікога няма, пачынае абнімаць, цалаваць «нябожчыцу». Са слязамі).* Адгаравала сваё... адпрацавала... Ты, Агатка, як той птах, раней за ўсіх уставала, пазней за ўсіх спаць клалася... Табе, мая мілая, жыць бы ды жыць!..

Мне ў маладосці хацелася стаць перад тваёй прыгажосцю на калені! Я цалаваў твае сляды! Сохнуў па табе... Начэй не спаў... Даруй, што быў нейкі нясмелы, цяльпукаваты і не адважыўся прызнацца ў сваім каханні... Дарагая мая! Харошая... Толькі ты дасталася іраду, які без пары цябе на той свет загнаў... *(Аглянуўшыся яшчэ раз, зноў абнімае і цалуе Агату.)* Бывай, каханая мая! Бывай назаўсёды, родная!.. *(Змахнуўшы слязу з вачэй, накіроўваецца ў хату.)*

З труны ўстае Агата, бярэцца за касу.

Агата. Старшынька! Стой!

Бульба аглянуўся і замірае на ганку.

Калі ты цягнуў гэты вянок на маё пахаванне, мерылася табе галаву зрэзаць! *(Паказвае, як бы гэта зрабіла.)* Вось так: шась! *(З касою набліжаецца да Бульбы.)*

Бульба *(стараецца ўзяць сябе ў рукі, не паказаць разгубленасці і страху).* Нябожчыца! Ты што? Здурэла?! Пастаў касу! Не смяшы людзей! Скора народ збярэцца, аркестр прыйдзе... Жалобны мітынг сарвеш... Разумееш?! Сенакос — час гарачы... Вырашылі цябе сягоння пахаваць...

Агата. Не бойся! Ад тваіх пацалункаў ды ад такіх абнімкаў гарачых і слоў любоўных уся мая злосць прапала. Яны ж нежывую разбяруць, з магілы мёртвую падымуць!.. *(Пасля паўзы. Іранічна.)* Мужчына... Смерці спужаўся!..

Бульба. Агатка! Каму ж цяпер паміраць ахвота? Жыццё — маліна! Багатымі сталі. Бачыш, як праўленне раскашэлілася, каб цябе пахаваць: з музыкай, з вянкамі, з партрэтам... Жалобны мітынг будзе... І помнік з мармуру паставім! Золатам высечам, хто ты такая... Я напісаў па табе памінальную прамову. У труне паслухаеш, як буду хораша пра цябе гаварыць... Агатка! Сядай, пішы заяву, на тваёй магіле бюст паставім! Бронзавы! Заслужыла!.. Ну, чаго табе не хапае пры такім жыцці?!

А г а т а. Ласкі! Пяшчоты!.. *(Хоча абняць Бульбу.)*

Б у л ь б а. Нябожчыца! Вядзі сябе прыстойна! А то... будзе...

А г а т а *(зацікаўлена).* Што «будзе»?

Б у л ь б а. За хуліганства!

А г а т а *(залівaецца слязьмі).* Ніхто ж ніколі так не цалаваў мяне і не абнімаў і такіх харошых слоў пра каханне не гаварыў мне, як ты, старшынька, цяпер, калі я ляжала ў дамавіне. Мой чарнілік толькі адно ведае: шклянку цалаваць, а больш нікога і нічога не бачыць!.. *(Мяняе тон.)* Дзякуй за дамавіну! Дошак не пашкадаваў... *(Нечакана для Бульбы кідаецца яму на шыю.)*

Б у л ь б а *(асоўваецца на калені).* Агатка! Пусці!.. Ідзі кладзіся!..

А г а т а *(адкінуўшы касу).* Куды?

Б у л ь б а. У дамавіну! Людзі скора прыйдуць...

А г а т а. Старшынька! І ты мяне жыўцом у нябожчыкі спісваеш? Я ж яшчэ баба гарачая! *(Бярэ руку Бульбы і сілком прыкладае да сваіх грудзей.)* Чуеш, сэрца стукае...

Б у л ь б а *(здзіўляючыся).* А-га! Жывая...

А г а т а. Зацюханая, забітая горам, а дай мне мужыка ў дом добрага, я табе кветкай закрасую, паўсвета прыгалублю! *(Зноў пачынае плакаць.)* Што бачу харошага?! Дзень пры дні калатня. Сын з'ехаў у горад. Праз бацьку, каб пальцамі ў вочы не тыкалі... Нясу цяжкі крыж, стаю адной нагою ў магіле. Тут без пары жыўцом на той свет пойдзеш... Што рабіць, розуму не прыкладу. Сідар зусім ад рук адбіўся. Усё яго жыццё — у бутэльцы. Гэтай ноччу набрала ў галаву і рашылася: прапападай пропадам, хоць на галаве хадзі! Усё кінуларынула і ўпрочкі да сястры ў горад падалася. Ды з паўдарогі вярнулася: успомніла, што Красуля галодная застанецца ды ён жа, пустадомак-п'яніца, хату за тыдзень растрасе, усё на вецер пусціць, усё да нітачкі прагайдамачыць, пралайдачыць — ні кала ні двара не застанецца... Дык я выгнала кароўку пастуху і касіць падалася. Там жа ля Саўкавага лесу хмыз, касілкай не развернешся, касою

трэба... І вось, вярнулася на абед, чую, ля хаты маёй музыка адыходную грае. Глянула, дык уваччу пацямнела, млосна зрабілася: па мне трызну спраўляюць... Нават яшчэ не апамяталася, што са мною...

Бульба. Вось яно што?! Абуў у лапці мяне твой Сідар, купіў... Так пусціў дым у вочы, што нават свае апошнія рублі вытрас на тваё пахаванне. Прабач, Агатка, што так атрымалася...

Агатка *(плача)*. Ён свет завязаў, сеў на карак ды рве мае жылы. Дзень пры дні палец аб палец не вытне. Калі ўведае, што капейчына завялася, будзе поўзаць на каленях: «Агатка, бобачка, рыбка, дай на сто грамаў!» Што ні раблю — выманьчыць, дзе ні схаваю — знойдзе... Такі спрытнюга, што з-пад сучкі грошы выкрадзе. Проста лісіцай падшыты! *(Паказвае на труну.)* Яго работа! Чыстая! Нічога не скажаш! Трэба ж дадумацца...

Бульба. Досыць цацкацца з тваім дурнем! Заяву даўно нашу! *(Дастае з кішэні паперу.)* Пастаў і тут свой подпіс, што просіш і моліш, каб твайго мужа забралі на прымусовае лячэнне...

Агата *(падпісвае)*. Вось пра гэта і я вам сваю песню! Трэба, трэба лячыць! Ад яго ўжо неба і зямля стогнуць. Усім як костка ў горле. Нікому няма праходу і праезду: ні пешаму, ні коннаму, ні трактару...

Бульба *(забірае заяву)*. Сэрца трымай рубам! Ён жа твайго падноска не варты! Будзеш канаць, а Сідар і вады не падасць, у начоўках утопіць. Сёння твайго бэйбуса забяруць! *(Адчыняе веснічкі, збіраецца выходзіць. Прыпыніўшыся.)* Глянь! Здаецца, твой Сідар платы па вуліцы падпірае, у мітуські ідзе?..

Агата *(глянуўшы цераз плот. З трывогай)*. Зноў ногі лыка не вяжуць! Старшынька! Пабудзь! Можа, яму мазгі ўправіш. Ён жа, як набярэцца, смалою чапляецца, б'е мяне няма за што. Іншы раз думаю: хоць ты захлыніся, хоць у вір галавою — не гляну ў той бок, прамаўчу. А ён вылупіць вочы, нібы іх у жменю возьме, ды з кулакамі кідаецца: «Чаго, ведзьма, не глядзіш на мяне?»

А то, бывае, не стыкаеш вачэй — усю ноч на караўуле. Сустрэнеш п'янага, лістам перад ім сцелешся, і зноў на мяне руку падымае: «Чаго ты бельмы вылупіла?» Ну, каб даў кухталя ды адвязаўся, а то на горкае яблыка збівае. І за што? Што стараешся скакаць пад яго дудку. За тое, што яму, як той скуле, дагаджаеш... Цвярозы — залаты чалавек, хоць да раны прыкладай. А вып'е — не давядзі гасподзь бог, звер — зверам! Пад п'яную руку не пападайся — знявечыць!

Б у л ь б а *(з дакорам)*. Можа, яшчэ папросіш ордэн за гэта? Патолю дала! Выпусціла з рук лейцы! Вось і загнаў у хамут, панукае табой.

А г а т а. Добра вам казаць.

Б у л ь б а. Тут чужое цялятка мычы, а тваё — маўчы! Патурала Сідару! Вось што! Цяпер чухаеш патыліцу, равеш роўма, рвеш на сабе валасы. А вазьмі добры дрын ды аддубась як мае быць, каб назаўтра сесці не змог тым месцам, дык, нябось, нідзе не дзенецца — асядзе, шаўковым стане, на пальчыках будзе хадзіць перад табою, як балерына.

А г а т а. Парады даваць вас многа знойдзецца...

Б у л ь б а. Тады загадай свайго мужа на ланцугу трымаць!

Чуваць, як набліжаецца Сідар. Ён гарлапаніць:

Шумеў, як мыш,
Дзярэўня гнулась,
А мілка чорная была...

А г а т а. Цікава, ці будзе Сідар плакаць па мне, як памру? *(Зноў кладзецца ў труну.)*

Бульба, зняўшы шапку, стаіць моўчкі. З'яўляецца С і д а р.

С і д а р *(п'яны)*. Паіцель і карміцель наш! Ты мяне выручыў...

Б у л ь б а *(адводзіць ад сябе рукі Сідара)*. Перастань! *(Позіркам паказвае на Агату, якая ляжыць у труне.)*

С і д а р *(убачыўшы жонку, кідаецца да яе, у роспачы галосіць)*. Агатка! Што ж ты нарабіла?!

Я першы збіраўся... Нават аванс пад камандзіровачныя мне сёння старшыня выдаў!.. Мая ты рыбка! Мая ты бобачка! Маё ты золатца! Птушачка залётная!.. Ох! Людцы! Няма ж ужо мае Агаткі!.. Няма!.. *(З крыкам, нібы вар'ят, бяжыць на вуліцу, адкуль чуваць яго лямантаванне.)* Людцы!.. Лю-ю-ю-д-дцы!.. Ратуйце!.. Няма Агаткі...

А г а т а *(расплюшчыўшы вочы).* Хораша галосіць. Яшчэ не прапашчы. Сэрца недзе ёсць, не ачарсцвела зусім... Шкадуе...

Б у л ь б а *(іранічна).* Чакай! На руках панясе, на саначках-маляваначках павязе... з хаты нагамі ўперад... за сяло пад старую бярозу!

А г а т а. Паляжу яшчэ. Прыемна вось так быць нябожчыцай: ляжаць у дамавіне і слухаць, як па табе хораша галосяць, шкадуюць. І хто? Мой Сідар! Можа, за розум возьмецца?..

Б у л ь б а. Не смяшы людзей. Канчай камедыю!

З'яўляецца С і д а р. Зноў кідаецца да жонкі, цалуе рукі, ногі.

С і д а р *(працягвае галасіць).* Агатка! Бобачка-рыбка! Каб ты ўстала, век бы ў печы паліў, век бы ваду насіў, век бы Красулю даіў, век бы не піў...

А г а т а *(спрытна хапае адною рукою мужа загрудкі, другою за касу. Устаючы з труны).* Не піў бы?

С і д а р *(заікаючыся ад страху).* Не... не... Ні кропелькі...

А г а т а *(грозна).* І за мяне ўсю мужчынскую работу будзеш рабіць?!

С і д а р. Бу-бу-буду...

А г а т а. Што «бу-бу»?

С і д а р. Не піць... Красулю даіць... Адпусці на пакаянне...

А г а т а *(замахваецца на мужа касой).* На калені!

С і д а р *(укленчыўшы).* Нябожчыца Агатка! Злітуйся!

А г а т а. Кляніся, што крыж паложыш на «зялёнага змея»!

С і д а р. Клянуся, бобачка, рыбка! Не памяні,

гасподзь бог, мінулыя грахі мае, ды і наперад авансам даруй! *(Хрысціць жывот.)* Во! Крыж на пуза... і найсвеншая матушка...

Агата. Што за «найсвеншая»?.. Чаго губы закапыліў, не мычыш і не целішся?! Адказвай!

Сідар. Гэта — дальбог... чэснае слова... Завяжу! Як піць даць, завяжу! Корак ад бутэлькі не панюхаю ні цяпер, ні вечарам. *(Цалуе жонцы ногі, рукі. Плача.)* Павер! Вось старшыня — наш паіцель — не дасць мне зманіць. *(Да Бульбы.)* Я ж не казаў, што жонка мая памерла. Праўда? У канторы я плакаў, шкадаваў, што ты, Агатка, ад мяне ўпрочкі пайшла. Гэта старшыня не даў мне пра ўсё дагаварыць. Толькі пачну пра сваё гора, а ён мне лекцыю чытаць, перапыняе... *(Зноў да Бульбы.)* А грошы прасіў свае, законныя. Тыя, што пасля маёй смерці праўленне адпусціць на маё пахаванне. Навошта ж нябожчыку грошы? Куды ты [redacted] імі тады пойдзеш? Ты мне іх цяпер аддай, пры жыцці... Свой аванс правільна атрымаў!

Бульба. Хоцькі-няхоцькі, Сідар, а баль твой кончан! Уставай! Даўся ты ў знакі! *(Паказвае заяву).* Вось хадатайства ад праўлення і ад тваёй жонкі. Давай па добрай волі цябе ў міліцыю адвязу, а не — сілаю забяруць. Хадзем! І табе лепш будзе і нам спакайней. Тут другія суткі за мной ходзіць наш зямляк, драматург-сатырык. Усё пра цябе распытвае. Камедыю хоча напісаць...

Агата. Старшынька! Пачакай! А пры чым тут міліцыя ды гэты сатырык? Ты ж казаў, што Сідара недзе лячыць пашлеце...

Бульба. Захацела пуцёўку яму на курорт у Гагры?! Спадзяешся разам [redacted] мужам у камедыю трапіць, праславіцца? Не будзе гэтага! Сідара твайго за калючы дрот на два гады! У лячэбна-выхаваўчы прафілакторый! Ёсць такія бальніцы для такіх!

Агата *(забірае з рук Бульбы заяву).* Дайце мой подпіс!

Бульба. У хамут?

Агата. На свой хвост брахаць не стану!

Бульба. Агата! Адну лінію трымай! Чым лячыць мужа будзеш?

Агата. Кіем! Бачылі, на каленях поўзаў!

Сідар. Рыбка! Бобачка! Не губі! Адмаўляйся ад подпісу! Памілуй! І цябе некалі пад гарачую руку памілую!

Агата *(рве на шматкі заяву. Паказвае на плот)*. Вось маё лякарства! Любая шчыкеціна! Па чым папала буду біць: альбо калекам зраблю, або чалавекам стане!

Сідар *(падхопліваецца на ногі, цалуе жонку)*. Табе, Агатка, толькі пракурорам быць! *(Здзіўлена.)* Гм! Жывая... Як гэта ты ўмудрылася ўстаць з дамавіны?.. Радасць якая!.. *(Дастаўшы з кішэні паўлітра гарэлкі.)*

Бульба *(махнуўшы рукою)*. Тут абое рабое — адным швом шыты: і муж і жонка! Хоць насы адзін аднаму паадкусвайце, а да мяне ні кроку! Я вам больш не суддзя і не дарадца! *(Выходзіць.)*

Сідар *(услед)*. Перад табою шапку ламаць не збіраюся! *(Размахваючы паўлітрай.)* Гэта аванс! Там яшчэ мае пахавальна-жалобныя засталіся! Сваё судом сышчу!

Агата *(убачыўшы гарэлку)*. Родныя мае! Адкуль зараза?!

Сідар. Баба! Вып'ем, каб больш не піць!

Агата *(выхапіўшы бутэльку, разбівае яе аб камень)*. Смалы!

Сідар *(пазяляней ад злосці)*. Гадаўка! Што ж ты нарабіла?! Усё магу дараваць, а гэтага не пацярплю! Такое дабро прахам пусціла!.. *(Гнеўна адрывае ад плоту шчыкеціну і ёю пачынае біць жонку.)* Я табе памру! Я табе ўваскрэсну! Не будзеш мне тут тэатр паказваць.

Агата галосіць і хаваецца ў труну, засланіўшыся яе векай. Убягае Драматург.

Драматург. Стой! Стой!

Сідар *(са шчыкецінай у руках запыняе)*. Стаім! Ты хто такі, каб умешвацца ў маё інтымнае сямейнае жыццё? *(Паказаўшы на труну, у якой ляжыць Агата.)* Да яе захацеў?

Драматург. Я ваш аднавясковец, драматург-сатырык...

С і д а р. І што?

Д р а м а т у р г. Пішу для тэатра сатырычныя творы... А Гогаль калісьці так сказаў, што людскога смеху баіцца ўсякі, нават той, які ўжо нічога на свеце не баіцца... Дык вось я прыбег на кліч... чалавека ратаваць...

С і д а р *(адкінуўшы шчыкеціну)*. Мілы мой Гогаль! Ты адзіны, хто мяне на ўвесь свет праславіць! Давай за гэта вып'ем!

Драматург настаўляе на Сідара аўтаручку, той натыкаецца на яе вострае пяро. Абодва стаяць нерухома, нібы хочуць запытацца адзін у аднаго: «Ну! Хто тут каго адолее?»

*З а с л о н а.*

## Карціна трэцяя

Летняя кавярня ў гарадскім цэнтры. Бачна толькі частка столікаў пад тэнтамі, якія нагадваюць грыбы-парасоны. На заднім плане — рог будынка, будка тэлефона-аўтамата, слуп, плот. Канец працоўнага дня. А ф і ц ы я н т к а забірае парожні посуд, выцірае столікі. За адным з іх п'е піва І р э н а. Па яе вычварным адзенні і валасах, што засланілі твар і вочы, цяжка сказаць: гэта хлопец, ці дзяўчына, ці стары дзед. У другім кутку за бутэлькай піва — Д р а м а т у р г і Б у л ь б а. Яны працягваюць размову.

Б у л ь б а. І, калі ласка, не ўмешвайце мяне ў гэтую ўчарашнюю гісторыю з Агатай!..

Д р а м а т у р г. Вам як кіраўніку сельскагаспадарчай арцелі не хапае мужнасці выяўляць!

Б у л ь б а. З кім?

Д р а м а т у р г. З самім сабою, каб выратаваць Сідара.

Б у л ь б а. Прабачце! За Сідара яго долю не выпіваў і не збіраюся! Мне праз гадзіну на бюро райкома справаздачу трымаць пра сенакос...

Д р а м а т у р г. Будзе Чалавек — будзе і сена, і хлеб, і да хлеба...

Б у л ь б а. Толькі не знойдзеце канца свайму твору. Тут семнаццаць год адным цветам: Сідар як піў, так і п'е, а бедная кабеціна як гаравала, так і гаруе.

Драматург. Жыццё падкажа.

Бульба. Для каго пішаце сваю трагікамедыю? Алкаголік у тэатр не ходзіць, яго туды на вяроўцы не зацягнеш.

Драматург. Пішу якраз для тых, хто прыйдзе глядзець спектакль... Калі загарыцца дом, тады позна гаварыць яго гаспадару пра пажарную бяспеку...

Бульба *(паказаўшы жэстам)*. На лёгкі ўспамін герой вашага будучага твора! Сюды цягнецца. Аддаю Сідара вам.

Драматург. Аднаго героя мне будзе мала.

З'яўляецца Сідар. На ім — жоўты, ад бруду амаль шэра-чорны макінтош-халат без рукавоў, які хутчэй падобны на папоўскую ра́су. Праўда, Сідар у новых штанах. Нават гэтым выхваляецца: расхінуўшы крыссе халата, стараецца трымаць рукі ў кішэнях абноўкі.

Сідар *(убачыўшы Драматурга)*. Сатырык! Ты мяне не чапай, і я цябе не зачаплю! Вучыся ў нашага паіцеля і карміцеля!

Бульба *(да Драматурга)*. Хадзем адгэтуль!

Драматург *(устае з-за століка)*. Таварыш старшыня! А можа, усё-такі заглянеце ў тэатр? Думаю, не так часта сталічныя артысты да вас у раённы цэнтр на гастролі прыязджаюць. Сёння спектакль па маёй камедыі... Прэм'ера! І аўтара запрасілі сюды, як бачыце. А мяне на творчае паляванне пацягнула ў родныя мясціны...

Бульба. Дзякую! Думаю, не давядзецца, позна будзе. Ды і час гарачы — сенакос!

Драматург *(дастае запісную кніжку, ручку)*. Творчы настрой — вось мая прэм'ера! Застаюся тут! *(Садзіцца за крайні столік.)*

Бульба. Ні пуху ні пер'я! *(Выходзіць.)*

Драматург *(услед)*. Да чорта не пасылаю! Вы мне яшчэ патрэбны будзеце! *(Некаторы час штосьці занатоўвае ў запісную кніжку, назіраючы за тым, што адбываецца ў кавярні, а затым непрыкметна выходзіць.)*

Сідар тым часам нясмела падсаджваецца за столік да Ірэны. Вочы проста моляць: «Пакінь хаця кроплю!» Дастае

кішэні нешта ў замусоленай паперы і працягвае сваёй суседцы. Тая няўцямна глядзіць на Сідара.

Сідар. Дзічына! Закусі...

Ірэна адмоўна круціць галавой.

Дай пяць капеек...

Ірэна *(працягвае Сідару бутэльку з недапітым півам і манету. Устаючы з-за століка)*. Гуд бай!

Сідар *(прагна схапіўшы бутэльку і грошы)*. Цудоўны мужык! Як завуць, старына?

Ірэна. Ірэна! *(Выходзіць.)*

Сідар, здзіўлена паглядзеўшы ўслед дзяўчыне, хавае ў кішэню «дзічыну», грошы, вылівае ў шклянку піва і важна, закінуўшы нагу на нагу, пачынае яго смактаць. З'яўляецца Самавук. Ён адразу нацэльваецца на парожнюю бутэльку, якая неўзабаве апыняецца ў яго пад пінжаком.

Самавук. Ці-шы-ня!.. *(Выходзіць.)*

Афіцыянтка *(падыходзіць да Сідара)*. Кавярня зачыняецца. Калі ласка, посуд!

Сідар. Гэта можна! *(Дастае з кішэні безразмерную чарку-раскладанку, расцягвае яе, нібы мяхі гармоніка, і пералівае туды піва. Шклянку падае Афіцыянтцы.)* Прашу!

Афіцыянтка. А бутэлька з-пад піва?

Сідар *(выварочвае кішэні і гэтым хоча, каб звярнулі ўвагу на яго новыя штаны)*. Не браў...

Афіцыянтка *(абурана)*. Рады няма! Хоць ты махалам махай! Як тыя слепні да каня, так і яны сюды... *(Выходзіць.)*

З'яўляецца Самавук.

Самавук *(падсеўшы да Сідара. Пасля паўзы, шматзначна)*. «И скучно и грустно, и некому руку подать...»

Сідар. Што?

Самавук. Міхаіл Лермантаў.

Сідар. А мяне — Сідар Суконка... Проста Сідар.

Самавук. Значыць, Сідар Прыкрасны?! *(Паўза.)*

С і д а р *(яшчэ больш важна разваліўся ў крэсле).* Чаго падпольна пад коўдру залазіць? За сваё п'ю! Не крадзенае! *(Мяняе тон.)* Для добрага друга можна і каня з плуга. *(Паказаўшы парожнюю чарку-раскладанку.)* Але, бачыш, з пустым посудам гасцей не сустракаюць...

С а м а в у к. Я таксама не скупердзяй і не жмот. Люблю дзяліцца, дапамагаць... *(Звяртае ўвагу на штаны Сідара. Зацікаўлена.)* Новыя?

С і д а р. А ты што думаў?

С а м а в у к. Замочым?

С і д а р. Кішэні дзіравыя.

С а м а в у к. Не мог з абноўкі выкраіць! Эх ты, галава і два вухі! Купіў бы карацейшыя, вузейшыя. Ашчадна і модна... Жонка выбірала?

С і д а р. Разяўляй рот шырэй! Баба табе падорыць?! Сын! Ён у горадзе... Сустрэліся тут...

С а м а в у к. Грошай даў?

С і д а р. Не бывае такога.

С а м а в у к. Сваё судом вазьмі! У мяне б не выкруціўся! Плаціў бы аліменты, як міленькі! *(Мацае штаны Сідара.)* Хвацкія! На літраў два! *(Паўза.)* Старыя куды дзяваў?

С і д а р. У кусты закінуў... там, за крамаю...

С а м а в у к. Эх ты, галава... Скідай! Не ўсякі пан, у каго штаны новыя. Старыя знойдзем!

С і д а р. Якія там штаны! Адна назва. Голым целам свяціліся.

С а м а в у к. Не адзенне прыгожыць чалавека, а яго душа. Класікі табе гавораць. Думай, пакуль не позна. Бо зачыняць крамку, дзе прадаюць нашу родную мамку.

С і д а р *(нібы загіпнатызаваны, бяжыць за рог будынка. Неўзабаве з'яўляецца, зашпільваючы халат, з-пад якога відаць голыя лыткі ног. У руках трымае новыя штаны. Гукае.)* Эй! Кабеціна! *(Паказвае штаны.)* За цану не пастаю!.. З-пад іголачкі!..

С а м а в у к. Адразу бачу разумнага чалавека.

З'яўляецца 1-я Д а м а.

1-я Д а м а *(разглядаючы тавар).* Прадаеце? Колькі?

С і д а р. Два літры!

1-я Д а м а *(іранічна)*. Малака?

С і д а р. Падой быка, дарма возьмеш!

1-я Д а м а. Гарэлкай? Што вы? Ад такога дабра ў магазінах паліцы трашчаць.

С і д а р. Апошняя — пяць дванаццаць!

1-я Д а м а. Цана незразумелая. Ды яшчэ з рук...

С і д а р. Бутэлька экстранай і на рубель каўбасы!..

1-я Д а м а. У вас нейкая цана падазроная, не дзяржаўная...

С і д а р *(не вытрымаўшы торгу, павышае голас. Нервова, са злосцю)*. Думаеш, спекуліруе, перапрадаю?! Нажываюся?! *(Расхінае халат, паказвае, што застаўся ў адных трусах.)* Сваё збываю! На карню!

1-я Д а м а *(з сарамлівым жахам)*. Ах! *(Выбягае.)*

С а м а в у к *(устае з-за століка і забірае ў Сідара штаны)*. Пакупнікоў распудзіш! Ідзі старыя знайдзі... Адзенься...

С і д а р выходзіць.

*(Падняўшы над галавою штаны.)* Каму майткі?! Танна аддаю! Барыша не бяру!.. Каму за сто грамаў?!

З'яўляецца 2 - я Д а м а.

2-я Д а м а *(здзіўлена)*. За сто грамаў?

С а м а в у к *(спахапіўшыся)*. Памылачка, памылачка выйшла! Цана ім на білет да Магільнага...

2-я Д а м а. Гэта далёка?

С а м а в у к. Паўлітра з чакушкай!

2-я Д а м а *(хітравата, з усмешкай)*. Бяры на бутэльку, а там сам дойдзеш...

С а м а в у к *(не разважаючы)*. Наш Мішка не бярэ лішка! Дай табе бог, як людзі кажуць, іх здарова насіць ды яшчэ на райтузы перакраіць!

2 - я Д а м а забірае штаны, аддае грошы і выходзіць. З'яўляецца С і д а р.

Сідар (*расхінуўшы халат. Маркотна*). Пададбралі... на рыззё... (*Стараецца абцягнуць крыссе халата, каб хоць крыху прыкрыць голыя ногі.*) Караткаваты...

Самавук. Не бядуй! Сыдзе за новы крык моды. Сёння райтузы надзень на галаву, многія стылягі ахнуць: «Шык мадэрн!»

Сідар. Мне не да «шыку». Дзе новыя штаны?

Самавук (*паказвае грошы*). Тут! Без штаноў поле пяройдзеш, а вось галодны паспрабуй... Ты цяпер змахваеш на пасланніка з адсталай заморскай дзяржавы.

Сідар. Яны, гэтыя пасланнікі, без штаноў ходзяць?..

Самавук. Думаеш, там сабакі і тыя ў замшавых лапцях бегаюць?! Шыш! Голыя, як маці нарадзіла... (*Мяняе тон.*) Па-нашаму сам ані гугу! Можаш што-небудзь незразумелае мармытаць, я перакладу каму трэба.

Сідар. Дык хто я?

Самавук. Турак.

Сідар. Каб не забыцца.

Самавук (*глянуўшы на неба*). Па маіх касмічных — не позна! Бачыш, нябеснае свяціла на сем бутэлек да гарызонта. Значыць, пастанова яшчэ не дзейнічае супраць нас. Даюць нашу мамку! Цягнуць рызіну не будзем! Ух! Імчуся за роднай! (*Выбягае.*)

Сідар пачынае нервова хадзіць туды-сюды. Забыўшыся, што застаўся ў трусах, хоча па прывычцы ўторкнуць рукі ў кішэні штаноў. Спахапіўшыся, зашпільвае халат, садзіцца за столік і нецярпліва пазірае туды, куды пабег яго выпадковы хаўруснік. З'яўляецца ў вясёлым настроі Самавук.

Сідар (*аж прыўзнімаецца*). Ну?

Самавук (*паказвае паўлітра гарэлкі*). Дугі гну!

Сідар (*дастае з кішэні сваю самаробную чарку*). Безразмерная! Уласнай канструкцыі. На літру з гакам. (*Спрытна падстаўляе сваю чарку.*) Парадак! На радасцях вып'ем, а гора зап'ём!

Самавук (*дастае з-за пояса вялізны нож. Круціць яго перад носам Сідара*). У дзень зарпла-

ты і па выхадных я з гэтай штукай не расстаюся. Нож — мой дружок!

С і д а р *(асцярожана).* Ты хто такі?

С а м а в у к. Вольны мастак!

С і д а р *(паказвае на нож).* А гэты «дружок»?

С а м а в у к. Хуткая дапамога. Парэзаць магу людзям... хрэн, гурочак, хлеб, бутэльку адкаркаваць... Ды ці мала на што — нож пад рукою заўсёды прыдасца. *(Адкаркоўвае нажом паўлітра. Налівае ў «пасудзіну» Сідара гарэлкі і нешта пра сябе лічыць, нібы шэпча пацеры.)* Ух! Стоп!

С і д а р. Давай! Давай! Ухай!

С а м а в у к. Не бойся! Я служыў землямерам па гэтай самай віннай часці. Папалавіню — ніякі аптэкар так не зробіць! *(Паказвае на бутэльку.)* У паўлітра — дваццаць чатыры «буль-буль». Табе па-брацку — чортавы тузін... *(Прыўзнімае бутэльку.)* Кажуць, выпіўка без тостаў — п'янка, з тостамі — палітычная работа. Ітак, Сідар Прыкрасны! Для адзінага адзінства, за прыемную сустрэчу, каб цябе ніякае ліха не ўзяло, каб ніколі нікому нічога, толькі трасца ў бок, а табе — усяго, чаго сам захочаш!

С і д а р *(падняўшы сваю чарку).* Чый дзень заўтра, а наш сягоння! Ну, Міша Лермантаў, і табе жадаю шчасця, бугаёўскага здароўя і самому, і тваёй скаціне, і дзяціне...

С а м а в у к *(перапыняе).* Я не Лермантаў! Я сірата-сіратою: няма ў мяне ні каровы, ні казла, ні цешчы, ні сына...

С і д а р. Таварыш Міша Нялермантаў! Тады каб табе ішло, брыло, ехала і дабром паганяла! Ну, каб не першая і, не дай бог, апошняя.

Чокаюцца і выпіваюць.

С а м а в у к. Ах! Як той поп казаў, напітак багоў, толькі цана бязбожная!

С і д а р. Святая праўда святога бацюшкі! Паўлітра трэба ўцаніць! А то зрабілі ні на трох, ні на чатырох... *(Спахапіўшыся, дастае з кішэні «дзічыну».)* Пярвейшая закусь! Адведай!

С а м а в у к *(закусвае).* Нічога сабе, толькі солі малавата.

Сідар. Угадай што? Толькі не рыба.

Самавук. Рыбачыш?

Сідар. Вудамі не ўмею.

Самавук. Што тут умець?! Навука простая: налівай, выпівай ды закусвай!

Сідар. У хаўрус трэба добры трапіць.

Самавук. Мне ў мінулую суботу пашанцавала! Трапіў!

Сідар. І як прайшла рыбалка?

Самавук. На ўсе сто дваццаць! Гарэлкі і закусі было хоць адбаўляй! Пагулялі на славу! Нават яшчэ галава баліць, нібыта яе абухом калоцяць... Гэта мяне нехта калом трэснуў. Але і я спуску не даў: нейкаму так па спіне спражыў цаглінай, што недзе яшчэ чухаецца... *(Паказаўшы на «дзічыну».)* Смачна! Дык што ўсё-такі?

Сідар. Заяц.

Самавук. Стрэльбу маеш?

Сідар. Кульбай!

Самавук *(са здзіўленнем)*. Дзе? Як?

Сідар. Тут непадалёку. Іду ўчора вечарам, а ён сядзіць на плоце. Я падкраўся і як урэзаў яму, дык толькі аўкнуў!..

Самавук *(адкладвае ўбок «дзічыну»)*. Ён аўкнуў ці мяўкнуў?

Сідар. Не разабраўся.

Самавук *(гнеўна)*. Прыпомні!

Сідар. Напэўна, не паспеў і рот разявіць. Між вушэй шлёпнуў... Лапкі адразу ўгору...

Самавук. Ты мне скажы, вушы ў яго былі кароткія ці доўгія?

Сідар. Не заўважыў, цёмна было... Зайчык маладзенькі...

Самавук. Хвост? Які хвост быў у твайго зайца?

Сідар. Ціха! Маўчы! *(Прыцішана.)* Цяпер не сезон на паляванне... Штраф могуць... За курыцу сыдзе...

Самавук *(кінуўшы закусваць, костку ад «зайца» соўгае пад столік)*. Цупрык! Цупрык! Дзе ты?.. *(Акідвае позіркам кавярню.)* Куды ён мог дзецца?..

Сідар. Каго шукаеш?

С а м а в у к. Ката. Тут заўсёды аціраўся... *(Кідае костку пад столік.)* Знойдзе!.. *Ставіць на стол украдзеную бутэльку з-пад піва.)* Выпівалы ў нас ёсць, а вось выпіва няма. Сідар Прыкрасны! Трасі кішэні! Возьмем што-небудзь са сталярных напіткаў. Раздавім Паліну Іванаўну?!

С і д а р. У маіх кішэнях ціха-ціха, а ў галаве шуміць-шуміць... *(Спахапіўшыся.)* Пардон! *(Лезе ў кішэню і кладзе на столік манету.)* Ёсць пятак, ды і той не звініць...

С а м а в у к. За медны пятак ды за дзве парожнія бутэлькі, ты думаеш, палітура — Паліна Іванаўна нам пакланіцца? Тут канцы [redacted] канцамі не сыходзяцца... Можа, Барыс Фёдаравіч?

С і д а р. Думаеш, трэці на долю пойдзе? А калі і ў твайго «Барыса Фёдаравіча» за душою ні шыша?

С а м а в у к. Эх ты, вёска! Ад жыцця адстаеш! Не чуў? Экстра-клас!

С і д а р. Новае?

С а м а в у к. Клей «БФ»! На чыстым спіртусе! О бярэ?

С і д а р. Ведаю, бярэ! Пазалетась бабе гладыш склеіў, дык яшчэ, халера, трымае. *(Зацікаўлена.)* Вадою разводзяць?

С а м а в у к. Ліжуць! Як марожанае, за мілую душу... А можна... *(Нешта шэпча на вуха Сідару.)* ...і застаецца чысты спірт... рыжы...

С і д а р. Таварыш Міша Нялермантаў! Ты вялікі вучоны!

С а м а в у к. Сідар Прыкрасны! Я не Міша і не Нялермантаў! Я — акадэмік-самавук!

С і д а р. Таварыш акадэмік! Ты мне кансультацыю дай: скажы толькі праўду, гэты «Барыс Фёдаравіч» там *(паказвае на жывот)* не ўзбунтуецца? Нічога такога?..

С а м а в у к. Не рыцына! Намёртва хапае! Паспрабуеш, ахнеш!

С і д а р. Тут каб «ахнуць», паўрубля трэба. Не меней!

С а м а в у к *(пасля нядоўгага роздуму.)* Эх ты, галава! *(Забірае бутэлькі і пятак.)* Ёсць выйсце! Праўда, крайняе... *(Выходзіць.)*

Сідар. З калена выламае. Што значыць, вучоны, акадэмік. Нешта ж прыдумаў... *(Расхінуўшы халат, мосціцца ў крэсле.)* Гм! *(Глядзіць на свае голыя ногі.)* Таксама «крайняе»! Далей модзе тут няма ходу... Тупік!.. Няўжо так туркі ходзяць?..

З'яўляецца Самавук.

Самавук *(ставіць на столік бутэльку. Задаволена)*. Поўненькая! Яшчэ і рэшты далі..

Сідар *(шмаргнуўшы носам. Незадаволена)*. Газа?! Вучоны, а ловіш невадам блох!

Самавук. На бязрыб'і і заяц — рыба! Затое з уласнага мазаля!

Сідар. Што ж, калі бутэлька на стале, прыходзіцца з яе піць. Пачынай, таварыш вучоны!

Самавук. Ну, за дабро — дабром! *(Хапіўшы некалькі глыткоў.)* Можна без тостаў...

Сідар *(нерашуча)*. Я ніколі не піў газы, але... за кампанію, як кажуць, і цяля ў шкоду...

Самавук. Я таксама. А куды дзенешся...

Сідар. Эх! Жыла — не была!.. *(Нясмела прыкладае бутэльку да губ, моршчыцца)*. Кіем дубовым таго, хто гэтую газу выдумаў! Трактар жалезны... ён можа...

Самавук. Адстаём, брат, адстаём! Хоць і першыя ў космас паляцелі і на другія планеты караблі паслалі... але не можам!..

Сідар. Чаго?

Самавук. Бачыў, колькі ў магазінах розных ласьёнаў, духоў, фарбаў, лакаў! Усё на чыстым спіртусе! Усё для бабскага насення! А нашаму брату наша родная ўлада што дала? Дулю пад нос! Чытаў пастанову?.. Заціскаюць! А дай мне паўнамоцтвы — я сваім імянным указам усе блага на блага народа пастаўлю! Парадак навяду! Не будзе народнае дабро марна пераводзіцца! У любым магазіне любы чалавек зможа купіць чысты спірт, купіць за лічаныя капейкі! У любым горадзе, усюды адкрыю кругласутачныя, безвыхадныя гарэлачныя, чарачныя, шкляначныя, фужэрныя і нават вядзёрна-распівачныя забягалаўкі! Дзяржаве выгодна, і людзям весела!

Сідар. У маю галаву іншы раз цюкае: сабраць бы ўсіх невыпівох, хто не можа кампанію падтрымаць, а толькі звягае на нашага брата, ды ў Антарктыду! І дружыннікаў з міліцыяй туды!..

Самавук. Правільна! Там хочаш жыць, выпівай для сугрэву, а не — пруцяней, як вош на марозе!

Сідар. Таварыш акадэмік! Скажы, чаго гэта непітушчыя жывуць на свеце? Якая ім радасць?

Самавук. Плюй на ўсіх!.. *(Цяжка ўздыхнуўшы.)* Раней я мог ракам дахаты кожны дзень прыходзіць. Мог дазволіць раскошу — у гасцініцы казённага дома заначаваць. Там халодны душ прыняць і адразу разрахавацца. За суткі пятнаццаць рублёў плаціў! А цяпер кроплю перабраў, даў волю вольную рукам — табе даюць пятнаццаць... сутак бясплатна!

Сідар. У нашым клубе адзін вучоны, такі як ты — толькі ён не акадэмік — лекцыю чытаў. Сказаў, што на грошы скора крыж паложаць.

Самавук. Як так «паложаць»?

Сідар. Скасуюць! Дажывём, што ўсё будзе па патрэбнасці — чаго толькі твая губа пажадае! Зажывём на шырокую нагу! Я сабе дзесяць кранаў дома пастаўлю! *(Лічыць па пальцах.)* Так: халодная і гарачая вада, віно сухое і з градусамі — гэтае самае «чарніла», лікёр і настойка, гарэлка і каньяк, спірт і... *(Думае.)* Што яшчэ можа быць у кране?..

Самавук. Расол!

Сідар. Можна з бочкі.

Самавук. Мінеральная!

Сідар. Не тое! Будзе нешта мацнейшае за спірт! Прыдумаюць для дзесятага крана! Папомніш мяне! *(Цяжка ўздыхнуўшы.)* Толькі мае гады ўжо здароўем не хваляцца. Ці дажыву да тых светлых дзён?..

Самавук. Куды дзенемся?! Дажывём! Перад гэтым ты яшчэ ўбачыш маю карову, якая доіцца каньяком! Яна ў праекце... *(Паказвае на галаву.)* Вось тут!

Сідар. ЖуPAвель у небе! Мне лепш дай хоць старую варону, але ў рукі.

Самавук. Дам! Каньячную! Не стану чакаць міласці ад прыроды, сам вазьму! У мяне навуковая мысля ёсць: калі каньячная карова, апраўдвай сваё высокае імя і вымя! Ты мікіціш? Навукай даказана і практыкай разлічана: як пакорміш, так і падоіш! Калі карова і кабыла ад саломы даюць малако, дык ад цукровай брагі павінны даваць каньяк! Для доследу лепш браць карову. Яна больш мірная. Кабыла можа ўбрыкнуць. А карова нікуды не дзенецца, дасць цэлае вядро!

Сідар. Толькі не перадойка.

Самавук. Пародзістая! Два вядры! Белы! Яго можна з малочных бутэлек на рабоце піць, пры начальстве. Нават і само начальства пры сваім высокім начальстве на сходах і ў прэзідыуме...

Сідар *(ад радасці лезе цалавацца)*. Таварыш акадэмік! Ты вялікае свяціла навукі! Карыфей!..

Самавук. Сідар Прыкрасны! Пачакай! За сталом, дзе п'юць, усе роўныя. Са мною можна за пане-брата.

Сідар. Гэта ж адкрыццё веку!

Самавук. Не надта вялікая штука зрабіць, але заўсёды цяжка надумаць. Гэта не казка пра белага бычка, а карова, каньячная! Яе можна ў камандзіроўку за сабою...

Сідар. Ты што, таварыш акадэмік, здурнеў? Украдуць!

Самавук. Застрахую! На мільён! Ніводзін вучоны ніводнаму дурню не пакажа і палавіну пачатай работы. А я табе — не накід шкілета каровы, а сапраўдную каньячную паказваю, у якой засталося толькі ў цыцках нейкую адну дэталь змяніць на спіртное.

Сідар. Мудрэц! Лаўрэатам будзеш! Магу любую дэталь з калгаснага гаража прыцягнуць.

Самавук. Каробку перадач. Новую!

Сідар *(збянтэжана)*. Для каровы?

Самавук. Для «газіка». Майму саветніку па вучонай частцы. Парада з разумнымі людзьмі, такімі, як ты, ніколі не шкодзіла навуцы. Роўны роўнага шукае. Вось мы і сустрэліся на роўнай дарожцы. А разумныя шмат не талкуюць. З паў-

слова разумеюць адзін аднаго... Ну, як з каробкай перадач?

Сідар. У імя навукі пастараюся! Магу і сабак вулічных!

Самавук. Навошта?

Сідар. Дварняжак на калодку, сякерай па хвастах: чах-чах!

Самавук. Ну і што «чах-чах»?

Сідар. За пародзістых у горад...

Самавук. Пакуль хвост загоіцца, які сабака твайго сабаку карміць будзе? Нерэнтабельна! Давай адразу на жывадзёрню!

Сідар. Дзе цябе знайсці ў тваёй акадэміі?

Самавук. Навошта ехаць у сталіцу? Запытай нават тут, у гарадскім пасёлку, пра акадэміка-самавука, кожны сабака пакажа. Гэта — я! У мяне адно вынаходства вялікае было... Сакрэтнае... У-у! Я тады праславіўся! Угадай: колькі мне далі за яго?

Сідар. Дзве тысячы.

Самавук. Усе пяць!

Сідар. Ну?!

Самавук. Вось табе і ну! Судзілі... А я сваім розумам дайшоў. У мяне дыплом інжынера-канструктара! Політэхнічны скончыў!

Сідар. За што ж так цябе, вучонага, акадэміка?

Самавук. Я ж кажу, сваёй галавой дайшоў! Прыдумаў, як да МАЗа падключыць самагонны апарат... За адзін рэйс, па маіх разліках, маё сакрэтнае адкрыццё павінна было даваць вядро першака. Хоць купайся ў ім, хоць катайся!.. Сідар Прыкрасны! Скажу адно: дай мне бровар, я табе твой калгас з перадавых, ведаеш, куды выцягну?! О-го-го!.. Любыя запчасткі, усё, што трэба механізатарам, з-пад зямлі дастану! І закуска будзе і... што там... Эх! Маглі б мы жыць тады, як белавежскія зубры, якіх кормяць і poяць, і па волі даюць хадзіць, і работы ніякай.

Сідар. І ты даіў?

Самавук. Каго?

Сідар. Грузавік.

Самавук. Не зварыць мне больш гэтую

кашу... Маю крупу куры падзяўблі... Пры выпрабаванні апарат разнесла. Усё пайшло ў трэскі ды ў дровы. Агонь слупам, дым каромыслам... І машыну, і майстэрню, і два прыватныя домікі — як карова языком... А адной прыгажуні, яна паблізу ішла, вуха адхапіла.

Сідар. Правільна! Няхай свой нос не суне...

Самавук. Не нос, а вуха! Сустрэнеш бабу без левага вуха — гэта мая работа! Але ты яе не пазнаеш. Занадта хітрая ведзьма: падфарбуецца, завіўку шыньёна ў каўтуны скруціць, і — хоць напаказ. А спадніцу-міні насіла, каб ты бачыў якую! На рукавіцу не хапіла б...

Сідар. Было зусім бабы падурэлі. І да чаго магло дайсці?! Добра, што іх дзед-мароз крыху прыціснуў. Штаны, кажухі ды фуфайкі з ботамі насіць пачалі. Усё-такі цяплей...

Самавук. Куды толькі дзяржава і ўлада глядзелі?! Гэта ж бабы маглі сваёю міні-модай сарваць пяцігодку лёгкай прамысловасці, якой і так не лёгка. *(Паўза.)* Я вольны казак! Жонцы і цешчы — ведзьмам сваім, даў адстаўку: занадта ўмешваліся ў маё асабіста-сямейнае жыццё... *(Зноў паўза.)* У цябе карова ёсць?

Сідар. Ёсць!

Самавук *(нешта прыкінуўшы сабе ў галаве)*. Так... А жонка?

Сідар. Дзе яна дзенецца? Гэта не балалайка, на сцяну не павесіш.

Самавук. Добра, калі жонка чарка ў чарку з мужам, дык і жыць можна душа ў душу.

Сідар. Пра маю не скажаш — пустадомак ці лайдак. Але ведзьма — ведзьмай! Як кажуць, купіў сабе дом ды з дамавіком.

Самавук. Баба ў хаце — быць вайне!

Сідар *(заводзіцца гневам)*. Піла на дзвесце сорак сем зубоў! Атамная! Вадародная! Вось хто яна! Прыйду, думаеш, спакой у хаце будзе?

Самавук. Бяда там, дзе куры пяюць, а пеўню не даюць і кукарэкнуць. Спачуваю, браце! Спачуваю! Сам некалі на гэтым кручку сядзеў. Здавалася, цэліў у сакаліцу, а трапіў у варону загуменную. Калі бегаў за ёю... не, яна за мною гай-

сала, дык сваю галаву з паклонам, нібы чарачку на талерцы трымала. Каўнер у яе такі модны быў — растапыра, а язык з прыгаворам, ножкі з падыходам і сама нібы поўная чарачка... *(Уздыхнуўшы.)* Бывае, здалёк глянеш на каторую — проста пунсовая кветачка, белы пух па грудзях сцелецца, вочкі з павалокай, роцік сімпампончыкам, хоць пацалуй, а прыступішся — плюнеш!..

С і д а р *(грукае кулаком па століку)* Крыўдна! Балюча! Не для таго бяром сучку ў дом, каб яна на гаспадара гаўкала! Заб'ю гадаўку!

С а м а в у к *(стараецца супакоіць Сідара).* На бабу не зважай!

С і д а р. Не можа з мужыком родным чарку выпіць, жыць у дружбе, хараша, ціха! Заб'ю! І сын у яе пайшоў, нават кропелькі пазбіраў!

С а м а в у к. Значыць, сам вінаваты. Нешта ў выхаванні прагледзеў.

С і д а р. З гора п'ю! Такая мая доля шчарбатая. Дзе прыпынюся, там і ляжу. У добрай жонкі муж пад лаўкай не валяецца!.. Няма куды галаву прыхіліць...

С а м а в у к. Сідар Прыкрасны! Я табе казаў, плюй на ўсіх! Лепш шукай дабра, а гора само цябе знойдзе. Мы з табою праславімся! Лаўрэатамі станем! Нобелеўскімі! Я, брат, такі чалавек: калі да мяне госць з курыцай, для яго кабылу рэжу!.. Я так магу прыняць цябе ў сваім доме, што нават твае куры і гусі тры дні п'яныя будуць! Маіх гасцей пад платамі знаходзілі, у медвыцвярэзніках! А Мішка Хістунчык пад гусенічны трактар трапіў: адно мокрае месца засталося... Людзям ёсць што ўспомніць!.. *(Абнімае Сідара. Мяняе тон.)* Сідар Прыкрасны! Складзі кампанію пракаціцца экспрэсам у камфартабельным вагоне ў Маскву, сталіцу нашу! Справа такая: за акіянам, у Злучаных Штатах, быў у мяне родны дзядзька. Акачурыўся бедалага. Задраў ногі на хвойнік. Сірата, на чужыне жыў, як тая былінка ў полі — ні родных, ні блізкіх. Адзін-адзінюсенькі! Пасля таго, як дуба даў, пакінуў мільёны. Амерыка хацела гэтае багацце прысвоіць, ды не выйшла! Пабаялася міжнароднага скандалу. Наш урад заступіўся

за мяне, кажа ім: «Што ж вы, жулікі, мацъ вашу растакую, робіце?! Ёсць жа ў нашым Саюзе законны спадчыннік!» Тыя шамоль-шамоль адразу: «Гуд бай! О кэй! Сэнк'ю!» — перагаварыліся і ўсю спадчыну на маё імя... У Маскву. Трэба ехаць у сталіцу за грашыма. Два мяшкі — не фунт ізюму. На плечы паддаць і для аховы патрэбен свой чалавек...

Сідар *(радасна).* Еду!

Самавук. А білеты?

Сідар. Зайцам.

Самавук. Адукацыя не дазваляе. Грошы трэба.

Сідар *(развёўшы рукамі).* У мяне няма. Хоць шаром пакаці.

Самавук. Карову прадай.

Сідар. Ты што, блёкату наеўся? Баба не дасць карову! Усё сяло падыме... Лепш, таварыш вучоны, забудзь маё дабро і не рабі мне ліха. *(Паўза.)* А што я буду мець з гэтага?

Самавук. Каньячную карову, торбу грошай!

Сідар. Ідзе!

Самавук. Пра нашы навуковыя планы — маўчок! Нікому ні мур-мур! Мы такую штуку адмочым, што твая баба разам з маёй міліцыяй толькі ахнуць.

Сідар. Бабу, калі стане ўпоперак дарогі, заб'ю гадаўку! Заб'ю!

Самавук. Бабу не чапай, няхай яе трасца! Не будзі бяду, калі яна спіць. Мы з табою цяпер — адны штаны! Карову прадаць памагу. Не з ганарлівых — не адмоўлю...

Сідар. Таварыш вучоны! Нікому не дам твой талент у зямлю закапаць! Ёсць жа такія: ты яму руку працягваеш, а ён табе магілу капае, палкі ў колы...

Самавук *(цалуе Сідара).* Сідар Прыкрасны! Розумы вялікія рана ці позна сыходзяцца. Мы вось і сустрэліся... Праславімся! Хадзем за каровай... *(Спрабуе ўстаць, ды не можа.)* Колы адмовілі...

Сідар *(падтрымліваючы свайго хаўрусніка).* Пойдзем...

Самавук *(паказваючы рукою).* Бачыш? Там грузавік... Мы мігам да твайго сяла... А затым на месца машыну прыгонім... Трэба ўсё сумленна... Нясі мяне да грузавіка...

Сідар *(узвальвае Самавука на плечы і, ледзь перастаўляючы ногі, спрабуе ісці. Каб не ўпасці, хапаецца за слуп).* Трымайся, таварыш акадэмік! Мае ногі гнуцца...

Самавук. Хапайся за шчыкетнік! За шчыкетнік!..

Сідар *(не выпускаючы з абдымкаў слуп).* Не даецца! Як толькі да плоту, дык ён мяне аб слуп...

Самавук *(спаўзае з Сідара).* Сідар Прыкрасны! Галопам зможаш?

Сідар. У імя навукі пастараюся! *(На карачках вязе Самавука.)*

Насустрач Сідару і Самавуку з запісной кніжкай з'яўляецца Драматург.

Драматург. Што вы надумалі? Людзей загубіце і самі...

Самавук *(пагражаючы нажом).* Дарогу! *(Прышпорыўшы Сідара нагамі пад бакі, знікае на ім за будынкам.)*

Драматург. Хлопцы! Супыніцеся!.. Гэта ж да бяды рукою... *(Бяжыць услед за Сідарам і Самавукам. Неўзабаве вяртаецца назад з падбітым вокам. Трымаючыся за сіняк.)* Ну, нічога! Галоўнае, каб творчае натхненне не адбілі. *(Разгортвае запісную кніжку.)* Трапныя думкі прыйшлі ў галаву. *(Запісвае.)* «Захацеў палезці ў бойку — і каб чупрына была цэлая...» Так! І яшчэ! «Чалавека, якога не бярэ сатыра, павінен узяць пракурор...» *(Ідзе ў будку тэлефона-аўтамата і звоніць.)* Алё!.. Аўтаінспекцыя?!.. Аўтаінспекцыя?!.. Аўтаінспекцыю!..

З-за будынка вярхом на Сідару паказваецца Самавук.

Самавук. Звані! Звані! У тваёй аўтаінспекцыі сто дарог, а ў нас адна!..

*Заслона.*

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### Карціна чацвёртая

Глядзельная зала тэатра. Гледачы пасля антракту ўселіся на свае месцы, чакаюць працягу спектакля. Праз усю залу ідзе Драматург, падымаецца на сцэну, садзіцца на лаўку,
якая стаіць збоку і, зірнуўшы на гадзіннік, пачынае нешта занатоўваць у запісную кніжку. Са свайго месца ў зале ўстае Агата, падыходзіць да сцэны і зацікаўлена ўглядаецца на Драматурга.

Агата. Пачакайце, пачакайце!.. Дык гэта ж наш, з Арэхаўкі! Сымоніхі сын! Той самы, што мяне бараніў... *(Узыходзіць на сцэну.)* Антось! Вечар добры! *(Падае руку.)*

Драматург *(устае, вітаецца)*. Агата? Не чакаў тут сустрэцца!

Агата *(паказвае на вялікі сіняк пад вокам Драматурга. Занепакоена.)* Ад майго дасталося? За ўчарашняе?..

Драматург. Прафесійная траўма. На рабоце... Сам...

Агата. А я думала... Дзякуй, землячок! Не пабаяўся заступіцца... Ну і дзянёк быў учора для мяне!.. Скажы каму, не паверaць. *(Мяняе тон.)* Чула, ты пра майго Сідара нешта пішаш.

Драматург. Не толькі пра яго.

Агата. Напэўна, там недзе і мяне прысабачыш? А можа, я не хачу з ім у адной кніжцы быць! Пакажы Агату вясёлай, нават ў тэатр прыехала! Тваю камедыю паглядзець. Як ні кажы, а ўсё-такі зямляк, некалі разам свіней пасвілі. Бачыш, вясёлая?

Драматург. Навошта няпраўду гаворыш?

Агата *(уздыхнуўшы)*. А каму хочацца са сваёй хаты смецце выносіць?

Драматург. Хіба ты не ведаеш, што твой Сідар разам з нейкім прайдзісветам напіўся да чорцікаў, украў грузавік і цяпер гайсае па раёну? Міліцыя ловіць...

Агата *(не дае дагаварыць)*. Ведаць не ведала і ведаць не хачу!

2 Зак. 2654

Драматург. А можа, твой муж дзе-небудзь ужо разбіўся?!

Агата. Туды яму і дарога! Усё, што робіш не па-людску, вылазіць бокам!

Драматург. На нявінных наехаць можа. У чым жа яны вінаваты?

Агата. Па добрых людзях век жалобу буду насіць, а па Сідару не збіраюся!.. Вазьму грэх на душу, прызнаюся! Каб дзе-небудзь і сапраўды падвярнуў галаву, дык бы не заплакала! Замест памінак гапака ўрэзала б, песні вясёлыя запела б! Прыехала б у тэатр...

Драматург. Тут для цябе тэатр, сцэна, публіка! Калі ласка, спявай! Весяліся!..

Агата *(не стрымалася, заплакала)*. Не лезь у душу! Прашу! Не сып соль на раны... Я і без гэтага горкіх слёз глынула...

Драматург. Ад сябе ўпрочкі не збяжыш...

Агата *(плача)*. Я ўсё рабіла, каб ратаваць Сідара... Сын у тэхнічным вучылішчы... у горадзе. Там у гурток запісаўся...

Драматург. Пры чым тут гурток?

Агата. Па абароне.

Драматург. Супрацьатамнай?

Агата. Ды не! *(Стараецца ўспомніць.)* Тое, што мяне бараніць! І каб за сябе пастаяць...

Драматург. Самба?

Агата. Яно!

Драматург. А сама што рабіла?

Агата. Лякарства ад алкаголю.

Драматург. Дактары прапісалі?

Агата. Жанкі параілі. Настой гарэлкі на дохлых мышах і мухах.

Драматург. Муховачка-мышовачка памагла?

Агата. Выпіў і, як кажуць, не лыс Габрусь. Злосць узяла мяне, прызналася, раскрыла таямніцу. А Сідар просіць: «Бобачка, рыбка! Ты мне штодзень рабі такую мікстуру. Я цябе на руках насіць буду!»

Драматург. І ўсё тваё лякарства?

Агата. Кіем спрабавала, усім — і просьбаю і грозьбаю...

**Драматург.** Відаць, не за той канец кія бралася?

**Агата** *(яшчэ больш пачынае плакаць).* Чым такое, як маё замужжа, лепш век у голай крапіве сядзець, у дзеўках заставацца.

**Драматург** *(стараецца супакоіць жанчыну).* Ну і паехала! Прыйшла сюды слёзы ліць?! *(Уседжвае на лаўку.)* Пасядзі!.. Супакойся!.. Думай пра што-небудзь такое, каб на душы весела было. Ты ж у тэатры!.. *(Выходзіць.)*

**Агата** *(узяўшы аберуч галаву. Вядзе размову сама з сабою).* Алкаголікаў за іх здзек над людзьмі трэба судзіць страшным судом! *(Пасля паўзы.)* Эх! Каб я была Гогалем ці Крапівою, прыдумала б у сваёй трагікамедыі для п'яніц трайную пагібель! Выдумала б і пекла вогненнае з чарцямі і паказвала б на сцэне ўсім... *(Застывае ў глыбокім задуменні і так сядзіць усю наступную карціну.)*

У глядзельнай зале і на сцэне павольна гасне святло. Ноч. Чорная, як дзёгаць. На небе ні зорак, ні месяца. Праз цемру на заднім плане сцэны ледзь бачны плот з высокім вострым штыкетнікам і насцеж расчыненая брама. Над ёю цьмяна свеціцца надпіс: «Пекла». Крыху ніжэй, меншымі літарамі — «Сардэчна запрашаем! Уваход свабодны». З-за плота даносяцца каманды: «Смалу давай!», «Паддай газу!». Час ад часу ўспыхваюць там дымна-вогненныя сполахі. З мяшком за плячыма і звернутай набок галавой з'яўляецца Сідар. Ён у тым самым «модным» адзенні. Толькі халат больш абшарпаны. Сідар стомлена прыпыняецца, ставіць мяшок ля ног.

**Голас Самавука** *(тут і далей чуваць з мяшка).* Сідар Прыкрасны! Нешта ў мяне мароз па скуры пабег і сэрца ёкнула.. Што са мной?

**Сідар.** Паўмяшка касцей. *(Прыўзнімае мяшок.)* Глядзі!.. *(Абыякава.)* Ат! Ты ўсё адно сябе не ўбачыш...

**Голас Самавука** *(трагічны).* Разбіся ў дошку, а «Барыса Фёдаравіча» дастань!.. З-пад зямлі!..

**Сідар.** Тут непярэліўкі, а ты...

**Голас Самавука.** Склеіцца...

**Сідар.** Задача... У мяне розум рвецца, ды воля не валодае.

Г о л а с  С а м а в у к а. Не пары гарачку! Штаны прадай... мае...

С і д а р. Адно ашмоцце засталося.

Г о л а с  С а м а в у к а. Што мы так здорава пацалавалі?

С і д а р. Дуб. У мяне галаву набок звярнула, рэбры папалавініла. *(Дастае з кішэні аскепак люстэрка, глядзіцца ў яго. Да сваёй галавы.)* Рожа! Рожа! На што ты падобная: уся ўзараная, толькі пасеяць ды забаранаваць. Трэба ж так расквасіць, нібы на ёй сем дзён чэрці гарох малацілі... Таварыш акадэмік! Можа, мы да чорцікаў набраліся газы і ўся гэтая ерась нам трызніцца?

Г о л а с  С а м а в у к а. Сапраўды, штосьці з намі няладнае. Я пячонкамі загаварыў. Чуеш, голас мой нейкі замагільны, ды і скразнякі ў мяне па костачках гуляюць. Яшчэ добра, што зусім глузды не адбіла... Сідар Прыкрасны! На якое сяло нас занесла?

С і д а р. Думаеш, на дзесятае? Да самага Абрама на піва...

Г о л а с  С а м а в у к а. Так скора?

С і д а р *(з дакорам)*. Пёрся на злом галавы. Усё роўна як з дзяржаўнай аўтаінспекцыі сарваўся.

Г о л а с  С а м а в у к а. Колькі дарог было! І такія добрыя, хоць ката запрагай.

С і д а р. Адна была, гравейная!

Г о л а с  С а м а в у к а. Дзве! Асфальтавыя! Затым стала многа. І ніякіх указальнікаў. Хто ведаў, каторая з іх у тваё сяло, а каторая ў Магільнае?! Захацелася адным махам па ўсіх адразу...

С і д а р. Кабеціна з дзіцем стаяла. Ты хоць даў сігнал?

Г о л а с  С а м а в у к а. Туркнуў.

С і д а р. Напэўна, так туркнуў, што цяпер ніхто і не туркне. Гэта з аднаго боку і добра. А цёмную ноч у сведкі не бяруць. *(Аглядаецца.)* Хто ведае, які тут транспарт і хто за яго рулём сядзіць? Яшчэ наскочыць... У мяне на ўсякі выпадак ёсць свае вулічна-дарожныя знакі. Пастаўлю для бяспекі. *(Дастае з-за пазухі лозунгі, на якіх напісана: «Нас не чапай, мы не зачэпім! А зачэпіш...» —*

*далей намаляваны здаравенны кулак у пагражальнай позе, «Абыдзі барана спераду, асла ззаду, а нас — кругом!».)*

Голас Самавука. Сідар Прыкрасны! Пакуль тут пра нас у званы не зазванілі, трэба шкуру ды косці ратаваць. Усё адно вісім на павуцінцы. Адна трасца! Будзе адно з двух — палкоўнік альбо нябожчык! Цісні на «авось»!

Сідар. Сам у пекла не палезу. Не хапала яшчэ з чортам мець справу.

Голас Самавука. Выправіць сваю памылку ніколі не сорамна! Калі трэба, дык трэба і лоб пагрэць. Давай задні ход!

Сідар. Тут ні «тпру» і ні «ну»! Аслаблі нашы гайкі. *(Паказвае ручку ад кабіны машыны.)* Даехалі да ручкі...

Голас Самавука. Шукай шклянога бога. Можа, ён выручыць?!

Сідар. Мы ж у самым пекле сядзім.

Голас Самавука. Галава і два вухі! Не вешай нос! Варушы мазгамі! Уведаем хады-выхады і шусь за браму! Вернемся назад, дык нам яшчэ пенсію па інваліднасці назначаць.

Сідар. Чорт яе пабяры!

З'яўляецца Чорт з віламі і сядлом.

Чорт. А-га! Алгаголікі! Бэйбусы няшчасныя! Пекла ўзарваць надумалі?!

Сідар *(укленчыўшы)*. Мілы! Рагаты! Родненькі! Прашу тваю літасць — прымі нашу хлеб-соль, мы табе рады, толькі мы пойдзем сваёй дарогай, а ты бокам-стараною... *(Паказвае на лозунгі.)* Мы ціхія... Нават калі траплялі ў медвыцвярэзнік, і там паводзілі сябе культурна, ветліва, дактароў і міліцыю не білі, бо ведалі, што за гэта бывае. І медвыцвярэзнікам дапамагалі планы па валу перавыконваць. Каб не мы, яны, выцвярэзнікі, маглі б дзяржаве на карак сесці і з датацыі не злазіць.

Чорт *(кідае лозунгі алкаголікаў цераз плот у пекла)*. Газы нажлукціліся?! Які ж дурань яе п'е?

Сідар. Прыціснула... За кампанію...

Чорт *(віламі ў жывот Сідара)*. Ты, бочка газавая, давай ад агню назад! А то рванеш, і бэба-

хаў тваіх ніхто не збярэ. Выварочвай кішэні, каб ні запальніц, ні сярнічак... *(Паказвае на мяшок.)* А што ў сідары?

Сідар. Сідар — гэта я. А там мяшок. У ім — вучоны! Акадэмік!

Чорт. Той, каго міліцыя шукае?! Шкада, што цяпер фотакартачка з арыгіналам не сыдзецца... *(Павышае голас.)* Трасі кішэні!

Сідар *(расхінае халат)*. Нічога няма!..

Чорт *(здзіўлена глядзіць на голыя ногі Сідара, якія стаіць без штаноў)*. З якой планеты зваліўся? Чарцей смяшыць? Цырк тут наладжваць?

Сідар. Мода... Загранічная...

Чорт. Адразу вас у кацёл нельга. Каранцін супрацьпажарны! Будзеце тут пад брамай пекла гавець, пакуль не разгазуецеся.

Сідар. Таварыш Чорт! Як цябе велічаць па бацюшку?

Чорт *(замахваецца віламі)*. Я табе пакажу па матушцы! Знайшоў таварыша?! Чорт вам — не брат!

Сідар *(збянтэжана)*. Мне... нам... Як бы адгэтуль?..

Чорт. Шукаеце ўчарашняга дня? Не выйдзе! *(Паказвае на браму пекла.)* Да нас дарог многа, назад — ніякай.

Сідар. Заблудзіліся... Па неадукаванасці...

Голас Самавука. Сідар Прыкрасны! Хто там трэці, што хвастом віляе?

Сідар. Сам Чорт.

Чорт *(да мяшка)*. А-а! Галоўны закапёршчык голас падаў! Спахапіўся шапкі, калі галавы не стала!

Голас Самавука *(сам сабе)*. Усіх чарцей ведаў, а гэтага першы раз чую... *(Гучна.)* Шаноўны, дарагі Чорт Чартовіч Чартоўскі! Як бы нам...

Чорт *(перапыняе)*. «На трох»?

Голас Самавука. Жыццё занова пераіграць.

Чорт. Тут карта нанава не тасуецца. Пішы: прапаў па ўласнаму жаданню!

Сідар. Не таго было хацелася, ды так сталася.

Чорт. На карту «зялёнаму змею» жыццё паставілі. Спадзяваліся выйграць? Ніводнаму яшчэ не пашанцавала! Усе тут!

Голас Самавука. Мы інваліды...

Чорт. Склеім!

Сідар. «Барысам Фёдаравічам»?

Чорт. Глінай!

Сідар. Размокнем.

Чорт. Тэрмічна апрацуем!

Голас Самавука. Нам хопіць і сарака градусаў.

Сідар. Пры такой тэмпературы мы як агурочкі будзем.

Чорт. Усе дзесяць тысяч!

Сідар. А з інваліднасцю... па якой групе?

Чорт. Можа, захацелі, каб перад вамі тут райскую браму адчынілі і сам архангел Гаўрыіл па дзвесце грамаў кожнаму на падносе залатым?..

Сідар *(са слязьмі)*. Значыць, бывай, роднае сяло і мая Агатка?!

Чорт. Ты ад сваёй Агаткі паляцеў на гэты свет. *(Мяняе тон.)* Запамятайце! Тут «тым светам» называецца той, зямны, рай, адкуль сюды завіталі, а «гэтым» — наша пекла. *(Спахапіўшыся.)* Які сёння дзень на тым свеце?

Сідар. Шаснаццатае. Пятніца.

Чорт. Зарплату выдаюць пад аванс... Знойдуцца дурні, пачнуць папойкі-бойкі. А нам — пякельная работа! Ужо недзе п'яны балбес імчыць на матаролеры сваю ненаглядную кралю ў горад. Дурніца! Не ведае: праз пяць мінут будзе стаяць са сваім мілёнкам, як цялёнкам, не ў загсе, а тут, перад брамаю. Некаторыя з п'яных пад колы машын трапяць! Слаба там ваша дарожная аўтаінспекцыя працуе. Няўжо нельга да аўтамабіля прыдумаць гармату, якая б смаліла соллю па тых, хто парушае правілы вулічнага руху? Каб лупіла аўтаматычна без разбору і п'яных і цвярозых! Каб нікому спуску не давала! Накінулі б цану за машыну на тысячы дзве-тры лішніх. І дзяржаве выгода, і пешаходу бяспечна, і пакупніку добра. Усё-такі гэта не хрэн з рэдзькай, гармата! Можна смела за рулём — на дурня не наскочыш... Няўжо

нельга? А-а? Там у вас цьма-цьмушчая вучоных. Ёсць, праўда, і такія, ад вучэння якіх адна цемра. *(Да Самавука, падфутбольваючы яго ў мяшку.)* Эй ты! Мяшок з касцямі! Падай голас, устаў і свае тры грошы! Скажы, які маеш стаж алкаголіка?

Голас Самавука. Амаль чвэрць стагоддзя з вымушаным перапынкам... на пяць год...

Чорт. Не піў?

Голас Самавука. У турме сядзеў.

Чорт. Там жа выпіць не давалі. І даў дуба хоць адзін ад таго, што гадамі не нюхаў спірытусу?

Голас Самавука. Няма дурняў!

Чорт. Здаровы чалавек, які свядома сябе калечыць — проста дурань па ўласнаму жаданню! Такі трэба і дыягназ ставіць п'яніцам і аб гэтым пісаць у гісторыі хваробы.

Сідар. Мая Агата тое ж самае чаўпла.

Чорт. А ты яе не слухаў. Вайну тачыў. Сваё даказваў.

Сідар. Баба мяне шкадуе. Сядзіць недзе на тым свеце, а ля ног цэлая лужына ад слёз...

Чорт. Думаеш, на тым свеце пра цябе песні спяваюць, дзяўчатам у сны прыходзіш? З такімі, як ты, адпетымі алкаголікамі, у старыну ў некаторых царствах-гасударствах ведаеш, што рабілі?

Сідар *(насцярожана).* Што?

Чорт. Лавілі і ножыкам — чык-чарах! І гатова!

Сідар *(трывожна).* Насмерць?

Чорт. Горш!

Сідар *(спалохана).* Што можа быць «горш»?

Чорт. Пакладалі! *(З іроніяй.)* А ты яшчэ пра Агату. Не надта яна ўбіваецца па табе. За колькі жонку і сына прадаваў? Бацька называецца! Як толькі язык павярнуўся спекуляваць жывым сынам, хадзіць па рынку, галасіць і плявузгаць, што дзіця памерла, збіраць грошы, нібыта на пахаванне, каб толькі выпіць? А цешчу за тры рублі пусціў?

Сідар. Яна пятнаццаць год назад памерла...

Чорт. З мёртвых шкуру драў! Чычыкаў у квадраце! Ні жывым, ні мёртвым не было ад цябе спакою! Думаеш, твая Агата гаруе? Да сястры ў

горад прыехала. У тэатр прыйшла! Не супраць і раман закруціць. Не так камедыю глядзіць, як пасе вачыма аднаго барадатага. Толькі не ведае, ён малады ці стары.

С і д а р. Не з яе характарам.

Ч о р т. Кажуць, баба чорта звядзе, а такая, як Агата, каго хочаш. А калі яшчэ падап'е, лічы, уся чужая!

С і д а р. Ніхто не ведае маю Агату.

Ч о р т. Я ведаю! Нават лепш, чым ты!

С і д а р *(насцярожана)*. Агату?

Ч о р т. Яна мяне нарадзіла. Я яе роднае дзіця!

С і д а р *(у гневе)*. Ма-ма-чкі мае! Байструк! Байструк-невідзімка ў вобразе чорта... у маім доме рос...

Ч о р т. Астынь! Я — выдумка тваёй Агаты... фантазія...

С і д а р. А можа, і мы выдумка?

Ч о р т. Не! Вы самыя сапраўдныя! Адпетыя алкаголікі! Тут вас чакалі даўно... Думалі, не трапіце? Але мы, чэрці, не спім у шапку. Вунь днямі вялікага вучонага, чалавеку за семдзесят, і то з панталыку збіў: кінуў унукаў, праўнукаў і сваю старую красуню змяняў на маладую. Калі чорт спакушае, слабой волі чалавек — трымайся, каб не прадаць сваю душу!

С і д а р. Грамадзянін Чорт! Мы тут не працягнем доўга. Будзем гэтым рыззём трэсці і ногі выцягнем. Як рудыя мышы прападзём... ні за панюх табакі. А на тым свеце з нас яшчэ пастараюцца людзі добрыя людзей зрабіць. На парукі могуць...

Ч о р т *(папраўляе)*. На рукі...

С і д а р. Нас там берагаюць, крый божа, каб нічога... У гарадскім транспарце месца ўступаюць. Ніхто не прыдзіраецца — баяцца, каб мы не прыдраліся. Едзем «зайцам»! Бясплатна! За выключэннем падводнай лодкі і касмічнага карабля. Туды не пускаюць. Думаюць, мы не тую гайку не ў той бок закруцім. І яшчэ, таксі нас не бярэ. Толькі можа на грамадскіх пачатках... у міліцыю...

Ч о р т. Проста рай!

С і д а р. А чаго? Няхай нас на вуліцы чуць хісне хмель, адразу, адкуль ні ўвазьміся, нібы анёлы з неба, міліцыя, дружыннікі! Бяруць пад ручкі культурна, каб часам галавой аб асфальт не грымнуўся, ці каб не прастудзіўся на сырой зямлі. І пад эскортам матацыкла ў машыне з сірэнай і сінім агеньчыкам-мігалкай імчаць у самую дарагую гасцініцу казённага дома, дзе па пятнаццаць за суткі плаціш. Адтуль, пакуль добра не станеш на ногі, не адпусцяць. Вось як! А няхай просты смяротны ў камандзіроўцы, калі няма дзе прыпыніцца, паспрабуе пераначаваць у такой гасцініцы! Што яму яго начальства запяе?.. А мы можам! Нам дарога шырокая! Усе бачаць: чалавеку весела, жыць хочацца, але ногі не трымаюць. Табе любы вадзіцель ілбом у любую сцяну ўрэжацца з машынай, а я жывы-здаровы застануся. Ён за вярсту бачыць, што мяне ветрам хістае, і дае мне дарогу, каб я на яго грузавік альбо трактар не наляцеў!.. Нас паважаюць і баяцца, нібы салдаты генерала...

Ч о р т *(гнеўна)*. Агітацыя?! Чорта спакушаеш?! Спадзяваешся, пойдзе па тваёй дарожцы?! *(Круціць хвастом перад носам Сідара.)* Дудкі!

Г о л а с С а м а в у к а. Грамадзянін Чорт Чартовіч! Прыйшла навуковая мысля! Толькі адпусціце — падкажу, як да аўтамабіля прыладзіць гармату... шасціствольную...

Ч о р т. Вучоны знайшоўся! Можа, яшчэ навучыш чорта ўпрысядкі скакаць?

С і д а р. Ён сапраўдны вучоны... акадэмік... Самавук! Можа, чулі?

Ч о р т. Мы тут чулі і нават бачылі Напалеонаў.

С і д а р. Не верыце? Я першы памочнік вучонага. *(Паказвае самаробную чарку.)* Палюбуйцеся! Уласнай канструкцыі. Сам дадумаўся. Не цяпляп... безразмерная... Камар носа не падточыць... Каньячную карову можам зрабіць!

Ч о р т. Не па той дарожцы вас гэтая чарка з гэтай кароўкай пацягнулі. Трэба туды *(паказвае на неба)*, у космас! А вы? У сырую зямлю... у пекла...

С і д а р. Адрамантуйце нас, склейце, мы вам зробім каньячна-касмічнага быка, не толькі карову!

Ч о р т. Ці было ў цябе што на карку?

С і д а р. Было...

Ч о р т. Сюды нікога ніякім калачом не заманіш. Адны безгаловыя лезуць пішчом.

Г о л а с  С а м а в у к а. Склейце нас — за намі не прападзе.

Ч о р т. Не муці ваду! Задумаў з Чортам згаварыцца?! І як там у вас такіх зямля трымае?! Каб хоць адна клёпка ў мазгах сядзела, ты не быў бы ў камітэце па ўтаптванню вуліц ля піўных!

Г о л а с  С а м а в у к а. Адпусціце! Лекцыі на тым свеце чытаць возьмемся... шэфскія... Можам вам для плана жывыя душы з таго свету пастаўляць. *(Паўза.)* А можа, амністыя скора?

Ч о р т. Не разумею вашы п'яныя малітвы.

Г о л а с  С а м а в у к а. Тут і разумець няма чаго! Напрыклад, мне на тым свеце прыпаялі пяцёрку прымусу. Тры гады не даседзеў.

Ч о р т. Уцёк?

Г о л а с  С а м а в у к а. Выпусцілі... датэрмінова ў гонар свята. А тут?

Ч о р т. Ні свята, ні выхадных, ні амністый! Толькі адна перавага ёсць.

С і д а р. Якая?

Ч о р т. Ніхто вам зайздросціць не стане.

Г о л а с  С а м а в у к а. Вось і гавары з Чортам пацеры! *(Уздыхнуўшы.)* Відаць, не ўсім вялікім пад святымі сядзець. Значыць застаемся выхадцамі з таго света.

С і д а р. А добрасумленнай працай у імя вас, чарцей паласатых, можна выбрацца з пекла? Пры гэтым пастараемся паводзіць так, як будзе ўгодна чорту ці богу. Адправіце на той свет? Мы, прызнацца, там і не жылі, а толькі дні сустракалі і праводзілі. Ды і грэх наш — сорамна папу сказаць. Ну проста любілі выпіць.

Ч о р т. Позна ваша пакаянне ходзіць.

С і д а р *(зусім панік)*. Апошняе: хачу ведаць, можна праз пасольства замежнае... *(Расхінае крыссе халата.)* Я турак... *(Плача.)*

Ч о р т *(нараспеў)*. «Якім ты быў, такім застаўся...» Дык вось, усе вашы песні спеты! Адшумелі, як мыш... Ніякае пасольства, ні гісторыя, ні людзі, ні магіла — ніхто і ніпто ніколі вас не адбеляць! Няма вам уваскрэшання!

С і д а р *(гнеўна)*. Ірады! З мёртвых скуру лупіце! Якому ж святому маліцца?

Ч о р т *(таксама крычыць)*. Сатану не гняві!

Г о л а с С а м а в у к а. Сідар Прыкрасны! Не лезь на ражон! Чым Чорт не жартуе! Галоўнае — вытрымка! Алімпійская! Прасі бога, а з Чортам — на міравую.

С і д а р. Усе чэрці — адной шэрсці! Напэўна, па нашым жыцці бараною прайшлі...

Г о л а с С а м а в у к а. Сідар Прыкрасны! Трымай запчасці ў поўнай камплекцыі, не разгубі...

У промнях пражэктара з'яўляецца на сцэне Д р а м а т у р г.

Ч о р т *(заўважыўшы Драматурга. Спалохана)*. Ідзе!.. Ён і нас судзіць...

С і д а р *(кідаецца на калені. Моліцца)*. «Ойча наш... крый, божа... памілуй нас, грэшнікаў. Я табе, родненькі, як усё добра будзе, вядро каньяка пастаўлю... белага...»

Г о л а с С а м а в у к а. І за мяне ўкленч! Сідар Прыкрасны! Чытай «Багародзіцу»! Прасі літасці!.. Бо мне няма чым і няма на што крыж палажыць. Костачкі на костачцы не засталося.

Ч о р т. Дарэмна! Ён зямны... бязбожны атэіст!.. Не прызнае ні бога, ні чорта. Усім ад яго дастаецца... і нам таксама... Зноў сатырай будзе пляжыць пекла!.. *(Кладзе на спіну Сідара сядло, садзіцца на яго.)* Проста! За браму! Поўны газ!

С і д а р. Бакі баляць! Скідай падсядзёлак!

Ч о р т. Наперад!

С і д а р *(стоячы на чацвярэньках, здзіўлена глядзіць на Драматурга)*. О! Сатырык! Землячок! А я думаў, сам шкляны бог да нас завітаў! *(Мяняе тон.)* Што? І ты недзе машынай дуб пацалаваў і даў дуба?

Г о л а с С а м а в у к а. Хто там чацвёрты?

С і д а р *(прыцішана)*. Сатырык, якога мы білі ўчора. Маўчы, а то яшчэ адну стаццю прышыюць,

за разбой. *(Гучна.)* Эх! Таварыш акадэмік! Няма нам спакою ні на тым свеце, ні на гэтым! А маглі б мы стаць лаўрэатамі... Бывай, белы свет і маё сяло! Бывай, мая бобачка, рыбка! Бывайце, мае дзесяць кранаў і каньячная карова!.. Мы ўжо таго... прастаўляемся...

Ч о р т *(прышпорвае нагамі пад бакі Сідара).* Давай! *(Схапіўшы мяшок з Самавуком, едзе за браму пекла.)*

Д р а м а т у р г *(абурана).* Чорт ведае, што тут робіцца?! Дзе галоўны рэжысёр? Дзе яго памочнік? Дзе адміністратар?! *(У бок закулісаў.)* Даць на сцэну святло!

**Сцэна асвятляецца. На лаўцы, па-ранейшаму, у той самай позе сядзіць у глыбокім задуменні А г а т а.**

Хто надумаў выцягнуць сюды гэтую чартаўшчыну?! *(Заўважае Агату.)* Агата!.. Агата!..

А г а т а *(нібы ачнуўшыся ад сну).* Што?.. Чаго?..

Д р а м а т у р г. Гэта была твая фантазія: «Памяні, Чорт, майго Сідара і ўсю яго кампанію»?.. Твая выдумка?

А г а т а *(вінавата).* Мая...

Д р а м а т у р г. Тады прашу, дай людзям тлумачэнне: для чаго ў наш касмічны век выдумала нейкае пекла, загнала туды свайго Сідара і куражышся над ім? Я толькі што ў міліцыю званіў, жывы твой муж, здаровы! На машыне гойсае недзе. Ловяць яго, каб бяды не натварыў...

А г а т а *(выходзіць на сярэдзіну сцэны. Стараецца апраўдацца. Да гледачоў).* Мае вы людцы! Прабачце! Першы раз у тэатры. Адкуль мне ведаць, што ў антракце трэба ў буфет бегчы? Хоць сама тут, а думкі мае там, у Арэхаўцы, дзе жыву... І камедыя ў галаву не ідзе. У мяне, бачыце, свая трагедыя, свой артыст, каб ён дзе-небудзь галаву падвярнуў і людзей не мучыў!.. Яшчэ раз, калі ласка, прабачце! Не падумайце, што я спецыяльна гэтую фантазію з пеклам... Яна сама пачалася ў маіх мазгах... Не ад салодкага жыцця...

Д р а м а т у р г. Цікава! *(Да гледачоў.)* Давайце, таварышы, папросім Агату Нікадзімаўну па-

казаць нам і далей свой спектакль-фантазію! *(Выклікае апладысменты.)*

А г а т а *(ніякавата адмахваецца рукамі).* Што вы? Што вы?! Не хопіць таленту! Няхай Крапіва, Макаёнак альбо Міхалкоў?! У мяне нічога не атрымаецца...

Д р а м а т у р г. Аказваецца, ведаеш пра творчасць такіх цудоўных сатырыкаў?

А г а т а. А ты, землячок, думаў, што я лыкам шыта? Агата кніжкі і газеты чытае, ва універсітэце вучыцца! Студэнткай на другім курсе... народнага... Там лекцыі пра літаратуру і культуру слухаю... Часта, калі спектаклі па тэлевізару гляджу, падмывае напісаць табе і тваім братам па пяру пра свайго Сідара. Каб вы сваімі сатырычнымі бізунамі добра адлупцавалі п'яніцу і яго кампанію... А што я магу адна зрабіць са сваім вырадкам? Кажуць нездарма, што як удалося жарабё з лысінкай, дык яно і састарэе такім!

Д р а м а т у р г. Цяпер не праблема — перафарбуецца. *(Мяняе тон.)* Ну, гэта — жарт! Не звяртай увагі. Іншы раз і гумарыст пажартуе.

А г а т а. Жарт — жартам, а вунь мне сястра родная расказвала. У іхнім пад'ездзе адна такая сучка перафарбаваная знайшлася: бегала, круцілася, хвост задраўшы, а збегла — беднаму чалавеку ў прафсаюзе хвост прыціснулі, і адказвай: «Чаму не змог захаваць сям'ю?»

Д р а м а т у р г. Ёсць вышэй прафсаюза. Разбяруцца па справядлівасці там... А я хачу разабрацца з тваім спектаклем. Ты верыш у пекла, значыць верыш і ў бога?

А г а т а. Спужаўся бабскай фантазіі?! Чорта выдуманага ўбачыў на сцэне!.. Дык ён жа станоўчы і не такі страшны, як яго малююць! *(Мяняе тон.)* Дарагі мой землячок, вось такія добрыя казачныя чэрці з Бабаю Ягою і дываном-самалётам вякамі акрылялі чалавека на добрае супраць зла, пошасці ўсякай, фантазія і мара былі з народам і ў горы і ў радасці, падбівалі чалавека ляцець у космас...

Д р а м а т у р г *(перапыняе).* Агата! Лекцыі

не чытай! І так зразумела. Калі ласка, скажы: Сідар твой у што верыць?

А г а т а. Не пытайся! Будняў не ведае. Спраўна адзначае ўсе святы: і царкоўныя і нашы. Два календары мае: адзін папоўскі, другі адрыўны дзесяцігадовай даўнасці. Па іх: і за дзень нараджэння Дзям'яна Беднага і за дзесяты дзень каляд п'е. На сваю шыю вяроўку круціць.

Д р а м а т у р г. Хоць і свіней некалі з табою, Агатка, пасвіў, але не крыўдуй! Дастанецца ў маёй трагікамедыі і табе на добрыя арэхі!

А г а т а. Здорава прыдумана! Можа, за тое, што свету белага век не бачыла за сваім замужжам? Можа, за тое, што першы раз у тэатр выбралася? Тут, землячок, не пад той вугал клін заганяеш! Атрымліваецца: адзін грэшны, а ўсе на споведзь да бацюшкі? Я ніколі ні на кога нават парушынкі не кінула...

З глядзельнай залы на сцэну падаюць дзве запіскі. Адну з іх прынесла І р э н а. Яна ў тым самым адзенні, у якім была ў кавярні.

Д р а м а т у р г *(заўважыўшы Ірэну)*. Агатка! Калі ласка, пакуль прысядзь там, на лаўцы, за кулісамі... Лепш успомні пра дзяцінства, як мы свіней разам пасвілі, пра сваю маладосць... На сэрцы лягчэй стане...

А г а т а выходзіць за кулісы.

*(Прачытаўшы пра сябе запіскі. Да Ірэны, якая вяртаецца на сваё месца. Услед.)* Бабулька!.. Дзядуля!.. Вось вы... у модным адзенні!

Ірэна аглядаецца, нібы шукае чалавека, да якога звяртаецца Д р а м а т у р г.

Даруйце! Я да вас, грамадзянін!

І р э н а *(прыпыняецца. Здзіўлена)*. Да мяне? Я не мужскога роду!

Д р а м а т у р г. Вінаваты! Жанчына?

І р э н а. Выйду замуж, тады называйце жанчынай!

Д р а м а т у р г. Прабачце! Дзяўчына?

І р э н а. У чым справа?

Д р а м а т у р г. Вы падалі мне гэтую запіску. Ваша пытанне супярэчыць другому пытанню, якое мне задалі. Давайце разам разбірацца. Прашу на сцэну!

І р э н а *(ідучы на сцэну)*. Па-вашаму, выходзіць, і піва нельга піць?

Д р а м а т у р г. Я ніколі не згаджуся з таварышам, які патрабуе: *(Чытае запіску.)* «Забараніць алкагольныя напіткі! Увесці сухі закон!» *(Паказвае запіску Ірэны.)* Я вас падтрымліваю! Правільна! Можна і спірт піць! Толькі каб усё было на радасць людзям і вам на здароўе! І не трэба забываць: ва ўсім павінна быць разумная мерка!

І р э н а. Чарка?

Д р а м а т у р г. Пра яе і размова! Грамадства не павінна з-за нейкіх там бэйбусаў з чарнільнымі душамі адмаўляць сабе ў радасці за ўрачыста-святочным застоллем! Яшчэ раз кажу, усяму ёсць разумная мяжа. *(Паказвае на запіскі.)* І тут яна павінна быць. А то ператворым спектакль у вечар пытанняў і адказаў! Усё, што ўзнікне з пытаннем выпіўкі і пахмелля з закускай і без закускі, прашу адрасаваць лектару-антыалкаголіку. Па-першае, я не выступаю з лекцыямі на гэтую тэму, а па-другое — часу няма: ідзе творчы працэс над трагікамедыяй — гарачая пара. Бачыце, дзяўчына зацікавіла...

І р э н а. Вельмі прыемна. Можа, як зямлячка?

Д р а м а т у р г *(здзіўлена)*. Таксама з Арэхаўкі? Чые ж вы там будзеце?

І р э н а. Манькі Лявонавай дачка. Ірэна...

Д р а м а т у р г. Ніколі б не паверыў!

І р э н а. Вырасла?

Д р а м а т у р г. Не тое! Якім стала дзіцянё?! Памятаю, бегала не так даўно па вуліцы без трусікаў?! *(Кідае позірк на адзенне Ірэны.)* А цяпер?!

І р э н а. Прачытала ў афішы пра вашу камедыю...

Д р а м а т у р г. І вырашылі паглядзець, што піша зямляк? А каб Шэкспіра паказвалі? Прыйшлі б?

І р э н а. Не ведаю...

Драматург. Працуеце?

Ірэна. Студэнтка. Тут у тэхнікуме. Буду дэгустатарам алкагольных напіткаў. З дзяўчат ніхто па гэтай спецыяльнасці, толькі я...

Драматург *(у здзіўленні).* На брадзільным аддзяленні?

Ірэна. Каму ж тады першай быць? Не адкрыў бы Калумб Амерыку, адкрыла б яе мая бабуля.

Драматург. Мы сёння з вамі ў кавярні сустракаліся.

Ірэна. Штосьці вас не бачыла там.

Драматург. Не дзіўна! У вас вузкі кругагляд...

Ірэна *(насцярожана).* Не разумею вас.

Драматург. Шыньён вочы вам засланяе.

Ірэна. Даме пра гэта маглі б і не гаварыць.

Драматург. Не крыўдуйце! У вас такія вочы прыгожыя, што вачэй нельга адарваць! Хіба можна такую прыгажосць хаваць, прабачце, пад конскі хвост, з якога зроблена гэтая львіная грыва?.. І вы адна з такой прыгажосцю ў кавярню... Проста робіце страшнае злачынства.

Ірэна. Запрасілі б самі...

Драматург. Адной у вас добра атрымоўваецца....

Ірэна. Магу ж я дазволіць сабе і пазакласную практыку па будучай спецыяльнасці?

Драматург. Рана кар'еру робіце.

Ірэна. Вы кожнай даме такія калючкі падкідваеце?

Драматург. Калі рваць гнілы зуб, дык адразу і з коранем! Пісьменнік свайго роду таксама доктар. Ён не калечыць, а лечыць людзей: каму і па галаве малаточкам пастукае, а каму душу паслухае, усцешыць...

Ірэна. І даўбешкай па мазгах?

Драматург. Хто што заслужыў!

Ірэна. Чым жа я заслужыла вашу ўвагу?

Драматург. Сёння ў кавярні вы частавалі Сідара Суконку, алкаголіка, півам, далі грошы...

Ірэна *(са смехам, перапыняючы).* Адчэпныя! Пяць капеек...

**Драматург.** Падчас такімі адчэпнымі штурхаем чалавека на бяду! І гэтая бяда нам на галаву лезе.

**Ірэна.** Душа шырокая. Просяць — не магу адмовіць.

**Драматург.** П'яніца назбірае адчэпных, начарніліцца і — непакой цешчы, дзецям, жонцы, калектыву, дзе працуе. Значыць, вы далі п'яніцу адчэпныя і гэтым сказалі: «Ідзі, рабі ганебныя ўчынкі, няхай людзі пакутуюць ад цябе, а сам кацiся бліжэй да магілы!» Бачыце, колькі людзей у зале і ўсе, як людзі...

**Ірэна.** Думаеце, усе святыя?

**Драматург.** На адзін аршын не мерайце! Лепш сябе мераць па другіх. Нехта з першых радоў, ціханька, каб вы не чулі, сказаў пра вас: «Ну і пудзіла агароднае!»

**Ірэна.** Сёння — пудзіла, заўтра напішуць: яны былі першымі, хто пракладаў шляхі новай моды. Няхай чытаюць мараль! Усё сцерпім, перажывём без славы, без узнагарод.

**Драматург.** Напішуць, нават і камедыю. *(Углядаецца ў кілаграмовы кулон, які вісіць на шыі Ірэны.)* Чаго вам крыўдзіцца? Медаль маеце! І не маленькі. Некаторыя яшчэ пры Пятры Першым пудовыя медалі цягалі на шыі... прымусова... Там было выбіта, за якія заслугі такое пакаранне... А тут? Пакуль без надпісу. Здагадайся сам...

**Ірэна.** Затое модна! На вуліцах Парыжа бачыла...

**Драматург.** Паспелі пабываць?

**Ірэна.** Па тэлевізары бачыла. У натоўпе ішоў адзін.

**Драматург.** Можа, адна?

**Ірэна.** Не разабралася.

**Драматург.** Купілі ката ў мяшку! *(Да гледачоў.)* Сідараў «заяц»! Яна думае — модна, прыгожа! Няхай такая пакажацца ў вёску, дык тры дні сабакі брахаць будуць! Паглядзіш на такую — на галаве густа, а ў галаве?.. Яна што, толькі для ліку: модны капялюшык вешаць ці прычоску-шыньён на матыў «не адна я ў полі кулялася» паказваць? Сапраўды, такія модніцы сярод людзей, як

пудзіла ў агародзе. Іх бы ў Афрыку кракадзілаў страшыць!.. *(Да Ірэны, больш лагодным тонам.)* Вы ж засохнеце пад гэтай модай, і ніхто не здагадаецца пра дзяўчыну... яе прыгажосць...

Ірэна. Каму трэба, сама пакажу, убачыць!

Драматург. Андрэя Кавальчуковых павінны ведаць. Яфрэйтара. Танкіста...

Ірэна *(насцярожана)*. А што? Чаму?

Драматург. Сёння пад вечар я з ім у вашу прысутнасць у кавярні сядзеў за адным столікам. І Андрэй вас не пазнаў, таксама сказаў: «Нейкае пудзіла гарохавае!»

Ірэна *(пратэстуючы)*. Няпраўда! Вы памыліліся! Гэта не Андрэй быў! І ён так не скажа! Яму яшчэ год застаўся служыць...

Драматург. Вы не чыталі сённяшніх газет. Там пра подзвіг нашага Андрэя. Людзей выратаваў, тэхніку. За гэта адпачынак і медаль «За адвагу»... Старшыня калгаса абяцаў падвезці хлопца дахаты, а ён усё рваўся да сваёй Ірэны, цікавіўся пра яе...

Ірэна *(стаіць моўчкі разгубленая, а затым з радасцю)*. Ой! Вы мне такое сказалі!.. *(Цалуе Драматурга і выбягае.)*

Драматург *(услед)*. Не забудзьце гэтыя транты з сябе скінуць і шыньён... Чаго добрага, хлопец зноў не пазнае... *(Садзіцца на лаўку.)* Вось яшчэ адзін герой майго будучага твора. *(Разважае.)* Гэтая яшчэ здолее ўзяць сябе на ўласныя парукі, каб трымаць сябе ў руках. А то знаходзяцца і такія, што яшчэ смаркач пад носам не ўспеў абсохнуць, а ім падавай вуліцы Парыжа! *(Устае з лаўкі і, разважаючы, пачынае хадзіць па сцэне. Да гледачоў.)* Ну і дзянёк! Прыйшоў разам з вамі на прэм'еру... сваю камедыю глядзець, а тут, бачыце, героі новага твора спакою не даюць! А з імі аўтар усё адно як той міліцыянер ці доктар: калі трэба — наводзь парадак, ратуй чалавека, каб Ча-ла-ве-кам быў! А ён яшчэ артачыцца, на дыбкі становіцца, пасылае цябе туды... самі ведаеце... куды не трэба... Страсяні такога добра, голы-голенькі застанецца, за душой нічога свайго добрага, роднага. Усё наноснае, чужое... Не даходзіць да

некаторых нават і сатыра! Бывае, аднаго ў камедыі паказваюць, а другі, такі ж самы, у зале сядзіць,— прабачце, аб прысутных тут не гаворыцца,— і яму ўсё на ўзвей-вецер, што гарохам аб сцяну, нават вушы не чырванеюць... яшчэ ў далоні плешча, артыстаў падбівае: усыпце, усыпце яму перцу! *(Глянуўшы за кулісы, затрымаў там свой позірк. Да гледачоў. Таямніча.)* Ціха!.. Агата ўспамінае, як дзяўчынкай была...

Голас Агаты *(з-за кулісаў).* Эх! Каб мне вярнуў хто маю маладосць... тую нядзельку апошнюю, што была перад маім вяселлем...

Драматург. Чуеце?!.. *(Асцярожна пакідае сцэну. Ідзе за кулісы.)*

Патухае святло ў глядзельнай зале. На сцэне — сонечныя промні заліваюць летнюю дарогу, паабапал якой расце хмызняк. [illegible] кошыкам у руках па-святочнаму апранутая ідзе Агата. Яна маладая, выглядае на гадоў дваццаць, не болей. Яе даганяе Сідар. Ён таксама ў маладым узросце.

Агата *(агляну́ўшыся, заўважае Сідара. Здзіўлена).* Ты?! Сідарок мой!

Сідар *(цалуе Агату).* Бобачка!..

Агата. Следам за абедам?..

Сідар. Думаеш, не ведаю, куды ні свет ні зара тайком падалася? Мне хлопцы казалі...

Агата. Што тут такое?! На рынак хадзіла... курыцу насіла прадаваць.

Сідар *(ласкава).* Чаго саромецца? Не крадзеная! Маглі б удваіх... Я з табою, Агатка, як рыбка з вадою! *(Бярэ з рук Агаты кошык, заглядае туды.)* Хваліся, што купіла! О! Паўлітра?! Гасцей чакаеш?

Агата. Самы дарагі госць — ты!

Сідар. Лічы, гаспадар!

Агата. Пагляджу яшчэ, ці варты. Можа, дам ад варот паварот.

Сідар *(расхінуўшы крыссе пінжака, нібы хоча паказаць сваю душу).* Шукай ганьбу, а то позна будзе! *(Абнімае Агату.)* Ахмістрыняй зраблю! Ашчасліўлю: будзеш пірагамі вароты запіраць...

Агата *(незадаволена).* Маўчы! У мінулую суботу сябе паказаў на складчыне... Прыгалубіў

дзесяць грамаў і сядзіць, як святы! Аж брыдка было глядзець!

Сідар. Такі ўдаўся! Не люблю пах гарэлкі. Не цярплю выпівох, якія не ведаюць за сталом меры. Вясной Пятрусь на імяніны свайго сына запрасіў. Там нагледзеўся: госці, нібы свінні, набраліся, адразу з-за стала пад стол. А калі ачухаліся, пачалі адзін аднаму сваю дружбу кулакамі даказваць. Садом і Гаморай наладзілі: ні акон, ні дзвярэй не засталося. А бедны імяніннік плакаў цалюткі дзянёк, з калыскі на падлогу валіўся...

Агата *(агляну́ўшыся. Таямніча)*. На дарозе няма нікога. *(Цягне Сідара да хмызняка.)* Давай сюды...

Сідар *(насцярожана)*. Што надумала?

Агата. Мужчыну з цябе зраблю! *(Дастае паўлітра.)* Сядай!

Сідар і Агата садзяцца на траву.

Сідар. Спаіць збіраешся?

Агата *(адкаркоўвае бутэльку, дастае з кошыка булачку і шклянкі. Налівае ў іх гарэлку)*. Бачыш, усё адно як ведала, і шклянкі купіла... Яшчэ трэба купіць, гасцей на наша вяселле збярэцца... з твайго боку і майго...

Сідар *(занепакоена, паказваючы на гарэлку)*. Ты гэта кінь! Нічога не выйдзе... Я ж не п'ю...

Агата. Нічога страшнага! Булачкай закусім... Пойдзем паплавамі. Ніхто не ўбачыць. Мне хочацца паглядзець, як ты ўлукаткі пойдзеш, а я цябе, як свайго мужа, пад ручку дахаты...

Сідар. Не выдумляй!

Агата. Зорачка ясная! Дзеля свята...

Сідар. Якое?..

Агата. Сёння ж нядзелька.

Сідар. Сапсаваць свайго будучага мужа захацела? У добрую капеечку ён табе абыдзецца.

Агата. На многа не разлічвай! Як пажэнімся, па сто грамаў... перад кожным абедам... для апетыту... Табе ж папраўляцца трэба. Збегаўся за мною... начэй не дасыпаеш...

Сідар. Каханне!

**А г а т а.** Скора адаспішся ў маіх пярынах!.. *(Дае ў рукі Сідару шклянку з гарэлкай.)* Трымай марку мужчыны! Вучыся ў Міцькі! Бачыў на складчыне, як ён дзвесце грамаў нібы за халяву закінуў, і сядзіць, не закусваючы, як агурочак! Вось такі мне муж падабаецца! Выпі! Не будзь бабай!.. *(Прыўзнімае сваю шклянку.)* За наша шчасце! *(Выпівае, закусвае булачкай.)*

**С і д а р.** Навошта мучыш?

**А г а т а.** Скажы, вучыш... Хачу сапраўднага мужа мець, каб у людзях дзвесце грамаў без закускі выпіў і не маргнуў! *(Сілком падносіць да губ Сідара шклянку з гарэлкай.)* Ну! Баба!

**С і д а р** *(нехаця выпівае).* Ох!

**А г а т а.** А ты, дурань, баяўся! *(Падае кавалак булачкі.)* Закусі!

**С і д а р** *(яшчэ ўсё зморшчыўшы твар, лыпае асалавелымі вачыма).* Э-э-э!.. Пачынае бадзёрыць... Па жылах затрапятала...

**А г а т а** *(зноў бярэцца за бутэльку).* Кропля засталася. Дома запытаюць: з кім, для чаго?.. Давай прыкончым?! *(Разлівае па шклянках рэшту гарэлкі.)*

**С і д а р** *(на гэты раз смела бярэцца за шклянку).* За наша будучае! Эх! Жыла — не была! *(Выпівае.)*

**А г а т а** *(з радасцю абнімае і цалуе Сідара.)* Такі мне патрэбен!..

З а ц я м н е н н е.

**Г о л а с А г а т ы** *(у цемры з-за кулісаў. З горкім жалем).* Ох, мама, мама! Вярні мне маю маладосць! Чаму ж я тады такая дурная была?! Каб на цяперашні розум, абышлася б зусім па-іншаму...

Сцэна асвятляецца. **А г а т а** і **С і д а р** стаяць на ранейшым месцы.

**С і д а р** *(п'яны. Прыстае да Агаты).* Бобачка, рыбка... Толькі пацалую...

**А г а т а** *(рэзка адштурхоўвае Сідара. З крыўдай).* Пакінь мяне! Назаўсёды!.. *(Наважылася ісці.)*

С і д а р *(затрымлівае).* Куды? Рыбка!.. Бобачка!..

А г а т а. Такое шчасце мне не трэба! Казаў, выпівох не любіш, а сам другую шклянку закінуў, як за халяву, і трэцюю не супраць?!

С і д а р. Сама спаіла...

А г а т а. Твае мазгі дзе? Я — дзяўчына, угаварыла, а што ж будзе, калі трапіш у кампанію выпівох? Добра, калі дахаты ракам прыпаўзеш, а то пад плотам у свіной лужыне заначуеш! Сабакі нос з вушамі адхопяць у п'яніцы! Навошта ж мне такі муж-калека? Ты што, на вайне за Ацечаства пастрадаў, што я павінна цябе прыняць?! Не хачу, каб мае дзеці праз бацьку-алкаголіка прыдуркамі сталі! У чым жа яны вінаватыя, яшчэ на свет не нарадзіўшыся? За што ж ім праз усё жыццё несці такую пакуту-немач, якою ты іх узнагародзіш?!

С і д а р. Для чаго частавала?

А г а т а. Правярала! З кім мне жыць-пажываць, свой век каратаць?! Ці не цяжка будзе?!

С і д а р. «На бога» ўзяла?

А г а т а. Вашага брата толькі так і правяраць! Калі ходзіце за намі, залатыя горы абяцаеце, на руках носіце, толькі малачко папіваеце ды смятанку ліжаце... А як замуж выскачым — вам мора па калені... пачынаецца...

С і д а р. Што з тваёй праверкі? Мог бы і не выпіць!

А г а т а. Трайную прайшоў бы! У рэстаране, у гасцях, дома — усюды б правярала! Бацькоў, братоў сваіх бы падключыла, і яны сваю разведку тут правялі б!

С і д а р. Не паддаўся б! Ну хто мяне, Агатка, можа сілком спаіць, калі я не п'ю і не хачу піць?!

А г а т а *(радасна).* Вось такога шукаю мужа! *(Цалуе Сідара. Бярэ пад руку.)* Пайшлі! Я цябе не выпушчу!

С і д а р *(насцярожана).* Куды?

А г а т а. У загс!

С і д а р *(з радасцю цалуе Агату).* Бобачка! Рыбка мая...

А г а т а *(спахапіўшыся, перапыняе).* Пачакай! Пачакай! Яшчэ не ўсё! Мая бабуля расказвала, як

яна сабе мужа выбірала. *(Азіраючыся.)* Хто-небудзь дайце мне пугу добрую!

Драматург, які стаіць паводдаль, падае Агаце пугу.

*(Хвасянуўшы Сідара пугай.)* Не баліць?

Сідар *(з радаснай усмешкай)*. Не...

Агата *(кінуўшы пугу)*. Харошы мой! Век цябе шукала і знайшла! Не п'еш, руку на мяне не паднімеш, кахаеш... *(Зноў бярэ Сідара за руку.)* Вось цяпер пойдзем і распішамся...

Гасне на сцэне святло. Рэплікі герояў чуваць да канца карціны у поўнай цемры.

Голас Агаты *(недзе з-за куліса́ў)*. Магло б быць шчасце, ды на жаль... Цалаваў Сідар сваю рыбку, кахаў... А затым цалаваў толькі за тое, што яму па сто грамаў налівала... для апетыту... Так і стала мая «зорачка ясная» для мяне доляй нявшчаснай!.. Мужа трэба, як тое дзіця, з першых дзён выхоўваць...

Голас Драматурга. Дзе святло? Што там такое?

Незнаёмы голас *(з-за кулісаў)*. Пробкі паляцелі!.. А я ў пробках, як пробка!..

Голас Драматурга. Электрыка шукайце!

Голас Агаты. Землячок! Дзе ты? Як тут у залу выбрацца? Сваё месца знайсці?

Голас Драматурга. Я тут!.. Агата! Забыўся сказаць, для чаго твой Сідар з нейкім прайдзісветам укралі грузавік. Яны ж паехалі, каб тваю карову забраць.

Голас Агаты *(устрывожаны)*. Ах! Чаго ж ты, Антоська, дагэтуль маўчаў? Чаго ж я тут сяджу?.. Думаеш, твая камедыя мне даражэй за маю Красулю?.. Вывядзі мяне на выхад!..

Голас Драматурга. Пачакай! І я падамся на Арэхаўку. Правяду!

Голас Агаты. Дзякую! Не думала, калі была маладая, што за мною пад старасць пачнуць ганяцца пісьменнікі. Толькі цябе, землячок, чакаць не буду! Пабягу барздзжэй Красулю ратаваць!

*(Пакідае сцэну, бяжыць праз усю залу на выхад і знікае за дзвярыма.)*

Голас Драматурга. І я ў дарогу, следам за сваімі героямі! *(Таксама пакідае сцэну.)*

*Заслона.*

### Карціна пятая

Ноч. Узыходзіць месяц. Відаць абрысы дарогі, па якой ідзе маладая дзяўчына з кветкамі ў руках. Яе постаць выхоплівае прамень пражэктара. Гэта Ірэна ў прыгожай сукенцы, з доўгімі косамі на галаве. Побач — Драматург. Ён, відаць, толькі што дагнаў Ірэну і не можа яшчэ ўсё паверыць, што гэта тая самая дзяўчына, якая зусім нядаўна была ў тэатры.

Ірэна *(са смехам)*. Няўжо так і не пазналі мяне? Я — «пудзіла агароднае»!

Драматург *(з радасцю)*. Ірэна?! Будучы дэгустатар алкагольных напіткаў?! А я думаў...

Ірэна. Цікава, што вы думалі?

Драматург *(узнёсла)*. Ідзе багіня незямная па зямлі!

Ірэна. З іроніяй?.. Не крыўдую! Вам можна ўсё даравацъ.

Драматург. Чаму?

Ірэна. Пісьменнікі ўсе нейкія...

Драматург. Прыдуркаватыя?

Ірэна *(збянтэжана)*. Прабачце! Я хацела сказаць... *(Паўза.)* Нешта падобнае на гэтае...

Драматург. Ненармальныя?

Ірэна. Не, не! Што я?.. *(Стараецца перавесці размову на другую тэму.)* А што гэта ў вас будзе за трагікамедыя-плакат? Плакат, як яго разумець у драматургічным творы?

Драматург. Распрану сваіх адмоўных герояў і пакажу, якія яны голенькія! Як яны абнасіліся душою! Каб вы, напрыклад, і іншыя, хто прыйдзе ў тэатр, глянулі на іх у спектаклі і жахнуліся, як страшна апусціцца да гэтага. Прымушу сваіх герояў піць газу...

Ірэна. Будзе няпраўда!

Драматург. Тут гратэск. Давяду да абсурду, а затым вярну назад у жыццёвыя абставіны, якія яго парадзілі, і ён павінен іх узмацніць. Буду старацца так пісаць. А як атрымаецца, няхай судзяць гледачы.

Ірэна. Вы галоўны суддзя сваіх герояў.

Драматург. Няма на свеце вышэйшага і справядлівага суда за той, калі чалавек пачынае судзіць сам сябе.

Ірэна. Калі ласка, прызнайцеся, Ірэна з кілаграмовым кулонам на шыі і з львінай грывай будзе ў вашым творы?

Драматург. Угадалі! Усіх сабак на яе начаплю!

Ірэна. Будзе няпраўда!

Драматург. Гэта мастацкі твор. Хто ў ім і пазнае сябе, думаю, скардзіцца не стане. Бо даносаў на сябе не пішуць.

Ірэна. Маё прозвішча пакінеце?

Драматург. Не хачу, каб вы мяне па судах зацёгалі. Напішу, Кабылкіна або другое... Нейкае прыдумаю.

Ірэна. Лепш бы пра каханне.

Драматург. Пра яго пісьменнік піша да пяцідзесяці гадоў, а затым пачынае пра хваробы... Так жартам гавораць. А тэма кахання ў літаратуры вечная! Калі гэтае пачуццё светлае, чыстае, яно акрыляе чалавека, вядзе на добрыя справы... І нават на подзвіг! Вось, напрыклад, вы! У такую ноч адной пусціцца праз лясы і поле за дваццаць кіламетраў на незапланаванае спатканне — гэта таксама подзвіг! І што значыць умець быць прыгожай! Прыгожай сэрцам і душою... Па адзенні ды па знешняму выгляду толькі сустракаюць...

Ірэна. Успамінаю і думаю цяпер... і дзіўна становіцца...

Драматург. Што?

Ірэна. Сочым за модай, гонімся за ёй, як апантаныя, і топчам самую галоўную прыгажосць — харство сваёй душы, якая часам застаецца бедная, закінутая, халодная... Напэўна, ні з кага яшчэ мода так не здзекавалася, як з нясчаснай жанчыны...

Драматург. А можа, наадварот?.. *(Паўза.)* Там, дзе ў пагоні за модай канчаецца мода, пачынаецца распад Ча-ла-ве-ка на анучы... Відаць адны анучы! А Ча-ла-век?! *(Мяняе тон.)* Цяпер ніводзін алкаголік больш вас не прыме за свайго брата...

Ірэна. Цікава было б, каб Сідар Суконка сустрэўся... Як бы ён сябе паводзіў?

Драматург. А вы?

Ірэна. Вельмі проста!.. Уяўляю наступную карціну... Вось яна!..

Мяняецца асвятленне сцэны. Пражэктар сваім святлом выхоплівае Сідара. Ён, убачыўшы Ірэну, расхінуў халат і, заклаўшы рукі ў кішэні новых штаноў, хоча паказацца кавалерам перад прыгожай дзяўчынай.

Ірэна *(да Сідара)*. Чаго прыглядаецеся? Не пазналі?

Сідар. Прыгожая...

Ірэна. Памятаеце? Сёння ў кавярні за адным столікам сядзелі? А вы сказалі, што я... «цудоўны мужык»?

Сідар *(радасна)*. Ірэна?! Добрая душа! *(Працягвае руку.)* Не дзеля прастаты, а для дабраты тваёй... На куфель піва?!

Ірэна *(тыцкае пад нос Сідару дулю)*. Калі ласка! *(Спахапіўшыся. Да Драматурга, які стаіць збоку і наглядае за гэтай карцінай.)* Навучыце не таму, што трэба...

Драматург. Чалавек павінен быць мужным, даць кожнаму па яго заслугах: каму «дулю» пад нос, а каму — падарунак з пацалункам!

Ірэна *(пасмялеўшы, дае яшчэ адну «дулю» Сідару)*. Вось яшчэ адзін кукіш, што захочаш, тое і купіш!

Сідар, скрывіўшы нос, выходзіць.
Зноў мяняецца асвятленне сцэны. Драматург па-ранейшаму ідзе з Ірэнай.

Драматург. Не раскідвайцеся ўзнагародамі. А то яны сваю вагу губляюць. Што занадта, тое не здарова.

Ірэна. У вёсцы, бывае, як сварацца бабы, дык адна адной гэтыя фігурныя ўзнагароды даюць, як з кулямёта.

Драматург. Не ад культуры! Дай чалавеку адну ўзнагароду, але такую, каб адразу адчуў, чаго ён варты. Кожны павінен атрымліваць тое, што заслужыў!..

Зацямненне.

Дэкарацыя папярэдняй карціны. Відаць постаці Бульбы і яфрэйтара Андрэя. Яны стаяць на ўзбочыне дарогі. Непадалёку, чуваць, хтосьці рамантуе аўтамашыну.

Бульба. Не пашанцавала нам, Андрэй! Мне ў раёне ўсыпалі за сенакос, а табе — з машынай! Каб не падвяла на паўдарозе, мог бы ты ўжо са сваёй Ірэнай пад вярбой ля рэчкі сядзець. Дзяўчына на выхадны павінна прыехаць дахаты...

З'яўляецца Агата. Яна ідзе подбегам.

Бульба *(здзіўлена)*. Агата! Вечар добры!

Агата *(крыху збавіўшы крок)*. Ох! Старшынька! Вечар нядобры! Дай рады! Мой бэйбус хоча карову ўкрасці...

Бульба *(насцярожана)*. Калгасную?

Агата. Маю... Красулю...

Бульба. У сваю кішэню палез — не злодзей!

Агата *(з трывогай)*. Свой хатні завядзецца — удвая гора набярэшся. Бяда! Бяда, старшынька! Як плюнуць — украдзе!.. *(Ідзе далей)*.

Бульба. Агата! Вярніся! Скора паедзем!

Агата *(вяртаецца да Бульбы)*. Сам ведаеш, якая ўчора была для мяне пятніца. Жыўцом у дамавіну клалі. Дык я, каб галава крыху ачахла, сышла на дзянёк да сястры ў горад. А тая сягоння мяне ў тэатр пацягнула. Кажа, камедыю нашага земляка паказваюць... Там і пра Сідара пачула...

Бульба. Я так і ведаў: зноў нейкага коніка выкіне!

Агата. Уся раённая міліцыя на колах! Ловяць бэйбуса. Расказвалі, што ён з нейкім напіўся і ўкраў грузавік... Што рабіць, старшынька?

Бульба. Я табе, Агата, і твайму Сідару ўчора сваё сказаў: самі разбірайцеся, мяне не чапайце!

А г а т а. Старшынька! Ты, напэўна, з рэўнасці плявузгаеш? Крыўдуеш, што я некалі па сваёй дурноце на цябе ўвагі не звяртала?! Цяпер дапякаеш?! А я да самай смерці не забуду твае ўчарашнія пацалункі гарачыя ды абдымкі моцныя...

Б у л ь б а *(перапыняе)*. Агата! Забудзь усё! Гэта, можа, я табе, як нябожчыцы, такую любоў і пяшчоту выказваў... ад імя праўлення і ад імя прафсаюза?! А ты пераварочваеш на свой капыл! Маўчы і не рыпайся! Дазнаюцца ў раёне, намыляць мне і за гэта шыю...

А г а т а *(у здзіўленні)*. За пацалункі?

Б у л ь б а. За камедыю ўчарашнюю! Усё сяло рагоча!

А г а т а. Эх! Каб хаця трапіла табе такая цешча, як мой бэйбус, дык бы інакш заспяваў!

Б у л ь б а. Табе праўленне мужа не выбірала! Сама лётала за ім, як дзяўчынай была! А замуж выйсці — не штаны купіць: знасіў ды выкінуў... Тут сто разоў адмерай, ці па Хомку шапку бярэш!

А г а т а. Нездарма ў народзе гавораць: калі хочаш пажадаць свайму заклятаму ворагу самага страшнага, дык ты не кляні яго: «Каб ты дуба даў, ці каб два разы нырнуў, а толькі раз вынырнуў!» А скажы свайму ворагу адно: «Каб ты ў гарэлцы смак пачуў!» І калі тваё пажаданне спраўдзіцца, тады ад твайго недруга адвернуцца ўсе добрыя людзі...

Б у л ь б а. З такім, як твой Сідар, ніхто не пойдзе ў разведку! Што ў яго засталося за душою святое?..

Агата плача.

Я разумею, кожнаму свая сляза несалодкая...

З'яўляюцца Д р а м а т у р г і І р э н а. Ірэна, яшчэ здалёк, убачыўшы Андрэя, кідаецца да яго, цалуе, абнімае. Андрэй не налюбуецца сваёй каханай, ласкава паглядае на яе твар, цярэбіць у руках косы.

Д р а м а т у р г *(падышоўшы да Бульбы і Агаты)*. Прывітанне, землякі! Загараеце?

Б у л ь б а. Як бачыце! А вы зноў на сваю вайну?

Драматург. Якую?

Бульба. З п'яніцамі ваяваць. Ёсць жа яшчэ хістуны, якія нават на рабоце ўлукаткі ходзяць. Ёсць і пластуны, што набіраюцца і пластом ляжаць. Ёсць і паўзуны, якія могуць па вуліцы поўзаць. Сустрэнеш і хістуноў, якія сваім нюхам чуюць, дзе п'юць, але іх не клічуць, дык яны там паблізу ходзяць, злосныя, нібы мядзведзі, якіх паднялі ў зімовую спячку. Аб'яўляюцца і лятуны-чарнілікі. Яны з горада на бацькаўшчыну прыязджаюць толькі для таго, каб зрабіць свой чарговы абход па ўсіх сваяках, блізкіх і знаёмых: сабраць з іх падатак — усюды набрацца па самую завязку... Дустам бы іх!

Драматург. Навошта? Ты алкаголіка дустам, хіміяй, а ён дадумаецца з гэтага дусту ды хіміі чыміргес гнаць. Гэта ж ўсё-такі людзі!.. За Ча-ла-ве-ка трэба ваяваць!

Бульба. Вось вы як сатырык ваюеце за Ча-ла-ве-ка на сваім полі, а я — на сваім... за малако, мяса, яйкі, сена...

Драматург. Каб наша поле было чыстым і не заглушыла яго球 рознае пустазелле, нам трэба ваяваць разам! Я ўжо гаварыў: будзе Ча-ла-век — будзе ўсё!

Бульба. Я, здаецца, таксама гаварыў вам сваё: старшыня і праўленне — не нянька над кожным!

Драматург. Няўжо вы да гэтага часу не бачыце, што такія, як Сідар, на нашай дарозе пад нагамі блытаюцца?! Яны ж падчас не даюць нам ходу!

Бульба. Не страшна! Аб'едзем!

Драматург. А калі нас яны не аб'едуць?.. *(Не дачакаўшыся адказу на сваё пытанне, адыходзіць на ўзбочыну дарогі, садзіцца на пянёк, нешта запісвае.)*

Здалёку паказалася святло фар аўтамашыны. Яно ўсё больш і больш залівае дарогу. Ужо добра відаць Бульба, Агата, Ірэна і Андрэй. Разам з гулам машыны даносіцца і песня «Шумеў камыш». Чуваць, што гэта гарлапаняць п'янымі галасамі Сідар і Самавук.

Агата (*усё прыслухоўвалася, углядалася, а затым загаласіла*). Яны! Зладзеі! Па маю Красулю! Затрымай, старшынька! (*Выбягае на сярэдзіну дарогі. Галасуе рукой, каб машына прыпынілася.*)

Бульба (*адцягвае Агату на ўзбочыну*). П'янаму саступі дарогу! Не звязвайся!..

Па святлу фар відаць, як машына налятае на Бульбу, Агату, Ірэну і Андрэя. Крыкі людзей, лязгат і скрыгат грузавіка, які ляціць пад адхон. Усё гэта абрываецца жалобнай мелодыяй, дзе адчуваецца музыка песні «Шумеў камыш», якая павольна заціхае.

Драматург (*кідаецца да месца трагедыі. Прыпыняецца ў жалобным маўчанні. Пасля паўзы*). Ніколі не кажы: мая хата з краю!.. (*Падымае дзве зламаныя і растаптаныя кветкі з букета, які несла Ірэна. Гледзячы на іх на фоне двух зламаных дрэў.*) Хто ж, як не мы, падчас сваёй наіўнай дабратою даём «зялёную вуліцу» чалавеку слабай волі саступіць з правільнай дарогі, каціцца ў балота. Гэты чалавек нярэдка робіць бяду, і гэтая ж бяда нам на галаву лезе... Дык няхай наша хата тут будзе не з краю!

*Заслона.*

# ЛАЗНЯ БЕЗ ВЕНІКА

## КАМЕДЫЯ Ў АДНОЙ ДЗЕІ

**Дзейнічаюць:**

Ніна, Клава, Зося, Маша, Юзік — маладыя рабочыя.

Пятро Пятровіч — камендант інтэрната.

Частка чыстага і ўтульнага пакоя інтэрната. На заднім плане — насцеж расчыненае акно, злева — дзверы. У кутку, за невялічкім столікам, сядзіць Ніна. Яна пры няяркім святле настольнай электралямпы чытае кнігу. За акном — ноч. Справа відаць спінка аднаго з ложкаў. Чуваць, што хтосьці там прачнуўся.

Голас Клавы *(заспаны)*. Якая гадзіна?

Ніна *(прыцішана)*. Другая...

Голас Клавы. Кладзіся спаць, а то заўтра ля станка драмаць будзеш.

Ніна. Не магу... *(Падыходзіць да акна і гучна пачынае дэкламаваць радкі з паэмы Уладзіміра Маякоўскага «Добра».)*

Я с теми,
кто вышел
строить
и месть
в сплошной
лихорадке
буден.
Отечество
славлю,
которое есть,
но трижды —
которое будет.

Голас Клавы. Нінка! Цішэй! Машу разбудзіш.

Ніна. Клавачка! Я так палюбіла... *(Прыціскае да грудзей кніжку.)* У нашым клубе на кан-

цэрце буду чытаць Маякоўскага. *(Жэстам рукі паказвае за адчыненае акно, чытае радкі з паэмы «Воблака ў штанах».)*

Эй вы!
Небо!
Снимите шляпу!
Я иду!

Голас Клавы. Ніна!

Ніна, спахапіўшыся, бярэ прасціну і ёю завешвае куток пакоя, дзе стаіць столік. Неўзабаве за дзвярыма пачулася нейкае мармытанне. Ніна выглядае з-за прасціны-фіранкі, прыслухоўваецца. Незразумелыя гукі паўтараюцца.

Ніна *(будзіць Клаву. Спалохана).* Клава!.. Клава!..

Голас Клавы *(спрасонку).* Адчапіся!

Ніна. Клавачка, устань!..

Голас Клавы. Нінка, ты смала...

Ніна. Нешта нейкае за дзвярыма мармыча...

Голас Клавы *(іранічна).* Дачыталася?!

Ніна. Я ж не пра шпіёнаў!

З'яўляецца ў халаце Клава.

Клава. Спі, і мармытаць ніхто не будзе.

Ніна. Чэснае слова! Мармытаў нехта.

Клава. Табе здалося. *(Падыходзіць да расчыненага акна.)* Бачыш, усе ў горадзе спяць, і старыя, і малыя. Толькі цябе сон не бярэ.

Ніна. А вунь, бачыш, далёка-далёка адно акенца свеціцца.

Клава *(з жартам).* Там, напэўна, жыве нейкі залішне разумны, а можа, вучоны, ці такі ж самы студэнт-завочнік, як мы з табой...

Ніна. Я табе зайдрошчу.

Клава. Чаму?

Ніна. Ты смелая. Заўсёды жартуеш... і нават на экзаменах, калі сесія ідзе, спакойная... не баішся...

Клава *(зноў з жартам).* Затое твой Юзік не з баязлівых.

Ніна. Які ён мой! Проста так, добры знаёмы...

Клава. Гавары каму-небудзь другому.

Ніна. Я толькі хацела сказаць, што ты смелая, а ты...

Клава. Смелая! Не хвалюся! Нават магу на могілках ноччу спаць паміж магіл, і, упэўнена, ніхто з нябожчыкаў да мяне не прычэпіцца...

Чуваць, як хтосьці ў калідоры шкрабе дзверы.

Ніна *(насцярожана)*. Чуеш?

Клава *(прыслухоўваецца, і затым ідзе да дзвярэй)*. Кот!

Ніна *(з трывогай)*. Пачакай!

Клава. Не бойся. *(Гучна ў бок дзвярэй.)* Хто там? *(Да Ніны.)* Чуеш? Я ж казала, кот. *(Хоча адчыніць.)*

Ніна *(адцягвае сяброўку ад дзвярэй.)* Ты здурнела?!

З калідора данесліся нейкія незразумелыя гукі. Нехта зноў шкрабе дзверы. Дзяўчаты спалохана адступаюць назад.

Клава. Сапраўды...

Ніна. Машу трэба разбудзіць... Маша! Маша! Прачніся!..

Голас Машы *(спрасонку)*. Што? Чаго?

Ніна. Не палохайся. У нас нехта пад дзвярыма.

З'яўляецца Маша. Яна на хаду папраўляе на сабе халат.

Маша *(незадаволена)*. Паспаць чалавеку не даюць! Замуж пара, а ноччу ў калідор баяцца нос паказаць. *(Рашуча.)* А ну, што, дзе тут такое?! Мы любому чорту адгэтуль дарогу пакажам!

Ніна. Пачакай, паслухаем. Мы ж не ведаем, хто там.

Усе насцярожана прыслухоўваюцца. З калідора даносіцца цяжкі стогн.

Маша *(з дакорам)*. Можа, чалавек ў бядзе... а мы... *(Адмыкае дзверы.)*

Ніна. Асцярожна, Маша!

Маша *(выглядае ў калідор, нахіляецца над чалавекам, які ляжыць на падлозе. Трывожна)*. Што з вамі? *(Здзіўлена.)* Гэта ты?

Н і н а. Хто?

М а ш а *(заходзіць у пакой)*. Твой Юзік! Да цябе прыпоўз на спатканне... Можа, выйдзеш?

Н і н а *(занепакоена)*. Што з ім?

М а ш а. Запытайся ў яго.

Н і н а *(выбягае з пакоя і стараецца прыўзняць Ю з і к а, які ляжыць у калідоры. З трывогай)*. Юзік! Юзік! *(Затым кідаецца да Клавы і плача.)*

К л а в а *(не разумеючы)*. Чаго яна? *(Да Машы.)* Што з Юзікам?

М а ш а. П'яны зусім.

К л а в а *(з жартам)*. Вось гэта каханне! На нагах стаяць не можа, а прыпоўз...

М а ш а. Памаўчы! *(Да Ніны.)* А ты кінь слініць. Лепш давайце падумаем, куды яго.

К л а в а. П'яніцу ратаваць? Калі хочаш надарвацца, цягні яго сюды. Ён заўтра дзякуй скажа... Ніна табе дапаможа. *(Да Ніны.)* Праўда?

Н і н а. Юзік не п'яніца! Не п'яніца ён! *(Асуджальна глядзіць на сваіх сяброўак.)* Вы Юзіка не ведаеце!

К л а в а *(усміхнуўшыся)*. Цяпер усё зразумела. Кахаеш!

М а ш а. Чаго стаім? Не будзе ж чалавек у калідоры ляжаць.

Клава і Маша ўцягваюць Ю з і к а ў пакой.

Н і н а *(пачынае тузаць хлопца. Занепакоена)*. Юзік! Юзік!.. *(Да сяброўак. Разгублена.)* Маўчыць...

К л а в а *(зноў са сваімі жартамі)*. Характар у яго добры. Бачыш, п'яны і не агрызаецца. Шчаслівая будзеш, Ніначка.

М а ш а *(бярэ Юзікаву руку і мацае пульс)*. Ціха!

К л а в а *(таксама з жартам)*. Усё!.. Лічы, аддаў чорту душу. Пара галасіць. Пачынай, Ніначка, мы паможам.

Н і н а *(не звяртаючы ўвагі на жарты, прыносіць шклянку з вадой, прыўзнімае галаву Юзіка і хоча яго напаіць)*. Вадзічкі глыні.

Ю з і к *(закруціў галавою)*. Толя... чакай... Гэта ж — пяршак... З вёскі?..

К л а в а *(да Ніны)*. Пытайся! Адкуль ён такі прыгожанькі з'явіўся. Вучыся размаўляць з будучым мужам.

Н і н а. Чаго мне яго ні з таго ні з сяго прыпісалі?

М а ш а. Не мы ж галасілі па ім, як па нябожчыку. Лепш скажы, што рабіць будзем, куды яго: на ложак ці пад ложак?

Н і н а *(са злосцю, пакрыўджана)*. Хоць выкіньце на сметнік! Мне ўсё адно. *(Адварочваецца да акна.)*

К л а в а *(штосьці шэпча Машы на вуха і залівaецца смехам)*. Добра?

М а ш а *(усміхнуўшыся)*. Ніначка! Хочаш, мы табе яго адукуем? Не пазнаеш!

К л а в а. Трэба правучыць, каб да новых венікаў памятаў. А ты, Ніначка, яшчэ абараняеш: «Юзік не п'яніца!» Адкуль жа п'яніцы бяруцца? Усе яны з тых самых «грамаў» пачынаюць.

М а ш а. Давай за справу. Мы яму добрую лазню без веніка наладзім!..

З а ц я м н е н н е   н а   с ц э н е.

Той жа самы пакой інтэрната. За акном раніца. На падлозе моцна храпе Ю з і к. Яго твар і рукі выпацканы ў сажу. Толькі на лбе свеціцца чыстая, нібы лысінка, месца. Над Юзікам стаяць Н і н а, М а ш а і К л а в а.

Н і н а *(прыцішана)*. Дзяўчаткі, прашу вас, гаворым у адно слова: ён сам такі выпацканы ў сажу прыпоўз.

К л а в а. На яго можна сягоння горы вярнуць — усё пацягне. Ён жа ўчора да чорцікаў напіўся.

М а ш а. Хопіць! Пасля пагаворым. Будзі, Ніна!

Н і н а. Самі... Я размаўляць з ім не змагу. *(Адыходзіць і непрыкметна знікае за прасцінаю-фіранкай.)*

К л а в а *(тузае Юзіка за адзенне)*. Эй, прымак, уставай! На работу пара!

М а ш а. Юзік! Юзік! Прачніся!

Юзік паварочваецца на другі бок.

К л а в а. Відаць, хоча тут на другую ноч застацца. Эх! Так мы яго не дабудзімся! Дай, Маша, сюды халоднай вады. Усхопіцца як міленькі.

М а ш а. Яшчэ што прыдумай!

К л а в а. Давай ваду!

М а ш а *(хоча разбудзіць Юзіка).* Ды прачніся ты!.. Чуеш?

Ю з і к *(расплюшчвае вочы. Асалавелым позіркам аглядае пакой, збянтэжана ўглядаецца ў твары дзяўчат. Усхопліваецца на ногі).* Што? А... Добры дзень...

К л а в а  і  М а ш а *(разам. З'едліва).* Дзень добры!

Ю з і к *(разгублена).* Гм!.. Тут... Як я?.. *(З усмешкай.)* А-а! Разумею...

К л а в а. Мы не разумеем.

Ю з і к. Давайце не будзем! *(Акідвае позіркам пакой.)* А дзе ж Ніна?

Дзяўчаты маўчаць.

Я не вінаваты...

К л а в а *(іранічна).* Чулі? Ён жа ахвяра. Яго злавілі. Ён вырываўся, бедненькі, а нягоднікі сілаю напаілі чалавека да непрытомнасці. *(Да Юзіка.)* Ты пакажы нам гэтых разумнікаў, мы з іх цеста зробім!

Ю з і к. Я нічога не памятаю...

М а ш а. Запытайся ў Ніны, яна табе раскажа...

К л а в а. Раскажа, як ты ноччу яе пабіў. За што? А ты, Ніначка, не хавайся, не плач, а ідзі сюды і не саромейся, пакажы сінякі, калі не верыць.

Ю з і к *(збянтэжана.)* Яе не мог пакрыўдзіць... Што вы?!

К л а в а. Выходзіць, мяне і Машу мог бы пабіць?

Ю з і к. Нікога.

М а ш а. Занадта ўпэўнены.

Ю з і к *(заўважыўшы, што правая рука выпац-*

*кана, хутка хавае яе ў кішэню).* Я сябе добра ведаю.

Клава. Напэўна, не ўпершыню напіваешся так. Можа, ты падпольны алкаголік?

Юзік *(заўважае, што выпацкана ў сажу левая рука, хуценька хавае і яе ў кішэню.)* Не ведаю, не прыпомню, што было... Але я не мог нікога біць... Паверце!.. *(Хоча плячом адчыніць дзверы.)* Адчыніце, дзяўчаткі, прашу вас...

Ніна *(выходзіць з-за шырмы-фіранкі).* Спяшайся, у Толі самагонка засталася. Ён з дому не адну бутэльку гэтай атруты прывёз... Можаш ісці і ніколі сюды не з'яўляцца! *(Працягвае Юзіку люстэрка.)* Толькі спачатку на сябе палюбуйся!

Юзік *(не вымаючы рук з кішэняў).* Для чаго? *(Убачыўшы свой твар у люстэрка, жахаецца.)* Што?.. Што са мной?

Клава і Маша заліваюцца смехам.

Клава. Прыгожы, хоць у рамачку садзі!

Маша. Сам сябе не пазнае.

Ніна *(адмыкае дзверы, расчыняе іх насцеж).* А цяпер можаш ісці, ніхто не трымае.

Юзік падаецца назад.

Маша. Як той рак, задні ход даў?

Юзік. Вады... Калі ласка, вады...

Клава. Нездаровіцца?

Юзік. Памыцца.

Клава. Умывальнік у нас па калідору направа, апошнія дзверы.

Юзік. Разумееце... я...

Маша. Хлопец называецца — баіцца выглянуць у калідор.

Юзік рашуча выбягае з пакоя.

Клава. О, пайшоў, як падсмалены!

Неўзабаве з калідора пачуўся спалоханы дзявочы крык. Праз хвіліну ў пакой урываецца Юзік.

Юзік. Мае родненькія! Хоць зарэжце мяне, а з гэтага месца больш не скрануся!.. Не магу!..

К л а в а *(здзекліва)* Ногі не трымаюць?
Ю з і к. Памыцца мне!.. Прашу вас...
М а ш а. Пайшлі! Завяду ва ўмывальнік.
Ю з і к. Там людзі.
К л а в а. Пляцеш нешта недарэчнае. Можа, захварэў і трэба выклікаць «хуткую дапамогу»?
Ю з і к. Не жартуйце.
К л а в а. Якія могуць быць жартачкі, калі чалавек стаў сярод белага дня баяцца людзей. І каго? Сваіх рабочых.

Чуецца настойлівы стук у дзверы.

М а ш а *(замыкае іх на ключ)* Нельга! Нельга! Пераапранаемся! *(Да дзяўчат. Ціха.)* Што рабіць?
Г о л а с З о с і *(з калідора)*. Маша! Адчыні хутчэй! Гэта я! Зося.
М а ш а *(нібы спрабуе адамкнуць дзверы)*. Адну хвілiначку!.. Нешта заела...

Ю з і к хаваецца пад ложак.

К л а в а. Куды? *(Выцягвае Юзіка за ногі на сярэдзіну пакоя.)*
Ю з і к *(разгублена)*. Што будзе? Дзяўчаткі! Ратуйце!
М а ш а. Тое будзе, што будзе.
К л а в а. Няхай людзі паглядзяць, палюбуюцца, якія да нас прыгожыя кавалеры прыходзяць.

Ю з і к хаваецца ў куток пакоя, завешаны прасцінай. Маша адмыкае дзверы. Заходзіць перапалоханая З о с я.

М а ш а. Зоська! Чаго такая збянтэжаная? Што здарылася?
З о с я. А вы хіба не ведаеце? Нічога не бачылі?

Дзяўчаты паміж сабой пераглянуліся.

К л а в а. Не.
М а ш а. А што?
З о с я. Ён, здаецца, у ваш або ў наш пакой ускочыў.
К л а в а. Хто?

**З о с я.** Не ведаю. На чалавека падобны, толькі галава нейкая ўся чорная, у шчацінні. Нібы першабытны...

**К л а в а** *(са смехам).* Можа, марсіянін?..

**З о с я.** Не верыце мне? Ён пабег недзе сюды.

**К л а в а.** Зоська, ідзі і маўчы, бо смеху будзе, не абярэшся.

**З о с я.** Я адна ў пакоі. Нашы на гэтай змене працуюць.

**М а ш а** *(да Ніны).* Замкні дзверы і глядзі, каб ніхто да нас не ўварваўся, а мы паглядзім, што там за першабытны чалавек аб'явіўся.

К л а в а, М а ш а і З о с я выходзяць. Ніна за імі замыкае дзверы на ключ.

**Ю з і к** *(паказаўшы галаву).* Ніначка! Мілая! Даруй! Гэта першы раз са мною такое... Не думаў, што так атрымаецца...

**Н і н а** *(з дакорам).* Я таксама не думала.

**Ю з і к.** Не магу больш так... Дай мне вяроўку! Якую-небудзь.

**Н і н а** *(іранічна).* Павесіцца?

**Ю з і к.** Спусціцца праз акно! Тут жа не першы і не другі паверх.

**Н і н а.** Табе няма больш куды апускацца. На самым дне апынуўся. Засталося толькі зверху накрыўкай...

**Ю з і к.** Хоць ты не здзекуйся... Тады паспрабую па трубе вадазліўнай. Можа, па карнізу да яе і дабяруся...

**Н і н а.** Цябе сюды сілком я не цягнула і не трымаю! Можаш ісці! Толькі на выхад, як усе людзі ходзяць...

Стук у дзверы. Ю з і к зноў хаваецца за прасціну-фіранку.

*(Спалохана.)* Хто там?

**Г о л а с П я т р а П я т р о в і ч а.** Камендант!

**Н і н а** *(нерашуча адмыкае дзверы, расчыняе іх).* Калі ласка!

Заходзіць камендант інтэрната П я т р о П я т р о в і ч.

**П я т р о П я т р о в і ч.** Замкнулася!.. Ад каго

і чаго? Думаеш, чорт лысы сюды ўварвецца?!. Добрай раніцы!

Н і н а *(узяўшыся за галаву, няветліва).* Раніцы добрай...

П я т р о П я т р о в і ч. Нешта не ў гуморы. Галава баліць?

Н і н а. Баліць...

П я т р о П я т р о в і ч *(пацягнуўшы носам паветра).* Зразумела, зразумела...

Н і н а *(спалохана).* Што?

П я т р о П я т р о в і ч *(зноў робіць глыбокі ўдых паветра).* Проста так... *(Змяніўшы тон.)* Сёння ноччу на вашым паверсе часам шуму не чулі?

Н і н а. Ноччу? Не, не чула...

П я т р о П я т р о в і ч. Сюды п'яныя ўварваліся. З нашых нехта. Цягаліся па калідорах. Хацеў затрымаць, дык яны ў вокны шуганулі па пажарнай лесвіцы. У мяне аж сэрца зайшлося: на нагах ледзь трымаюцца, а з пятага паверха праз акно ўцякаюць на злом галавы. А каб каторы сарваўся на асфальт? Хто вінаваты? Камендант! Сказалі б: гнаўся, лавіў... Ну! Трапіцца мне каторы, тады за ўсё адкажа!

У пакой уваходзяць М а ш а, З о с я і К л а в а. Яны не заўважаюць каменданта і працягваюць размову.

З о с я. Ён сюды пабег. Мне не здалося...

П я т р о П я т р о в і ч. Хто пабег?

З о с я *(збянтэжана).* Не ведаю... Але пабег, пабег...

П я т р о П я т р о в і ч. З вашага цэха?

З о с я. Не ведаю...

П я т р о П я т р о в і ч. У што ён апрануты? Рост? З выгляду які? Заўважыла?

М а ш а. Зоська! Хто табе паверыць? Пятро Пятровіч! Не звяртайце на яе ўвагу. Дзяўчына ноччу Мапасана начыталася. *(Прыкладвае да лба руку.)* Ну, так і ёсць!

П я т р о П я т р о в і ч *(не супакойваецца).* Пачакай! *(Да Зосі.)* А якой гадзіне ты яго бачыла тут?

З о с я. Толькі што.

П я т р о П я т р о в і ч *(здзіўлена).* Цяпер?

З о с я. Хвілін дзесяць назад. Я з умывальніка

ішла, а ён як выскачыць з гэтага калідора ды назад... Увесь у нешта чорнае вымурзаны.

Маша. Толькі што казала «са шчаціннем», а цяпер, выходзіць, проста прыгажун чарнамазенькі...

Клава. Праз гадзіну наша Зоська супакоіцца і скажа, што ўсё здалося.

Зося. Я не маню, і мне не здалося! Сама на свае вочы бачыла: твар чорны, у нейкую ваксу выпацканы, толькі на лбе белая лысінка.

Пятро Пятровіч *(пасля некаторай паўзы.)* Зразумела... Не чакаў ад вас такога... Не думаў...

Маша. Чаго?

Клава. Што вы маглі падумаць пра нас?

Пятро Пятровіч. А гэта дазвольце ў вас запытацца. Прызнайцеся адкрыта: колькі ўчора выпілі самагонкі і хто гэтую атруту дадумаўся сюды прынесці?

Зося. Якую самагонку?!

Клава. Што вы, Пятро Пятровіч?!

Пятро Пятровіч. Старога вераб'я думаеце на мякіне правесці? Не выйдзе! Носам чую!..

Маша. Яшчэ што-небудзь прыдумайце.

Пятро Пятровіч. Самагонкай у пакоі пахне? Пахне! У Ніны Мятлюк галава баліць? Баліць! *(Паказвае на Зосю.)* Вось і другая за галаву трымаецца.. Баліць у цябе галава?

Зося. Пасля гэтага яна ў мяне... нешта...

Пятро Пятровіч *(перапыняе).* Як вам не сорамна! А яшчэ дзяўчаты. *(Больш лагодна.)* Каб гэта было ў апошні раз!..

Зося *(з абурэннем).* Я не піла! Мне не здалося! Паверце, Пятро Пятровіч! Сама бачыла: дзе калідор паварочвае, я адтуль іду з умывальніка, а нехта ў нешта чорнае выпацканы з лысінкай на лбе як выскачыць насустрач...

Пятро Пятровіч *(зацікаўлена).* Пачакай, пачакай! Усё можа быць. *(Разважае.)* Напэўна, хтосьці з гэтых начных «гасцей» не змог выбрацца па лесвіцы. Ён недзе на кухню забраўся і там вымурзаўся ў сажу. *(Да Зосі.)* Дык, кажаш, сюды пабег? Чорны, з белай лысінкаю?

Зося. Ён недзе ўскочыў у гэты пакой, а можа, у суседні.

Пятро Пятровіч. Калі ласка, адчыніце насцеж дзверы, каб было відаць, хто праходзіць па калідоры. А мы пашукаем.

Маша *(безнадзейна)*. Чым далей у лес, як кажуць, болей дроў. *(Адчыняе дзверы.)*

Пятро Пятровіч. Што ж, пачнём з вашага пакоя!

Ніна. Вобыск?

Пятро Пятровіч. Што вы?! На гэта, вы самі ведаеце, трэба санкцыя пракурора! А я хачу толькі злавіць п'яніцу, парушальніка грамадскага парадку. І калі ўбачу ў вас самагонку, не хвалюйцеся, у міліцыю заяўляць не стану. Абыдуся папярэджаннем. *(Звяртае ўвагу на кут, які са столікам і акном завешаны прасцінай.)* А што там? *(Стараецца туды заглянуць.)*

Клава і Ніна затрымліваюць каменданта.

Клава. Там камбінацыі...

Маша. Калготкі... сушацца ля акна...

Пятро Пятровіч. А хто вам дазволіў у пакоі? Для чаго сушылка?

Клава. Проста вісяць...

Пятро Пятровіч. Вы чыталі правілы для тых, хто жыве ў інтэрнаце? Камендант мае права заглянуць у любы пакой, праверыць, каб парадак, чыстата былі. Вось, не падабаюцца мне гэтыя гардзіны. Цвікоў у сцяну набілі... *(Накіроўваецца да прасціны-фіранкі.)*

Маша *(заходзіць наперад, загараджае дарогу каменданту)*. Цвікі яшчэ [redacted] мінулага года тырчаць...

Пятро Пятровіч. Я ўпэўнены, што хтосьці з тых п'яных тут быў ноччу...

Ніна. Нічога не ведаем...

Пятро Пятровіч *(адыходзіць на сярэдзіну пакоя)*. Цяпер зразумела, хто ў вас схаваны за гэтай прасцінаю! Толькі хочацца, каб вы самі прызналіся. Вам не да твару выдумляць, што там вісяць нейкія калготкі ды камбінацыі і прыкрываацца імі... «Зялёны змей» там!

Дзяўчаты збянтэжана пераглядаюцца.

Што ж вы, мілыя, прыціхлі? Відаць, не жадаеце, каб я сарваў гэтыя гардзіны і паказаў на свет божы тое, што вы там сушыце?

Н і н а. Пятро Пятровіч! Даруйце...

М а ш а *(перапыняе)*. Ніна!

П я т р о  П я т р о в і ч *(да Ніны)*. Нешта хацела сказаць мне?

Н і н а *(разгублена)*. Галава... баліць.

К л а в а. Дзяўчаты! Мне надакучыла гэтая камедыя. Завошта нас ачарнілі?

П я т р о  П я т р о в і ч *(спакойным тонам)*. На першы раз дарую вашаму брату. Урача ў такіх выпадках не выклікаюць. Параю адно: узяць па сто... лепш па пяцьдзесят грамаў, не болей. Памагае з пахмелля... *(Паўза.)* Не глядзіце на мяне так здзіўлена. Праўду кажу.

З о с я. Я не піла!..

П я т р о  П я т р о в і ч. Я пра гэта не пытаюся. *(Павышае тон.)* А вечарам праверу, калі ўбачу тут гэтыя гардзіны ды зноў «зялёным змеем» запахне, тады запытаюся, ды яшчэ як запытаюся! А тых начных гасцей калі злаўлю, няхай не крыўдуюць: па пятнаццаць на кожнага брата буду прасіць. *(Накіроўваецца да дзвярэй.)*

З о с я *(да каменданта, рашуча)*. Я не піла! Я не хачу, каб вы гаварылі ўсё, што ўздумаецца вам!

П я т р о  П я т р о в і ч. Ах, так?! *(Вяртаецца назад.)* Я дакажу! *(Са злосцю зрывае прасціну-фіранку, але там ужо Юзіка няма. Відаць, ён уцёк праз акно, якое засталося расчыненае насцеж.)* Гм! *(Аглядае позіркам куток, глыбока ўдыхае паветра.)* Сляды замялі? І акно адчынілі, каб перагар самагона выйшаў? *(Пакідае пакой.)*

Дзяўчаты з палёгкай уздыхнулі.

К л а в а *(кінулася да расчыненага акна)*. Уцёк.

З о с я. Ты пра што?

К л а в а. Самагонны перагар, кажу, уцёк праз акно.

З о с я. Атрымліваецца, што і я з вамі балявала? *(З іроніяй.)* Дзякую за пачастунак!

Н і н а. Не ўсім.
З о с я. А каму? Табе, Клава?

Клава адмоўна ківае галавой.

*(Да Машы.)* Ты прывезла самагонку?
М а ш а. Не...
З о с я *(да Ніны)*. Дзякую!

Ніна маўчыць.

Удзячна табе, Ніначка!
Н і н а *(са слязамі кідаецца да Зосі)*. Я не вінавата! Не мне дзякуеш...
З о с я. Каму ж тады?

Усе маўчаць.

Не разумею... *(Іранічна.)* Што ж, тады ўдзячна ўсім вам! *(Выбягае.)*
К л а в а. Дурная. Чаго яна пакрыўдзілася?
М а ш а. Я яе разумею. Давай, Клавачка, сходзім да Зоські, раскажам пра ўсё, што здарылася, папросім прабачэння. Мы ж таксама вінаваты. Манілі ўсе разам... Толькі Юзіка ратавалі...

М а ш а і К л а в а выходзяць. Неўзабаве прыадчыняе дзверы Ю з і к. Ён паспеў ужо недзе памыць твар і рукі.

Ю з і к *(нясмела)*. Можна?.. Можна зайсці?

Ніна не адказвае.

*(Заходзіць у пакой.)* Калі ласка, даруй!.. Не ведаю, як здарылася...
Н і н а. Чысценькі прайшоў! Ты не піў... А якімі мы сталі ў вачах каменданта і Зоські?! Ты пра гэта падумаў?!
Ю з і к *(разгублена)*. Ніначка!.. Прабач...

У гэты час ля расчыненых дзвярэй з'яўляецца П я т р о П я т р о в і ч. Яго ніхто не заўважае.

Хочаш, я на калені перад табою стану? *(Кідаецца на калені.)* Я вінаваты перад табою! Сам прыйшоў да цябе, да ўсіх вас... на суд. Калі ласка, судзіце! Толькі не карайце мяне сваім маўчаннем!..

Пятро Пятровіч *(заходзіць у пакой).* Адзін суддзя з'явіўся. А суддзяў будзе над вамі сотні. Там, у клубе. Думаю, кожнаму захочацца паглядзець гэты спектакль.

Юзік *(узнімаецца).* Пятро Пятровіч, я хачу сказаць, што Ніна, Клава, Маша і Зоська не пілі ніякага самагону...

Пятро Пятровіч *(перапыняе).* Усё, усё! Нічога не хачу ведаць. *(Змяніўшы тон.)* Здорава ў вас атрымліваецца. Вам бы ў сапраўдныя артысты пайсці... Чыя гэта п'еса?

Юзік і Ніна моўчкі пераглянуліся.

Ніна. Юзікава...

Пятро Пятровіч. Маладзец! У Мапасаны меціш? Што ж, паглядзім, чаго ты варты на сцэне.

Юзік. Пятро Пятровіч! Я хачу вам расказаць...

Пятро Пятровіч *(перапыняе).* Не трэба! Спектакль і кіно цікавей глядзець тады, калі наперад не ведаеш сюжэт... Давай лепш дапамажы мне шафу ў калідоры да акна паставіць, каб ніякі чорт не змог адгэтуль праз акно вырвацца, калі сюды п'яны патрапіць.

Юзік запытальна глядзіць на Ніну.

Ніна. Дапамажы, чалавек просіць.

Пятро Пятровіч *(да Юзіка).* Буду чакаць. *(Выходзіць.)*

Юзік разгублены, штосьці збіраецца сказаць.

Ніна *(апярэджваючы).* Прыходзь вечарам... сюды...

Твар Юзіка расплываецца радасцю.

*(Пасля паўзы.)* Мы табе яшчэ адну лазню наладзім, без веніка. І Зоська паможа... А цяпер ідзі! Там камендант чакае...

Юзік вінавата выходзіць.

*(Стаіць ля зачыненых дзвярэй і прыслухоўваецца да крокаў Юзіка, якія паступова аддаляюцца.)* Прыйдзе... *(Радасна.)* Прыйдзе!..

*Заслона.*

# МАДАМ ІЁНАЎНА

## П'ЕСА Ў АДНОЙ ДЗЕІ

**Дзейнічаюць:**

Жанэта Іёнаўна — жанчына без пэўных заняткаў, гадоў пад 35.
Вера — яе хатняя работніца, 17 гадоў.
Раман Сакалоў — яфрэйтар Савецкай Арміі.

Пярэдні пакой кватэры Жанэты Іёнаўны. Пасярэдзіне — невялічкі столік, крэслы. На століку — гадзіннік. Справа і злева — дзверы. Адны вядуць на выхад, а другія — у спальню. Вера, у старой сукенцы з чужога пляча, мые падлогу. Праз расчыненае акно даносіцца вясёлая песня, якую недзесьці далёка спяваюць дзяўчаты. Вера адрываецца ад работы, падыходзіць да акна і з нейкім сумам глядзіць удалечыню. Уваходзіць Жанэта Іёнаўна. Яна модна апранута, у руках чамаданчык і важкая сумка.

Жанэта Іёнаўна *(зачыніўшы акно, з насцярожанай дапытлівасцю).* Ну?

Вера *(вінавата).* Назад прынесла.

Жанэта Іёнаўна *(незадаволена).* Дарага? Ці колер не падабаецца?

Вера. Пра гэта ні слова.

Жанэта Іёнаўна. Чаго яна тады хоча? Можа, этыкетку «Рыо-дэ-Жанейра»?

Вера. Што вы?! Сукенку з рук вырывала. Нават кофтачку і панчохі хацела забраць.

Жанэта Іёнаўна *(з дакорам).* І ты ўсё назад прыцягнула?

Вера. У яе грошай не было. Прасіла пачакаць да зарплаты.

Жанэта Іёнаўна. Дурніца! Больш пра цябе нічога добрага не скажаш.

Вера. Жанэта Іёнаўна! За што вы так?..

Жанэта Іёнаўна. Навошта, каб у хаце лішняе барахло ляжала? Магла б паверыць! — як-ніяк, а знаёмая.

Вера. Адкуль мне ведаць, што вы сварыцца не будзеце?! *(Пасля невялікай паўзы. З радасцю.)*

Нюрку сустрэла. Сказала, што ў палітэхнікум паступіла.

Жанэта Іёнаўна. Толькі ёй не ўздумай нічога напавер!

Вера. Дарэмна так гаворыце. Нюра добрая. Я ёй веру...

Жанэта Іёнаўна. Сваё барахло можаш і дарма!

Вера. У мяне лішняга няма.

Жанэта Іёнаўна. А мне, думаеш, яно з неба падае? Усё трэба ручкамі, усюды трэба ножкамі ды мазгамі варочаць. *(Замыкае дзверы.)* Надзьмулася, як сава! Каб хто запытаў, чаго? *(Адкрывае чамаданчык, дастае бюстгальтар і падае Веры.)* Табе падарунак.

Вера. Дзякую! Не трэба.

Жанэта Іёнаўна. Бяры, Верка! Тавар замежны. У нас такі не знойдзеш.

Вера. А мне ён і не патрэбен.

Жанэта Іёнаўна. Вёска! *(Паказвае этыкетку.)* Чытай, што тут напісана. Пакажы гэта ў вялікім горадзе, дык з рукамі адарвуць.

Вера. Жанэта Іёнаўна. Вы мяне зноў хочаце паслаць?.. З чамаданчыкам?..

Жанэта. Іёнаўна. Чаму б не прагуляцца?

Вера. На такую чорную работу не пайду!

Жанэта Іёнаўна. Чысценькай захацела?! Ідзі, пашукай! Думаеш, усюды цябе чакаюць і не дачакаюцца: калі гэта да нас Верачка з васьмю класамі адукацыі прыйдзе. Вунь, не табе раўня — прыгажуні пасля дзесяцігодкі ў канторах сядзелі! А як скарацілі штаты, дык і забегалі без прыстанішча. Ім-то можна на цалінныя землі ды на новабудоўлі ехаць. А табе? Ты ж не камсамолка! Хто табе дасць такую пуцёўку? А пойдзеш у райком, там запытаюцца: чаму не ў камсамоле да гэтага часу? І міліцыя можа зацікавіцца: чаму без прапіскі жывеш тут? Вось што я табе скажу — калі цябе не чапаюць, дык лепш сядзі і не рыпайся. Вучыся ў старэйшых, як трэба жыць на свеце.

Вера. Быць вашай памочніцай? Не!

Жанэта Іёнаўна. Чый хлеб ясі?

В е р а. Па-вашаму, я гуляю?

Ж а н э т а І ё н а ў н а. Бедная! З адным дзіцем замучылася!..

В е р а. А хто вам шые, мые, парыць, смажыць, прыбірае?

Ж а н э т а І ё н а ў н а *(сурова)*. Не падабаецца? Можаш ісці! Не трымаю! Знайду другую!

Вера крадком выцірае слёзы.

Перастань, дурніца, румзаць. Ніхто цябе не гоніць з хаты. Ды куды ты дзенешся? Жыві тут, глядзі майго Кольку. Ён жа і табе не чужы. Як ні кажы, а твайго роднага дзядзькі сын. З блізкіх ён у цябе адзін. Некалі падрасце, дык і табе будзе апора пад старасць.

В е р а. Жанэта Іёнаўна! Малю вас, прашу: кіньце гэтыя заморскія анучы. Пашкадуйце сваё дзіця...

Ж а н э т а І ё н а ў н а. Калі ў цябе ёсць лішнія грошы, дык ты іх мне аддай... Гэта, Верачка, ты гаворыш так толькі таму, што іх няма ў цябе і ніколі не было, апрача тых трыццаці рублёў, якія так хаваеш. А вось калі якая-небудзь капейчына завядзецца, дык яна захоча прывесці другую. *(Прыцішана.)* Верачка! Дзесяць працэнтаў ад рэалізацыі — твае! Бярыся! Крыўдзіцца не будзеш. Нават магу даць камандзіроўку. Дарогу і сутачныя аплачваю! Зажывеш прыпяваючы! Адзенешся з ног да галавы ў нейлоны, дэдэроны. Прапішу ў сваім доме... *(Глянуўшы на гадзіннік.)* Падумай! Добра падумай! Я з табою шчыра гавару. А румзаць няма чаго. Канчай мыць падлогу і рыхтуй абед. Прачнецца Колька, пакорміш! *(Бярэ сумку і выходзіць.)*

Вера некаторы час стаіць разгубленая, а потым, выцершы рукавом слёзы, пачынае дамываць падлогу. Раздаецца званок над уваходнымі дзвярыма. Вера адчыняе. На парозе стаіць яфрэйтар Р а м а н  С а к а л о ў.

Р а м а н. Дзень добры вам!

В е р а *(няветліва)*. Дзень добры.

Р а м а н. Дазвольце?

4*

**В е р а** *(не адразу)*. Калі ласка.

Раман заходзіць у пакой.

**Р а м а н.** Напэўна, не чакалі? Да вас заглянуў.

**В е р а.** Я нікому свой адрас не давала.

**Р а м а н.** У тым ліку і мне.

**В е р а.** Толькі два разы вас бачыла... Выпадкова...

**Р а м а н.** Больш.

**В е р а.** Вы лічыце і тое, калі я з базара бегла... А вы насустрач...

**Р а м а н.** А яшчэ?

**В е р а.** Пачакайце... *(Задумалася.)* Калі ж яшчэ?.. Не прыпомню...

**Р а м а н.** Памятаеце, я з магазіна выходзіў, а вы ў магазін?

**В е р а** *(усміхнуўшыся)*. Вы сказалі мне «Добры вечар!» і пабеглі...

**Р а м а н.** Баяўся, каб не спазніцца. Маё звальненне канчалася. А мне хацелася пагаварыць з вамі... Каб я тады на хвілінку затрымаўся, дык сягоння, як міленькі, недзе мыў бы падлогу.

**В е р а.** Мы мала адзін аднаго ведаем.

**Р а м а н.** Мяне завуць Раманам. Прозвішча — Сакалоў. Я пра вас усё ведаю.

**В е р а** *(цяжка ўздыхнуўшы)*. Што вы можаце ведаць? Можа, толькі Нюрка расказала. Вы з ёю аднойчы сядзелі на скверыку.

**Р а м а н** *(глядзіць на анучу, якую Вера трымае ў руках)*. Ваша імя — Вера. І вы ў мінулую нядзелю таксама падлогу мылі... Так?

**В е р а.** Адкуль узялі?

**Р а м а н.** Я сядзеў насупраць вашага дома. Цэлы дзень сядзеў. Думаў выйдзеце... А вы нават і ў акно не глянулі.

**В е р а.** Мяне дома не было.

**Р а м а н.** Ведаю, дзе вы былі... Вось і прыйшоў... Пагаварыць хачу... Я ўвесь тыдзень думаў пра гэта. Непакоіўся. Нават у сне бачыў...

**В е р а.** Каго?

**Р а м а н.** Вас.

**Вера.** Напэўна, усім дзяўчатам такія сны расказваеце?

**Раман.** Чэснае камсамольскае! Прысніліся. Сёння ноччу. Быццам, вы прайшлі міма, глянулі на мяне і... не прывіталіся.

**Вера** *(з усмешкай)*. Даруйце! Не заўважыла. *(Змяніўшы тон.)* Ведаеце што? Расказвайце свае сны маёй гаспадыні! Яна ахвотна паверыць.

**Раман.** Я да вас... Вы не верыце?

**Вера.** Мне трэба мыць падлогу. Прашу!

Раман пераходзіць на чыстую палавіну пакоя.

Там яшчэ не высахла.

**Раман.** Пакуль не выганяйце мяне. Я хачу запытацца: гэтая ваша мадам Іёнаўна вам што, цёткай даводзіцца?

**Вера** *(кпліва)*. Пляменніцай!

**Раман.** На эксплуататарку працуеце?

**Вера** *(з вачыма, поўнымі слёз)*. Калі ласка, ідзіце адсюль.

**Раман.** Гэтае самае і вам раю. *(Глядзіць Веры ў вочы.)* Я ведаю, чалавеку бывае цяжка, калі ён застаецца адзін на адзін са сваімі думкамі.

**Вера** *(заплакаўшы, адварочваецца)*. Ідзіце! Што вы тут забыліся?

**Раман** *(зірнуўшы праз прыадчыненыя дзверы ў спальню)*. Прабачце! Не ведаў. Чыё? Іёнаўны?

**Вера** *(больш лагодна)*. Вы ведаеце маю гаспадыню?

**Раман.** Чуў многае пра гэтую мадам.

**Вера.** Ад каго?

**Раман** *(жартуючы)*. Ваенная разведка данесла. *(Зноў заглядае ў спальню. Ціха.)* Дык гэта мадам Іёнаўны?

**Вера.** Яе... Сын. Колькам завуць.

**Раман.** Увесь у бацьку.

**Вера.** Дык вы майго дзядзьку ведалі?

**Раман.** Ён двойчы ў нашай часці выступаў са сваімі ўспамінамі пра вайну. І заўсёды пра сябе ні слова, а ўсё пра подзвігі іншых расказваў.

**Вера.** Мікалай Мікалаевіч добрым чалаве-

кам быў. *(Цяжка ўздыхнуўшы.)* Франтавыя раны страшна мучылі. І пра гэта ён нікому ні слова... Так і памёр... Вайна вінавата... І мае бацькі ад яе памерлі... У мяне яшчэ брат быў... *(Уздыхае.)*

Раман. А брат?

Вера. Няма.

Раман. Памёр таксама?

Вера. Ажаніўся. А я з вёскі пераехала сюды да дзядзькі. Ён тады працаваў у ваенкамаце. Мне хацелася вучыцца ў тэхнікуме, але не прайшла па конкурсу. Пасля дзядзька абяцаў, што ўладкуе мяне на работу ў вашу часць. Ды толькі ён нечакана памёр... *(Дастае з шуфляды століка запіску і падае Раману.)* Гэта ад Мікалая Мікалаевіча. Мне ён перад смерцю яе перадаў. Казаў, каб я зайшла з гэтай запіскай у штаб да маёра Максімава.

Раман *(прачытаўшы)*. І вы не пайшлі?

Вера. Хто мяне туды пусціць? Я ж не ваенная.

Раман. Дарэмна. Трэба было адразу пайсці.

Вера. Да каго?

Раман *(паказваючы на запіску)*. Да маёра Максімава.

Вера. Каб ён быў! Тады б пра гэта і размовы не было.

Раман *(здзіўлена)*. А дзе ж ён?

Вера. На Далёкі Усход перавялі. У другую часць.

Раман *(са смехам)*. Адкуль вы ўзялі?

Вера. Жанэта Іёнаўна сказала. Яна за мяне хадзіла ў часць, казала, што ёй усё начальства там знаёмае.

Раман *(з абурэннем)*. Ну і ну! Маёра Максімава ніхто нікуды не пераводзіў.

Вера. Што вы кажаце?

Раман. Тое, што чуеце!

Вера. Праўда?

Раман. Можаце [redacted] маёрам заўтра самі пагаварыць.

Вера. А я ёй верыла...

Раман. Чаго вы прыляпіліся да гэтай мадам Іёнаўны? Ці толькі таго сонца, што ў акне? Цяпер

людзі ўсюды патрэбны: і на Поўначы і ў Сібіры, і Цаліннаму краю, і тут на будоўлях, і на прадпрыемствах...

**В е р а.** Хто мяне туды пашле?

**Р а м а н.** Возьмуць! Абы ў вас было жаданне.

**В е р а.** Я любой працы не баюся.

**Р а м а н.** Чулі, у Сібіры самую магутную гідраэлектрастанцыю ўзводзяць? Вось я туды праз два месяцы еду. Дэмабілізуюся!.. Хочаце туды паехаць са мною?

**В е р а.** Самі бачыце — тут мне не мёд. А ў брата свая сям'я.

**Р а м а н.** Тады збірайцеся!

**В е р а.** Куды?

**Р а м а н.** Чаго вам тут батрачыць?

Чуваць, на вуліцы забрахаў сабака.

**В е р а** *(з трывогай)*. Ідзе!

**Р а м а н.** Хто?

**В е р а.** Іёнаўна.

**Р а м а н** *(глядзіць у акно)*. Нікога не відаць.

**В е р а.** Сабака брахаў. Чулі?

**Р а м а н.** Можа, на чужога?

**В е р а** *(з трывожным хваляваннем)*. Прашу, выйдзіце пакуль.

**Р а м а н.** Спалохаліся?

**В е р а.** Хачу пагаварыць [redacted] ёю адна.

**Р а м а н** *(пераварочвае крэслы)*. Няхай сама спіну гне!

**В е р а.** Што вы робіце?

**Р а м а н.** Не хвалюйцеся! Прыбярэ! *(Папярэджвае.)* Толькі адразу з ёй разлічвайцеся! Скажыце, што яна паразітка, што яна перажытак капіталізму — усё, усё выкладвайце ёй проста ў вочы. Няма чаго баяцца. Я ў калідоры.

**В е р а.** Добра! Скажу... *(Праводзіць Рамана да дзвярэй.)*

**Р а м а н.** Толькі спакойна, без панікі!

Р а м а н выходзіць. На парозе сустракаецца з Ж а н э т а й І ё н а ў н а й.

**Ж а н э т а І ё н а ў н а** *(не заходзячы ў пакой,*

*падазроным позіркам глянула на Рамана. Шматзначна).* Гм-м! *(Заходзіць, злосна, бразнуўшы дзвярыма.)* Што за ён?

Вера маўчыць.

Ты што, глухая? *(Сцягвае з рук пальчаткі, кідае іх разам з сумачкай на стол. Больш лагодна.)* Чаго прыходзіў?

Зноў Вера не адказвае.

*(Нервова.)* Чаго стаіш як пень?!

Вера. Мацней крычаць не можаце?

Жанэта Іёнаўна. Верка! Што за тон? *(Здзіўленым позіркам аглядае Веру з ног да галавы.)* Ты, галубка, нешта загаворвацца стала. *(Павышае голас.)* Што тут за непарадкі? Ах! Яшчэ падлогу не памыла?!

Раздаецца званок над дзвярыма.

Людзі ідуць! Прэч з вачэй і не псуй гасцям настрой!

Вера, стрымліваючы гнеў, выходзіць у спальню. Жанэта Іёнаўна адчыняе дзверы. На парозе стаіць Раман.

*(Нібы з радасцю.)* А-а! Прашу!

Раман. Дзякую! *(Уваходзіць.)*

Жанэта Іёнаўна *(нібы з жартам).* Вярнуліся пазнаёміцца з гаспадыняй дома? *(Падае руку.)* Калі ласка! Жанэта.

Раман *(казырнуўшы).* Яфрэйтар Сакалоў!

Жанэта Іёнаўна *(стаіць з працягнутай рукой. Какетліва).* Не хочаце даме руку падаць?

Раман *(суха).* Не асмелюся!

Жанэта Іёнаўна. Гм! *(Закурвае і працягвае Раману цыгарэты.)* Курыце?

Раман. Дзякую! Не прывык!

Жанэта Іёнаўна. І спіртнога не ўжываеце?

Раман. Не п'ю.

Жанэта Іёнаўна *(з усмешкай).* Што ж тады вам застаецца?

Раман. Я хачу сукенку прыгожую купіць.

Ж а н э т а  І ё н а ў н а *(насцярожана).* Я не прадаю... Ды навошта вам? Вы ж мужчына.

Р а м а н. Для нявесты.

Ж а н э т а  І ё н а ў н а. А можа, ёй сукенка не спадабаецца? Ці не па фігуры?

Р а м а н. Я пагляджу.

Ж а н э т а  І ё н а ў н а. Відаць, у складчыну ўсёй ротай робіце гэты сюрпрыз?

Р а м а н. Грошы ў мяне самога ёсць. Да арміі тайгу карчаваў.

Ж а н э т а  І ё н а ў н а *(гукае ў суседні пакой).* Верка! Пакажы тыя дзве сукенкі, якія табе брат прыслаў! *(Паўза.)* Верка! Ты што, заснула там?

Р а м а н *(падыходзіць да расчыненых у спальню дзвярэй. Да Веры).* Я вырашыў купіць сукенку. А размову пасля пачнём.

Ж а н э т а  І ё н а ў н а *(гнеўна).* Аслупянела там?! Адзавіся!

Выходзіць В е р а. Яна выносіць дзве прыгожыя сукенкі.

*(Да Рамана.)* Выбірайце! Абедзве аднолькавыя... *(Паказвае.)* Гэта ж нашай Верачцы брат прыслаў, з Амерыкі.

Р а м а н *(разглядаючы).* Сапраўды не нашы... замежныя...

Ж а н э т а  І ё н а ў н а. Ён там служыць савецкім консулам, генералам-аташэ... правераным...

Р а м а н *(папраўляе.)* Можа, павераным?

Ж а н э т а  І ё н а ў н а *(збянтэжана).* Ну, гэта, як гэта... Я кажу, што не кантрабандай рэчы трапілі сюды, а правераны...

Р а м а н *(да Веры).* Прашу вас, надзеньце гэтую сукенку. Я хачу паглядзець...

Вера стаіць моўчкі.

Ж а н э т а  І ё н а ў н а. Адзень, калі цябе людзі просяць!

В е р а бярэ сукенку і выходзіць у спальню.

Ёй брат прыслаў кофтачку і панчохі. Таксама замежныя. Хочаце, я іх пакажу вам...

Р а м а н. Не турбуйцеся! Мне яны не трэба.

Ж а н э т а І ё н а ў н а. Бедная Верка! Яна і другую сукенку хоча прадаць... Нічога не зробіш, дзяўчыне грошы патрэбны...

Са спальні выходзіць В е р а ў прыгожай сукенцы.

Р а м а н *(не зводзячы вачэй з Веры. У захапленні)*. Каралева!

В е р а. Не насміхайцеся.

Р а м а н. Праўду сказаў!.. Бяру! Колькі каштуе?

Ж а н э т а І ё н а ў н а. Верачка менш чым за семдзесят не аддасць...

В е р а *(перапыняючы)*. Трыццаць!

Ж а н э т а І ё н а ў н а *(папярэджваючы)*. Верка!

В е р а. А вам што? Гэта мне мой родны брат прыслаў! З Амерыкі! Генерал-аташэ, консул праверана, як вы кажаце...

Ж а н э т а І ё н а ў н а *(да Рамана)*. Бачыце, дурное дзіця! Плявузгае нешта несусветнае. Не слухайце яе. Вы павінны разумець, ну, хоць шэсцьдзесят пяць заплаціце. За такую сукенку ў просты базарны дзень, нават заплюшчыўшы вочы, кожны ўсе сто дасць. *(Паказвае этыкетку.)* Гэта ж славутая фірма!..

В е р а *(перапыняе зноў)*. Прашу трыццаць! *(Запытальна глядзіць на сваю гаспадыню.)*

Ж а н э т а І ё н а ў н а *(абуральна)*. Рабі, што хочаш! Толькі памятай: будзеш каяцца!

Р а м а н *(да Веры)*. Трыццаць? Можа, малавата?

В е р а. Даражэй Масква не прадае. *(Да Жанэты Іёнаўны.)* Дакажыце, што яна больш каштуе, мы даплоцім!

Р а м а н *(адлічвае грошы і кладзе іх на стол)*. Трыццаць пяць. *(Забірае сукенку і загортвае ў паперу.)*

В е р а *(выбягае ў суседні пакой, вяртаецца адтуль і таксама кладзе грошы перад Жанэтай Іёнаўнай)*. А я бяру гэтую, што на мне! Лічыце! Тут роўна трыццаць!

Р а м а н *(працягваючы Веры пакунак з сукенкай)*. У мяне няма ніякай нявесты. Гэта я для вас.

Вера. А сястра?

Раман. Ёсць! Толькі яшчэ маленькая.

Вера. Падрасце, ёй і падорыце! А мне няма за што. *(Становіцца побач з Раманам. Да Жанэты Іёнаўны.)* А цяпер... мы... Я...

Раман. Не саромейцеся, не бойцеся! Усё кажыце... Адкрыта! Няхай ведаюць!

Жанэта Іёнаўна *(да Веры.)* Замуж выходзіш?!

Вера маўчыць.

*(Да Рамана.)* Віншую!

Раман. Я прыйшоў не жаніцца.

Жанэта Іёнаўна. Малады чалавек! Прашу пакінуць нас для чыста жаночай размовы.

Раман запытальна глядзіць на Веру.

Вера. Сама ўсё скажу.

Раман. Добра! Я тут чакаю. *(Выходзіць.)*

Жанэта Іёнаўна *(сурова)*. Ціхоня! Дык вось якія конікі можаш выкідваць! Цяпер крыўдуй на сябе! *(Гнеўна.)* Скідай сукенку! А грошы свае вазьмі ў салдата. Я табе ні капейкі не аддам. Можаш вымятацца! Найду другую! *(Паўза.)* Бачыш, і слоў няма, каб апраўдацца!

Вера. Вы мяне ашукалі...

Жанэта Іёнаўна. Што?

Вера. Ашуканка вы!

Жанэта Іёнаўна. Ах, так! *(Б'е Веру па твары.)* Вон з маёй хаты!

Вера. Маёра Максімава перавялі на Далёкі Усход?! Так па-вашаму?.. Спекулянтка! Вас пара даўно з горада выселіць, як дармаеда...

Жанэта Іёнаўна *(спалохана)*. Верачка! Што ты пляцеш? У мяне сын малы.

Вера. Усё пра вас ведаю! Кольку можна было б у дзіцячы садзік, а вам на працу пайсці. Дык не! Не хочаце! Сваімі ўчынкамі ганьбіце добрую памяць свайго мужа — майго роднага дзядзькі!..

Жанэта Іёнаўна *(налівае ў шклянку вады. Разгублена)*. Верачка! Выпі! Супакойся!

Ты простаператамілася... Ляж адпачні... Падлогу памыю і Кольку пакармлю сама... Прабач, не ўтрымалася... нагаварыла і я табе тут бог ведае што... Нервы... нервы... З дому цябе ніхто не гоніць. Жыві! Я табе і сукенку гэтую аддам...

Вера *(уздыхаючы).* Каб устаў цяпер мой дзядзька ды глянуў, да чаго дакацілася яго Ганначка!

Жанэта Іёнаўна. Верачка! Куды ж мне працаваць? Я хворая...

Вера. Хворая?!.

Настойлівы званок. Вера адчыняе дзверы. У пакой уваходзіць Раман.

Жанэта Іёнаўна *(гнеўна).* Хто вам дазволіў урывацца ў чужы дом? З якой вы часці? Я далажу вашаму камандаванню!

Раман. Можна маёру Максімаву. І прашу не камандаваць Верай. Яна вам больш не наймічка. *(Да Веры.)* Пойдзем адгэтуль!

Вера *(збянтэжана).* Куды?

Раман. Да нас.

Вера. А дзе ж я там начаваць буду? Дзе працаваць?

Раман. Маёр Максімаў усё ўладкуе.

Вера вытрасае з чамаданчыка заморскае барахло і пачынае туды складаць свае небагатыя пажыткі.

Жанэта Іёнаўна *(замітусілася, хапае са стала грошы і хоча ўсе аддаць Веры.)* Верачка! Ты свае грошы забылася.

Вера *(бярэ адну дзесяцірублёўку, астатнія вяртае назад).* Вашы грошы мне не трэба. Я ўзяла толькі дзесятку, якую вы ў мінулым годзе пазычылі ў мяне... *(Затрымаўшыся ля парога.)* Жанэта Іёнаўна! Вы далёка зайшлі. Вярніцеся! Яшчэ не позна! Будзьце ранейшай Ганнай Іванаўнай. І памятайце, у вас быў слаўны муж, у вас расце сын!.. Бывайце! *(Бярэ Рамана за руку.)*

Раман *(казырнуўшы).* Вось так, мадам

Іёнаўна! Далажыце маёру Максімаву: вас патурбаваў яфрэйтар Раман Сакалоў!

Раман і Вера выходзяць.

У пакоі, сярод параскіданых на падлозе крэслаў, ануч стаіць адзінокая Жанэта Іёнаўна, у якой з рук падаюць на падлогу грошы. У спальні, чуваць, заплакала дзіця. Жанэта Іёнаўна нейкі час стаіць нерухома, быццам глухая, а потым у глыбокім роздуме павольна накіроўваецца ў спальню на плач сына.

*Заслона.*

# УПАРТЫ КЛІЕНТ

## ІНТЭРМЕДЫЯ

**Дзейнічаюць:**

Афіцыянтка.
Кліент.

Дэкарацыя: столік у рэстаране. Непадалёку ад сцяны стаіць на тумбачцы тэлефон. За столікам сядзіць К л і е н т. Ён спявае песню «Любімы горад». З'яўляецца А ф і ц ы-я н т к а.

А ф і ц ы я н т к а *(з абурэннем)*. Малады чалавек! Малады чалавек!..

К л і е н т *(перапыняе песню. Ажыўлена. З радасцю)*. Нарэшце! Калі ласка, дайце мне хуценька боршч, катлету, чай.

А ф і ц ы я н т к а *(са здзіўленнем)*. Вы куды прыйшлі?

К л і е н т *(не разумеючы)*. У рэстаран...

А ф і ц ы я н т к а. Чаго?

К л і е н т. Абедаць...

А ф і ц ы я н т к а. Вы хоць раз чулі, каб цвярозы чалавек, які заказвае просты абед, на ўвесь рэстаран спяваў такую песню такім тонам?

К л і е н т. Нармальная песня, нармальны тон.

А ф і ц ы я н т к а. Наш нармальны кліент лірычную не зацягне. Пасаромеецца. Могуць ненармальным палічыць. У нашага кліента прыкладна такая песня: «Вып'ем і зноўку нальём...» Разумееце?

К л і е н т. Я свайго добрага сябра ў армію праводзіў. З вакзала адразу да вас. Там і песню «Любімы горад» спявалі, і на развітанне бутэльку шампанскага перад адыходам цягніка распілі. У галаве крыху зашумела. І песня гэтая ўсё ўспамінаецца.

А ф і ц ы я н т к а. А-а! Значыць, недзе выпіваю, а ў рэстаран бягу закусіць?

Кліент. Я з работы — на вакзал. Без абеду...

Афіцыянтка. Не агітуйце! У вас на рабоце план ёсць?

Кліент. Вядома.

Афіцыянтка. У нас таксама! Заказвайце! Што вам пад закусачку?

Кліент. Боршч.

Афіцыянтка. У рэстаран па боршч не ходзяць.

Кліент. Я абедаць прыйшоў.

Афіцыянтка. На гэта сталоўка ёсць. *(Рашуча.)* Дык што будзе заказваць гарачанькае на першае — з градусамі? Каньяк, гарэлку? Іх першымі падаём. У нас культура абслугоўвання. Бывае, чалавеку вось так растлумачваеш, сілай на сто грамаў уломіш, а як вып'е, дык амаль заўсёды паўтарыць просіць, падзяку піша. Цэлыя тамы спісалі. Толькі зачастую не разбярэш, не прачытаеш... Многія кліенты з курыным почыркам пайшлі... Але пішуць ад душы... *(Змяніўшы тон.)* Дык што закажаце?

Кліент. Боршч!

Афіцыянтка. Спачатку — першае з градусамі, сагрэцца, а затым — гарачы боршч, закускі...

Кліент *(абыякава махнуў рукой)*. Давайце з градусамі!

Афіцыянтка. Армянскі пяць зорачак? А можа, грузінскі?

Кліент. Гарэлкі!

Афіцыянтка. Дзвесце?

Кліент. Сто!

Афіцыянтка. Норма — сто пяцьдзесят!

Кліент. Давайце!

Афіцыянтка выходзіць і прыносіць на падносе гарэлку. Кліент выпівае.

Афіцыянтка. На закуску: асятрына, агурочкі маласольныя, салаты — мясны, сталічны...

Кліент. Боршч.

Афіцыянтка. Можна... *(Сама сабе.)* Ну і народ пайшоў! *(Нехаця прыносіць боршч.)*

К л і е н т *(мяшае лыжкай. Насцярожана).* Што падалі? *(Адсоўвае ад сябе талерку.)* Тут жа нейкая ануча плавае.

А ф і ц ы я н т к а *(разглядае).* Мы тут пры чым?

К л і е н т. Тады, можа, мая будучая цешча вінавата?

А ф і ц ы я н т к а. Электрык падвёў! Ён паставіў новыя лямпачкі ў люстры. Святла занадта многа даў. Раней усё сходзіла... *(Ласкава.)* Боршч змяню. На другое што падаць?

К л і е н т *(тонам п'янага).* Накармілі! Я ніколі гарэлкі не піў... а тут...*(Дастае з кішэні грошы, кладзе на столік.)* Тут усе! Хапіла толькі на ваша першае з градусамі! За анучу не плачу! Раздзяліце яе з поварам!.. А мне «Кнігу скаргаў»!

А ф і ц ы я н т к а *(нібы не чуе).* Так! Сто грамаў каньяку, асетрына...

К л і е н т *(грукнуўшы кулаком па століку).* «Кнігу скаргаў» патрабую! І дырэктара!

А ф і ц ы я н т к а. Цяпер відаць, што з такім кліентам рабіць. А то прыйшоў, прыкінуўся дзіваком... «Любімы горад» зацягнуў... З двума рублямі ў рэстаран прыпёрся. І тыя шкадаваў тут выкінуць. Цяпер аднаму выцвярэзніку ўсе пятнаццаць аддасць ды на рабоце за гэта па галаве не пагладзяць! *(Падыходзіць да тэлефона. Набірае нумар.)* Алё! Тут адзін тып... П'яны! Буяніць і поўнасцю не разлічыўся... Чакаем! *(Кладзе назад трубку. У глядзельную залу).* Эй! Ёсць свабоднае месца! Хто наступны?!

*З а с л о н а.*

# ЧУЛАСЦЬ ПАДВЯЛА

ІНТЭРМЕДЫЯ

**Дзейнічаюць:**

Касір аўтавакзала.
Пасажыр.

За акенцам з надпісам «Білетная каса» садзіцца Касір — маладая жанчына.

Касір *(з абурэннем).* Кожны дзень на лятучках, на пяцімінутках адно і тое ж чуеш: «З пасажырам трэба быць ветлівымі, культурна размаўляць, чуласць праявіць дзе трэба...» Хіба мы без душы, самі не ведаем?!

Да акенца падыходзіць Пасажыр. Ён усхваляваны.

Пасажыр *(адразу да Касіра.)* Няшчасце ў мяне... Вось тэлеграма... Прашу білет да Заазер'я. Мне трэба там праз гадзіну быць...

Касір *(прачытаўшы тэлеграму, спачувальна ўздыхае).* Брат?

Пасажыр. Родны... Адзін у мяне... быў...

Касір. Жанаты? Напэўна, дзеткі засталіся?

Пасажыр. Двое.

Касір. Вялікія?

Пасажыр. Хлопец у арміі. Дзяўчына на будоўлі...

Касір. Можна сказаць, на свой хлеб пайшлі.

Пасажыр. Еду і не верыцца... Здаецца, брат па-ранейшаму сустрэне. Пасядзім, пагаворым...

Касір. Што ж зробіш! Жыццё... *(Паўза.)* А можа, памылка?

Пасажыр *(паказвае на тэлеграму).* Ніхто жартаваць не стане.

Касір. Нябожчык хварэў?

Пасажыр. Толькі летась, калі зімою прыязджаў да мяне, тыдняў два з прастудаю ляжаў. Гарачка была, у пот кідала...

К а с і р. Гэта добра, што пацеў. У нашай вёсцы Прылукі, можа, ведаеце?

П а с а ж ы р. Не, не чуў.

К а с і р. Дык вы не тутэйшыя?

П а с а ж ы р. Здалёку.

К а с і р. Адкуль жа самі?

П а с а ж ы р. З Новасібірска.

К а с і р. Нябось і там сушыць?

П а с а ж ы р. А ў нас пазаўчора цэлы дзень з грымотамі ліў. Толькі сёння вылецеў.

К а с і р. Гэта добра, што вылецелі. Бывае па цэлым тыдні людзі ў аэрапартах загараюць. Самы надзейны транспарт — аўтобус.

П а с а ж ы р *(перапыняе)*. Я прасіў білет...

К а с і р. Куды?

П а с а ж ы р. Казаў жа, да Заазер'я.

К а с і р *(глядзіць у расклад руху аўтобусаў, які вісіць на сцяне)*. Так... так... У Заазер'е... *(Спахапіўшыся, звоніць па тэлефоне.)* Дыспетчарская! Затрымайце адпраўку аўтобуса на Заазер'е... На адну хвіліначку... Што?.. Пайшоў?.. Калі?.. Хвіліну назад... *(Кладзе трубку.)* Паехаў...

П а с а ж ы р. Хто?

К а с і р. Ваш аўтобус.

П а с а ж ы р. Наступным рэйсам паспею?

К а с і р. У пяць гадзін вечара.

П а с а ж ы р *(з абурэннем)*. Навошта мне паўгадзіны галаву дурылі?

К а с і р. Служба такая. Мы павінны быць ветлівымі, чулымі да чужога гора... Нас гэтаму кожны дзень вучаць.

П а с а ж ы р. Колькі кіламетраў да Заазер'я?

К а с і р. Трыццаць два.

П а с а ж ы р *(падае свой чамаданчык праз акенца ў касу)*. Прашу! Няхай у вас тут пабудзе. А я пяшком... Можа, паспею... *(Выбягае.)*

К а с і р *(услед)*. Паспееце! Толькі бягом нацянькі і адразу на могілкі! *(Да гледачоў.)* Вось так кожнаму трэба ўдзяліць увагу, паспачуваць, параіць... *(Уздыхнуўшы.)* Такая наша работа!

*З а с л о н а.*

# СОН СПРАЎДЗІЎСЯ

## ІНТЭРМЕДЫЯ

**Дзейнічаюць:**

Ён.
Яна.

**Ё н, відаць, толькі што прачнуўся. Праціраючы вочы, ляні-ва пацягваецца. Заходзіць Я н а з авоськай у руках.**

Я н а *(радасна)*. Пуся-Пусінька, дай бусінькі. *(Цалуе Яго.)*

Ё н. Муся-Мусінька! *(Здзіўлена.)* Ты ўжо на рынак схадзіла?

Я н а *(паказваючы авоську)*. Зірні, якой маліны купіла.

Ё н *(усміхнуўшыся)*. А мне прыснілася, што я на рынку з гэтай авоськай быў і прадаваў ягады.

Я н а. Чырвоныя?

Ё н. Чарніцы. Прадаю, а ягад усё больш і больш становіцца.

Я н а. Пуся! Калі ты сон бачыў? Звечара?

Ё н. Толькі што.

Я н а *(з трывогай)*. Божа мой! Сёння ж нядзеля! Значыць, усё збудзецца да абеда...

Ё н. Ты аб чым вядзеш гутарку?

Я н а. Бачыць у сне чорныя ягады — значыць, нейкія слёзы, нейкая сварка будзе. І трэба яшчэ ў нядзелю такі сон! Успомніш мяне, да абеду усё збудзецца.

Ё н. Муся-Мусінька! Не звяртай увагі. Мала што чалавеку прысніцца. *(Цалуе Яе.)* Я пастараюся не даць ніякай зачэпкі для сваркі. Ты ж ведаеш — я першы не пачну.

Я н а *(абурана)*. А хто? Я, па-твойму, пачну?

Ё н *(насцярожана)*. Муся! Давай не будзем! А то і сапраўды сон збудзецца.

Я н а. Не выкручвайся, як уюн! Выходзіць, я

без прычыны першая задзіраюся? Выходзіць, я заўсёды першая калатэчу ў хаце заводжу? *(Падступае да Яго.)* Так? Адказвай!

Ён. Муся!

Яна *(да гледачоў).* Чуеце? Я з ім хачу спакойна пагаварыць, а ён не даецца. *(Да Яго.)* На дыбкі становішся?!

Ён. Прашу! Памаўчы хоць сягоння! А то зранку завялася, як той удод, усё: ду-ду-ду!..

Яна. Хто удод?

Ён. Бачыш, кранула, не падабаецца, што параўнаў з удодам. А табе, значыць, усё можна! Можна мяне і ўюном, які выкручваецца, і кім хочаш абазваць? Чаго ты хочаш ад мяне, чаго ты лезеш асою ў вочы?

Яна *(да гледачоў).* Вось у нас і загарэўся сырбор. *(Бярэ ў рукі кій. Да Яго.)* Пуся! Хадзем у другі пакой, каб людзі не чулі і не бачылі...

Ён *(у глядзельную залу).* Усё-такі сны збываюцца. Бачыце, і сварка пачалася і, напэўна, слёзы будуць... *(Нехаця выходзіць за Ёю.)*

*Заслона.*

# КАЦЁЛ

## ІНТЭРМЕДЫЯ

**Дзейнічаюць:**

Дырэктар — кіраўнік прадпрыемства «Кацёлгазапар».

Слесар — дзяжурны па кацельні.

У свой кабінет важна з папкай у руках уваходзіць Дырэктар.

Дырэктар *(з паклонам.)* Прывітанне табе, мой новы дырэктарскі стол! Дзень добры табе, маё новае начальніцкае крэсла! Будзем знаёмы: Папсуй Папсуіч Папсуй — былы кіраўнік культуры і нарыхтовак салат-гарбуз, булачных вырабаў і баран-воўна! Цяпер вось сюды перакінулі, умацоўваць «Кацёлгазапар». Што ж, будзем і тут наводзіць свае парадкі: каму па́ру зададзім, а каму і газу... *(Садзіцца ў крэсла і пачынае праглядаць карэспандэнцыю, якая ляжыць на стале. Чытае.)* «Інструкцыя па бяспецы эксплуатацыі газавых і паравых катлоў...» *(Прабягае вачыма тэкст).* «Былі выпадкі аварый...» *(Разважае.)* Выпадкі аварый... *(Набірае нумар тэлефона.)* Мілая! Дайце кацельню!.. *(Паўза.)* Хто дзяжурыць?.. Слесар-манцёр?.. З вамі гаворыць ваш новы дырэктар. Неадкладна зайдзіце да мяне! У кабінет!.. Ніяк не можаце?.. Не мае значэння, што вы там адзін!.. Дзяжурыце?.. Тым больш! Я загадваю!.. *(Павышае голас.)* Які ціск? Якая пара?.. Хто ў вас дырэктар? Я ці вы кіруеце тут?.. Калі праз пяць хвілін не будзеце стаяць перада мною, звольню за парушэнне працоўнай дысцыпліны!.. *(Кладзе трубку тэлефона. Нервова ходзіць па кабінеце.)*

З'яўляецца Слесар. Яго твар запэцканы ў мазут, у руках вялізны гаечны ключ.

Слесар *(адразу. Занепакоена).* Таварыш

дырэктар! Там па́ра... ціск павышаецца... Кажыце хутчэй! Што здарылася? Чаго?..

Д ы р э к т а р *(разгневана перапыняе).* Чытайце! *(Кідае на стол перад Слесарам «Інструкцыю...»).* Распусціліся! Я тут парадак навяду!..

Дзесьці непадалёку чуваць выбух. Ён моцна скаланае сцены кабінета.

С л е с а р *(з жахам хапаецца за ґалаву).* Усё!..

Д ы р э к т а р *(спалохана).* Што такое?

С л е с а р. Кацёл рванула... *(Апускаецца ў крэсла, якое стаіць перад сталом для наведвальнікаў).* Сядзем разам, таварыш дырэктар!..

Д ы р э к т а р *(панікла).* Труба!.. *(Спрабуе сесці ў сваё крэсла, але міма яго валіцца пад стол.)*

*З а с л о н а.*

# ДАМА З МІНІСТЭРСТВА

СЦЭНКА

**Дзейнічаюць:**

Кіраўнік — начальнік аўтакалоны.
Дама — работніца міністэрства.

К і р а ў н і к *(сядзіць за сталом у кабінеце і вядзе тэлефонную размову).* Мікалай Пятровіч! У мяне быў нядаўна шафёр Васільчук. Учора пясочыў яго за аварыю машыны, а сягоння ён асмеліўся прасіць выхадныя! Ніякіх размоў з Васільчуком! Выпісвай яму на суботу і нядзелю пуцявы ліст! І няхай вязе людзей на экскурсію! Гэта будзе яму добрае пакаранне! *(Паўза.)* Я начальнік аўтакалоны, а ты дыспетчар! Не першы год са мной працуеш і павінен ведаць: я ад сваіх рашэнняў ніколі не адступаю! Пасылай Васільчука! *(Набірае другі нумар тэлефона. Лагодна.)* Таварыш сакратарка! Са спазненнем віншую... *(Насцярожана.)* Што?.. З нашага міністэрства?.. Хто?.. Апалінарыя Георгіеўна?.. У прыёмнай?.. Чакае?.. Прасі, прасі... *(Кладзе трубку тэлефона, накіроўваецца да дзвярэй.)*

У кабінет уваходзіць Д а м а. Яна ўвесь час трымаецца годна, гаворыць спакойна, пераканаўча.

Д а м а. Добрай раніцы!

К і р а ў н і к. Раніцы добрай! Апалінарыя Георгіеўна, калі ласка, сядайце!

Д а м а. Дзякую! *(Садзіцца.)* Дык гэта вы будзеце Сцяпан Сцяпанавіч, кіраўнік аўтатранспартнай калоны?

К і р а ў н і к. Так. А вы, Апалінарыя Георгіеўна, з нашага міністэрства?

Д а м а. Яна! Тая самая, каторая даўно збіралася пагаварыць пра стыль вашай работы, кіраўніцтва.

К і р а ў н і к. Напэўна, нехта напісаў нешта пра нас?

Д а м а. Вядома, завітала не прэмію ўручаць.

К і р а ў н і к. Пісаць лёгка. Можна да ўсяго, калі захочаш, прыдрацца... *(Нервова.)* А вось план!.. Дысцыпліна...

Д а м а *(перапыняе).* Прашу, на паўтона цішэй. Вы не з вадзіцелем размаўляеце. І я ваша не падначаленая.

К і р а ў н і к *(больш спакойна).* Прабачце! Нервы...

Д а м а. Сямён Сямёнавіч! А ў каго іх няма? Не заўсёды ўсё ідзе гладка, як па масле. А што было б, каб кожны з нас свой дрэнны настрой прыносіў на работу, у калектыў? Тады б і я магла ва ўсіх кабінетах такі пыл падняць, што сам бы міністр тры дні чхаў. Людзі любяць чысціню... добрае слова.

К і р а ў н і к. І мы стараемся.

Д а м а. А не залішне?

К і р а ў н і к. Як разумець?

Д а м а. Вы практыкуеце раніцою лятучкі?

К і р а ў н і к. Праводзім... штодзённа...

Д а м а. Якая іх задача?

К і р а ў н і к. Аналізуем вынікі мінулага рабочага дня, вырашаем планы на бягучы.

Д а м а. Мне дакладна вядома: вы замест лятучак разносныя лекцыі і натацыі вадзіцелям учыняеце, узвінчваеце ім нервы, затым садзіце людзей за руль і выпраўляеце на дарогу. Адгэтуль і аварыі!

К і р а ў н і к. Хтосьці вам занадта на нас... Прадузята...

Д а м а. Не будзем памінаць вашы другія грахі. Возьмем толькі пазаўчарашні выпадак, што здарыўся ў дарозе з вадзіцелем Васільчуком. Чалавеку трэба было паспачуваць, маральна падтрымаць. Аўтаінспекцыя ў яго правы не забрала, нават і пракола ў талоне не зрабіла. А вы Васільчуку адразу лазню...

К і р а ў н і к. Аварыя — ёсць аварыя. За гэта падзяк не выносяць.

Д а м а. На машыну наляцеў п'яны ліхач. Ва-

сільчук цудам уцалеў, ля разбітага грузавіка паўсутак на ўзбочыне дарогі правёў. А калі вярнуўся, вы не пацікавіліся, ці зможа чалавек за рулём сядзець. І ў пакаранне на двое сутак зноў у рэйс. Падкрэсліваю, не дровы вазіць, а людзей!

К і р а ў н і к. Апалінарыя Георгіеўна! Не магу ж я ў шафера, які працуе без аварый, забіраць выхадныя дні.

Д а м а. Вы маральна прыбілі Васільчука. Ён цяпер сябе ў рукі ўзяць не можа, не толькі машыну. На гэты раз, калі здарыцца аварыя, хто будзе вінаваты?.. Якое вы прымеце рашэнне, каб прадухіліць няшчасце пакуль не позна?.. Я чакаю адказу!

К і р а ў н і к *(пасля некаторага вагання бярэ трубку тэлефона)*. Дыспетчарская?! Мікалай Пятровіч! Затрымай машыну Васільчука... Што?.. Ён сам хоча пагаварыць са мною?.. Перадай яму трубку... *(Спакойна.)* Таварыш Васільчук?! Адмяняю ваш рэйс на выхадныя. Вам трэба адпачыць. Вы ж тую ноч не спалі ды і гэтую, напэўна, перажывалі. Усё здарылася не па вашай віне. Такое ў нашай рабоце можа з кожным... Няма за што дзякаваць... Кажаце, гара з плячэй зваліласяі?.. Калі ласка, ідзіце адпачываць. Усяго добрага вам! *(Кладзе трубку.)*

Д а м а. Адчуваеце, як добрае слова можа акрыліць чалавека! Вам, Сцяпан Сцяпанавіч, трэба больш звяртаць увагу на галоўную дарогу, па якой ідзе ваша аўтакалона, яе людзі, машыны.

К і р а ў н і к. Стараемся.

Д а м а. Добра, што вы мяне зразумелі... *(Спахапіўшыся.)* Сцяпан Сцяпанавіч! Каб не забыцца. У мяне яшчэ адно пытанне да вас.

К і р а ў н і к *(насцярожана)*. Калі ласка!

Д а м а. Я чытала аб'яву, што вам патрэбна прыбіральшчыца.

К і р а ў н і к. Так, аб'яўлялі.

Д а м а. Жыву я тут непадалёку, на гэтай вуліцы. А працую ў міністэрстве нашым. Дзве гадзіны трачу кожны дзень на дарогу туды — назад. Вы ўжо здагадваецеся, у чым мая просьба?..

К і р а ў н і к. Не! Не разумею...

Дама. Хачу да вас прыбіральшчыцай. Усё-такі пры доме. І мой муж тут працуе. Васільчук. Ціхоня такі! Можа, за яго калі-небудзь зноў заступлюся. І вам што-небудзь добрае параю... *(Паўза.)* Як, Сцяпан Сцяпанавіч, возьмеце?

Кіраўнік *(здзіўлена)*. Вас? Прыбіральшчыцай? Да нас?

Дама. Сюды! З пераводам.

Кіраўнік *(рашуча)*. Не! Не! Апалінарыя Георгіеўна не! Вам толькі ў міністэрстве працаваць!

*Заслона.*

# ЗМЕСТ



Александр Иванович Махнач
**Не говори: моя хата с края...**
*Пьесы*
*Минск, издательство «Мастацкая літаратура»*
На белорусском языке
Рэдактар А. С. Разанаў. Мастак Н. Л. Шаўшукова. Мастацкія рэдактары А. І. Труханава, А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Т. М. Собалева.
ІБ № 658
Здадзена ў набор 04.10.79. Падп. да друку 16.01.80. АТ 05013. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,46. Ул.-выд. арк. 4,78. Тыраж 5000 экз. Зак. 2654.
Цана 30 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.